УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
Ч-11

Кніга выдадзена рупнасцю земляка Аляксандра Міско

**ISBN 978-985-7089-98-7**



## Адольф Зянюк — рэдактар «Студэнцкай думкі»



*Адольф Зянюк*

У першай палове XX стагоддзя ў Заходняй Беларусі жылі два таленавітыя юнакі — Адольф і Язэп Зенюкі. Іх заўсёды блытаюць даследчыкі нашай літаратуры. Творчасць і справы Адольфа Зенюка прыпісваюць Язэпу Зенюку і наадварот. Але гэта зусім розныя хлопцы-беларусы, якія шмат добрага зрабілі для нашай нацыянальнай культуры. Калі пра Адольфа Зенюка прыгадвае ў сваіх успамінах пісьменніца Зоська Верас (1892–1991), то пра Язэпа Зенюка звестак захавалася дужа мала. Нават не ўдалося адшукаць ягоны фотаздымак. Цікава, а чаму ж пра Язэпа Зенюка ніколі не згадвала гэтая ж Зоська Верас? Яна ж яго добра ведала, чытала яго выдатныя артыкулы, найперш прысвечаныя нашай гісторыі?..

Язэп Зянюк быў земляком Адольфа Зенюка з мястэчка Сухаволя Сакольскага павета (Беласточчына). І, магчыма, гэта быў блізкі сваяк Адольфа. Язэп Зянюк, як і Адольф Зянюк, з'яўляўся дзеячам Беларускага студэнцкага саюза, быў сябрам рэдкалегіі часопіса «Беларуская думка», які рэдагаваў пэўны час і Адольф Зянюк. На старонках гэтага часопіса Язэп Зянюк апублікаваў два вялікія артыкулы: «Аб польскім студэ-



*Сябры Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі Людвіка Сівіцкая і Юзя Грынкевіч, стаяць (злева направа) Ян Раманскі, Адольф Зянюк, невядомы, крайняя справа — Марыся Бобрык, 1913 г.*

нцтве У. С. Б. і яго адносінах да беларускага студэнцтва» (1929 г.) і «Па поваду святкавання Вітаўтавага юбілею» (1930 г.). Выдатныя артыкулы.

Друкаваўся Язэп Зянюк і ў іншых віленскіх выданнях, найперш у «Новай варце». Артыкулы яго, напісаныя ў першай палове ХХ стагоддзя, не састарэлі і сёння. Таму іх трэба збіраць па ўсіх старых выданнях і выдаваць асобнай кніжкай.

У 1909 годзе ў Гародні быў створаны гуртоk беларускай моладзі, які праіснаваў да пачатку Першай сусветнай вайны. Арганізатарам гэтага гуртка быў ксёндз Францішак Грынкевіч, які, як пісаў Аляксей Пяткевіч, будзіў беларускі дух. Актыўнымі сябрамі гуртка ў асноўным была моладзь з Сакольшчыны. Сябрамі Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі (ГГБМ) з'яўляліся Адам Бычкоўскі, Зоська Верас, Янка Ляўковіч, Язэп Лявіцкі, Уладыслаў Чаржынскі, Янка Чарапук, Марыся Бобрык, Баляслаў Грабінскі, Адольф Зянюк і іншыя юнакі і дзяўчаты. Сярод іх не прыгадваецца Язэп Зянюк. Значыць, ён быў намнога маладзейшы за свайго земляка і сваяка Адольфа Зенюка.

Сябры гуртка, «стараючыся развіваць беларускую свядомасць і годнасць людзей, ладзілі традыцыйныя для таго часу грамадска-культурныя акцыі: на сваіх сходах чыталі беларусазнаўчыя рэфераты, ставілі спектаклі на роднай мове, дэкламавалі вершы беларускіх паэтаў, прэзентавалі музычныя праграмы на нацыянальным матэрыяле з удзелам струннага аркестра, хору, салістаў, дуэтаў. Неаднаразова выязджалі са спектаклямі і канцэртамі на вёску, распаўсюджвалі



беларускія кнігі» (А. М. Пяткевіч. Старонкі спадчыны. Мінск, 2006. С. 55 ).

Апошнім старшынёй Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі быў Адольф Зянюк (1895–1938). У лісце да Зоські Верас ад 19 кастрычніка 1913 года Адольф Зянюк пісаў: «Неяк паклікаў нас да сябе кс. Ф. Грынкевіч і радзіў нам змяніць крыху статут гуртка. Лепш сказаць, дапоўніць. Апрача напрамку самаасветнага дадаць пункт аб самавыхаванні. Мы згадзіліся. Адначасова пазнаем нашу мову, вывучаем гісторыю, геаграфію Беларусі, як і раней…».

Але вясной 1914 года сябры гуртка раз'ехаліся па хатах, каб болей у Гародню не вяртацца, бо пачалася Першая сусветная вайна.

У 1916 годзе Адольфа Зенюка мабілізавалі ў войска. Ён трапіў у Кіеў, дзе нават паспеў скончыць нейкую ваенную вучэльню. Потым сухавольскі юнак трапляе ў Петраград. Там паступае на юрыдычны факультэт мясцовага ўніверсітэта. Акрамя вучобы, ён прымае актыўны ўдзел у працах беларускіх студэнцкіх арганізацый, а таксама ў агульна-грамадскім беларускім руху. Як успамінае Зоська Верас, Адольф Зянюк, «як сталы сябра сабранняў у прафесара Б. Эпімах-Шыпілы, у курсе ўсіх петраградскіх беларускіх падзей, і таму з'яўляецца як бы сувяззю паміж Петраградам і Менскам. Яго лісты да мяне адбіваюць увесь беларускі рух у Петраградзе, і таму чыталі іх супольна з усімі менскімі беларусамі, якія збіраліся ў Беларускай хатцы (Захараўская, 18). І, наадварот, мае лісты аб нашай працы ў Менску чыталі на сабраннях у прафесара Эпімах-Шыпілы» (Зоська Верас. Я помню ўсё. Гародня; Wrocław, 2013. С. 24).

Пасля Петраграда Адольф Зянюк вяртаецца ў Вільню. Працягвае вучобу ў Віленскім універсітэце і актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю. Ён становіцца сябрам Беларускага студэнцкага саюза (БСС), уваходзіць у рэвізійную камісію ўрада БСС. Разам з іншымі сябрамі БСС наладжвае розныя вечары, сустрэчы, дыскусіі. Сам выступае з дакладамі. Напрыклад, 17 студзеня 1926 года Адольф Зянюк перад сябрамі БСС прачытаў лекцыю «Крызіс парламентарызму», а 4 сакавіка БСС ладзіў тэматычны вечар, на якім з рэфератам «Адраджэнне Беларусі» выступіў таксама.

Дзейнасць Беларускага студэнцкага саюза асвятлялася ў газеце «Змаганне», а пасля ў «Беларускай крыніцы», дзе БСС была адведзена

цэлая паласа («Студэнцкая трыбуна»). З 1924 года па 1935 год друкаваным органам Беларускага студэнцкага саюза і ўсяго руху становіцца грамадска-палітычны, навуковы і літаратурны часопіс «Студэнцкая думка». Першым рэдактарам-выдаўцом становіцца Адольф Зянюк.

Рэдакцыя «Студэнцкай думкі» разам са сваім рэдактарам імкнулася, каб на старонках часопіса быў прадстаўлены «агульны ідэйны кірунак адраджэнскай беларускай моладзі». Часопіс друкаваў хроніку найважнейшых падзей грамадска-палітычнага і нацыянальна-культурнага жыцця насельніцтва Заходняй Беларусі, БССР, Чэхаславакіі, Прыбалтыкі. Падрабязна асвятляў дзейнасць БСС. Змяшчаў таксама паведамленні аб працы беларускіх арганізацый Вільні. Друкаваліся на яго старонках разнастайныя публіцыстычныя артыкулы і мастацкія творы. Чытачы знаёміліся з літаратурнымі творамі Н. Арсенневай, В. Вальтара, Ф. Грышкевіча, І. Дварчаніна, Х. Ільяшэвіча, А. Бартуля, М. Тулейкі і іншых аўтараў. Змяшчаліся даследчыя працы А. Луцкевіча, Я. Станкевіча, І. Сланеўскага, А. Цвікевіча і г. д.

У 1927 годзе Адольф Зянюк заканчвае Віленскі ўніверсітэт і з дыпломам магістра права едзе працаваць на Палессе. Але ненадоўга. Хутка яго прызначаюць кіраўніком беларускага аддзела пры Віленскім радыё. І ён вяртаецца ў Вільню. Кожны тыдзень беларус выступае па радыё, чытае лекцыі, запрашае ў студыю іншых таленавітых беларусаў. Гэта дзякуючы Адольфу Зенюку, вельмі часта па радыё гучаць песні ў выкананні хору Беларускага студэнцкага саюза пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, а таксама песні ў выкананні іншых беларускіх спевакоў і кампазітараў. Аб прызначэнні на працу на радыё Адольфа Зенюка, «Студэнцкая думка» (1928 г. № 2)паведамляла: «Трэба зазначыць, што гр. Адольф Зянюк з’яўляецца зусім адпаведнаю асобаю кіраваць беларускім аддзелам у радыё, дзеля чаго аддзел беларускі вядзецца зусім добра».

Пражыў Адольф Зянюк усяго 44 гады. Яго не стала ў 1938 годзе ў Вільні, дзе яго і пахавалі сябры.



## Франук Грышкевіч на старонках «Студэнцкай думкі»

Часопіс «Студэнцкая думка» выходзіў на беларускай мове ў 1920–1930-х гадах у Вільні. Яго рэдагавалі І. Гагалінскі, Я. Шутовіч, М. Шкялёнак, С. Станкевіч, М. Якімец, а таксама Адольф Зянюк (1895–1938).



*Вокладка часопіса*

Часопіс друкаваў хроніку найважнейшых падзей грамадска-палітычнага і нацыянальна-культурнага жыцця ў былой Заходняй Беларусі, БССР, Чэхаславакіі, Латвіі, падрабязна асвятляў дзейнасць саюза, змяшчаў паведамленні аб працы Таварыства прыяцеляў беларусаведы, пра ўдзел вучняў Віленскай беларускай гімназіі ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе. Шмат увагі аддаваў Аб’яднанню беларускіх студэнцкіх арганізацый у Празе, гісторыі беларускага студэнцкага руху, зберажэнню і папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

Часопіс узнімаў праблемы філасофіі, культуралогіі і паліталогіі, нацыянальна-культурнага адраджэння, псіхалогіі. Змяшчаў таксама літаратуразнаўчыя і навуковыя працы, лекцыі, успаміны, паэтычныя творы, запісы вуснай народнай творчасці, апавяданні, рэпрадукцыі карцін. З друку выйшла 15 нумароў, з іх 1 быў канфіскаваны.

На старонках «Студэнцкай думкі» шмат гадоў друкаваўся Франук Грышкевіч (1904–1946) — беларускі паэт, публіцыст, перакладчык, педагог, доктар філасофіі. Ён, як і Адольф Зянюк, быў родам з мястэчка Сухаволя (Беласточчына). Скончыў Віленскую беларускую гімназію і літаратурны факультэт Карлавага ўніверсітэта. З 1940 года загадваў беларускімі школамі Віленскай школьнай акругі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў дырэктарам Віленскай беларускай гім-



*Франук Грышкевіч (у першым радзе пяты справа) сярод выкладчыкаў і студэнтаў Віленскай беларускай гімназіі*

назіі. У 1944 годзе ўдзельнічаў у Другім Усебеларускім кангрэсе, за што быў арыштаваны ў Вільні, пасля заняцця яе Чырвонай Арміяй.

Франук Грышкевіч актыўна друкаваўся на старонках многіх беларускіх выданняў. Асабліва актыўна ён супрацоўнічаў з часопісам «Студэнцкая думка». Ужо ў першым нумары (снежань, 1924 г.) «Беларускай думкі» юнак з Сухаволі друкуе пераклад артыкула Аляксандра Ельскага «Адам Міцкевіч на Беларусі» з польскай мовы на беларускую. Гэты артыкул быў апублікаваны ў кніжцы, якая выйшла да 100-годдзя Адама Міцкевіча ў 1898 годзе.

У гэтым самым нумары часопіс публікуе і верш Франука Грышкевіча «Музей Івана Луцкевіча», напісаны аўтарамі да пятых угодкаў ягонай смерці (1919–1924). Аўтар шчыра прызнаецца:

Ты люстра нашых часаў волі,
Галоснай славы у сусвеце.
Ты сведак слаўных бойкаў ў полі,
Святым будзь, мёртвы! — просяць дзеці…

У другім нумары (студзень, 1925 г.) «Студэнцкай думкі» Франук Грышкевіч публікуе новы свой пераклад з польскай мовы артыкула



Антона Навіны (Антона Луцкевіча) «Падсведамае і сведамае ў «душы беларускай» Сыракомлі». Ён апублікаваны з падзагалоўкам «Паводле Антона Навіны «Przegląd Wileński» № 18 — 1924 год». Гэта адзіны вядомы нам прыжыццёвы пераклад польскамоўнага арыкула Антона Луцкевіча. Хаця Луцкевіч з'яўляецца таксама аўтарам публікацыі «Аб беларускай душы Сыракомлі»: (Уражанні з ушанавання 55-годдзя смерці паэта)», які быў апублікаваны ў «Przegląd Wileńskim» у 1937 годзе (№ 9).

У гэтым самым нумары змешчаны і верш Франука Грышкевіча «Пяльгрым», які, дарэчы не ўвайшоў у кнігу «Вяртанне да сваіх» (Беласток, 1999).

Сакавіцкі нумар «Студэнцкай думкі» за 1926 год адкрываецца патрыятычным вершам Франука Грышкевіча «З народу мы…». У гэтым вершы аўтар заклікае быць заўсёды з народам, бо разам з народам «церпім мы адны за волю і свабоду». А тых, хто супраць народу, аўтар адганяе «проч ад нас». Дарэчы, у кнізе «Вяртанне да сваіх» (Беласток, 1999), якую мне пашанцавала складаць, падборку вершаў Франука Грышкевіча я назваў «З народу мы…». Верш пачынаецца радкамі:

З народу выйшлі і ў народ
Мы пойдзем поўны веры…
З народам пойдзем мы ўпярод,
Як верныя жаўнеры…

Першы нумар «Студэнцкай думкі» за 1928 год публікуе артыкул Франука Грышкевіча «Думкі», які аўтар напісаў у Празе ў снежні 1927 года. Гэта студэнцкі роздум пра чалавечае жыццё, пра беларусаў. У сваім артыкуле ён пытаецца: «Дакуль гэта ў беларускіх газетах і літаратуры будуць пісаць, што славянскі апостал Кірыл стварыў і пісаў «кірыліцаю»? Чаму працы Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта ў Менску выдаюць па-расейску? Чаму Беларускае навуковае таварыства не выдае, хаця б у год адзін раз, свае часопісы? Чаму аб ім мала хто чуе, калі аб украінскім, славацкім і сербалужыцкім усюды чытаць можна? Чаму нашыя школьныя падручнікі выдаюцца паводле паражытае сістэмы, калі мы ўжо ў Вільні маемо людзей, якія добра знаюць педагагічны метад школы нашых дзён?.. Чаму ў нас няма камітэту апекі над магіламі памёршых Апосталаў нашага

Адраджэння?.. Чыя тут віна? Хто тут вінен?.. Няма адказу, бо няма згоды…», — піша Франук Грышкевіч. Эх, дзядзька Франук! Гэтыя Вашы пытанні, хоць прайшло ўжо шмат гадоў, на Беларусі актуальныя і сёння. І сёння на іх мы адказаць не зможам. Таму што, сапраўды, сярод беларусаў няма згоды і сёння!..

У 1929 годзе «Студэнцкая думка» апублікавала невялікую справаздачу аб чацвёртым з'ездзе Аб'яднання Беларускіх студэнцкіх арганізацый (АБСА), які адбыўся ў 1928 годзе ў Празе. Сярод выступоўцаў быў і Франук Грышкевіч. Часопіс таксама паведаміў, што Франук Грышкевіч абраны сакратаром АБСА.

## Прыгадаем Пятра Першукевіча




*Вокладка часопіса з партрэтам Пятра Першукевіча*

Культурна-грамадскі і літаратурны месячнік «Летапіс Таварыства Беларускай школы» за кастрычнік-лістапад 1933 года апублікаваў на вокладцы вялікі партрэт прыгожага юнака-студэнта матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта Пятра Першукевіча. Але гэты партрэт, на вялікі жаль, быў змешчаны ў чорнай рамцы. А пад партрэтам тэкст: Пятро Першукевіч. Памёр у Навагрудку 4.XII.33.

Моладзь Заходняй Беларусі, даведаўшыся пра смерць Пятра Першукевіча, атрымала шок. Для беларусаў смерць юнака з Навагрудчыны была вялікай неспадзяванасцю і горам.

Пятро Першукевіч быў вельмі таленавітым юнаком. З тых звестак, якія ўдалося сёння сабраць, вядома, што ён нарадзіўся ў вёсцы Паплавы на Навагрудчыне. Пра гэта сказаў мне дзятлаўскі краязнавец Валерый Петрыкевіч. Дарэчы, Валерый Петрыкевіч — сын Міхася Петрыкевіча, які некалі вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі. Па словах Валерыя Петрыкевіча, яго бацька памятаў Пятра Першукевіча, які, хоць і быў старэйшы за яго, але ў гімназіі ўсе юнака ведалі, бо ён вылучаўся матэматычным талентам і быў добрым спартсменам.



Вёскі Паплавы ўжо не існуе. Знаходзілася яна недалёка ад мястэчка Нягневічы. Моладзь Нягневічаў была даволі дзейснай і актыўнай пры Польшчы. Я маю на ўвазе актыўнай ва ўсіх беларускіх культурна-масавых мерапрыемствах у тыя 1920–1930-я гады. У Нягневічах, дзякуючы Пятру Першукевічу і яго сябрам, была набыта вялікая хата. І гэту хату вясковая моладзь пераабсталявала пад Народны дом, дзе паказвалі беларускія спектаклі, чыталі розныя лекцыі, паказвалі канцэрты мастацкай самадзейнасці. Гэты Народны дом будзе створаны пазней — дзесьці ў пачатку 1930-х гадоў, калі Пятро Першукевіч вучыўся ў Вільні.

Пачатковую адукацыю юнак атрымаў у Навагрудскай беларускай гімназіі. Андрэй Чэмер у сваёй кнізе «Навагрудская беларуская гімназія (Вільнюс, 1997) прыгадвае, што Пятро Першукевіч быў вельмі старанным і акуратным, як большасць вучняў з-пад Нягневіч і Шчорсаў. А яшчэ, як успамінае Андрэй Чэмер, Пятро Першукевіч быў здольным матэматыкам і спартсменам.

Пасля заканчэння беларускай гімназіі ў Навагрудку, хлопец адразу паступіў на матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Там ён не толькі старанна вучыўся, а актыўна ўключыўся ў беларускі моладзевы рух. З 1920 года ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя дзейнічаў Беларускі Студэнцкі Саюз (БСС). У снежні 1932 года Пятро Першукевіч становіцца вольным сябрам ураду БСС. А ў студзені 1933 года яго абіраюць сакратаром Беларускага Студэнцкага Саюзу.

Напачатку Калядных канікулаў Беластоцкая Акруговая Управа запрасіла студэнтаў Віленскага ўніверсітэта Марыю Мілючанку (Мілюць), Пятра Чэчку і Пятра Першукевіча, а таксама студэнта Варшаўскага ўніверсітэта Мікалая Орсу на Беласточчыну дзеля таго, каб яны прачыталі беларусам цыкл навукова-папулярных лекцый. І студэнты пагадзіліся. У Беластоку да іх далучыўся і сябра ТБШ Васіль Лукашык.

Пятро Першукевіч у Беластоку прачытаў лекцыі на тэмы «Што мы павінны ведаць аб сусвеце?» і «Цуды тэхнікі», у вёсцы Тапільцы —

«Людское жыццё і прырода», у вёсцы Валілы — «Аб прымяненні тэхнікі на вёсцы» і г. д. Пятро Першукевіч становіцца адзін з самых актыўных сяброў не толькі Беларускага Студэнцкага Саюзу, але і Таварыства Беларускай школы ў Заходняй Беларусі. Ён з сябрамі абышоў пяшком усю Беласточчыну. Выступленні вельмі падабаліся людзям, асабліва сялянам. На кожнай сустрэчы прысутнічала шмат люду. Сяляне ішлі паслухаць выступоўцаў за 10–15 кіламетраў. Яны шчыра віталі лектараў, просячы іх зноў прыязджаць, не забываць іх. Амаль пасля кожнай лекцыі, задавалі выступоўцам сотні пытанняў. А ў некаторых вёсках маладых, адукаваных беларусаў не хацелі адпускаць. «Мы ўжо іх карміць, апранаць і, як найлепей, даглядаць будзем», — казалі вяскоўцы. Паслухаць студэнтаў прыходзілі сяляне, якім было ўжо па 70 і болей гадоў. Старэйшыя беларусы вельмі былі здзіўлены, што хлопцы і дзяўчаты з гарадоў, дзе яны вучацца, так адкрыта і смела гутараць з імі па-беларуску. Ад такіх доўгіх гутарак, сустрэч, маладыя лектары не паспявалі часам вярнуцца ў Беласток, таму прыходзілася начаваць у вяскоўцаў. Людзі з радасцю іх прымалі дома, стараліся як найлепей сустрэць і пачаставаць іх, просячы прабачэння, калі што не так.

Акрамя лекцый і дакладаў Пятро Першукевіч, Марыя Мілючанка, Мікалай Орса і Васіль Лукашык у памяшканні ТБШ у Беластоку наладзілі вячэрнія заняткі для дарослых. Марыя Мілючанка выкладала гісторыю беларускай літаратуры, Васіль Лукашык — гісторыю і беларускую граматыку, Мікалай Орса — біялогію, анатомію і прыроду, а Пятро Першукевіч — матэматыку і фізіку. Заняткі адбываліся амаль месяц.

Не забываў Пятро Першукевіч і сваю родную Навагрnative. 

Не забываў Пятро Першукевіч і сваю родную Наваградчыну. Ён актыўна рыхтаваўся да мерапрыемстваў у сваім Нягневіцкім Народным доме. Найперш юнак планаваў правесці цыкл лекцый «Культура і народ» для вяскоўцаў. Але зрабіць гэта не паспеў. 4 снежня 1933 года яго не стала. Што здарылася з Пятром — пакуль застаецца загадкай. Па адной з версій — ён памёр ад сухотаў. Але ў гэта мала верыцца, бо юнак быў фізічна моцным, дагледжаным і матэрыяльна забяспечаным, бо, калі яго не стала, ён ужо вучыўся на чацвёртым курсе ўніверсітэта. Ёсць і іншая версія. Андрэй Чэмер у сваёй кнізе «Наваградская беларуская гімназія» сцвярджае, што Пятро Першукевіч памёр «без пары з-за аварыі з аўтобусам, якая пакінула сляды». Сапраўды, Пятро Першукевіч аднойчы ехаў у аўтобусе і трапіў у аварыю, якая і нанесла шкоду юнаку. Што гэта была за аварыя, калі і дзе яна здарылася — пакуль невядома. Але беларуская грамада і, найперш моладзь, страціла вельмі перспектыўнага і здольнага чалавека. Пра смерць Пятра Першукевіча напісалі і прыгадалі многія віленскія беларускія выданні. Той жа «Летапіс ТБШ» (1933, № 5–6) пісаў: «Усё сваё маладое жыццё ён ахвяраваў працоўнаму народу, ад якога сам паходзіў… Да самай смерці, пакуль білася сэрца, ён не сыходзіў з поля бітвы за асвету народную… Маладая галава не ўмела хіліцца перад няўдачамі. Ён даводзіў задуманае так, як гэта можа зрабіць толькі сапраўдны змагар… Зусім яшчэ мала сярод беларусаў такіх інтэлігентных сілаў, што ўсёй душой лучыліся бы з сялянствам і работніцтвам, і вось таму гэта страта для нас асабліва балючая… Пакрыўджаны і прыніжаны беларускі народ пазбаўляецца свайго маладога абаронцы, а наша старонка слаўнага сына…».



Віленскі часопіс «Шлях моладзі» (1933, № 13) таксама балюча ўспрыняў смерць Пятра Першукевіча: «…Ён многа чытаў беларускіх лекцый і ладзіў беларускія прадстаўленні. Смерць Першукевіча сумным рэхам адбілася сярод беларускага студэнцтва і старэйшага грамадзянства…».

З таго часу, калі не стала Пятра Першукевіча, прайшло шмат гадоў. Таму сёння гэтая згадка няхай будзе данінай светлай памяці забытага беларуса з Наваградчыны.

## Уладзімір Хлябцэвіч — сын святара

У беларускага гісторыка, педагога і праваслаўнага святара Івана Хлябцэвіча (1857–1919) з Кленікаў Бельскага павета (Беласточчына) выхоўвалася шасцёра дзяцей. Але найбольш здольнымі раслі два сыны — Яўген і Уладзімір. Яўген Хлябцэвіч быў старэйшы за брата на 10 гадоў. У свой час ён скончыў духоўную семінарыю ў Вільні і Пецярбургскі ўніверсітэт. Прымаў актыўны ўдзел у літаратурна-грамадскім руху ў Пецярбурзе, займаўся бібліятэказнаўствам, перакладамі з беларускай мовы на рускую, абараніў кандыдацкую дысертацыю, быў знаёмы і сябраваў з многімі беларускімі дзеячамі,



*Уладзімір Хлябцэвіч*

у тым ліку з Янкам Купалам, Якубам Коласам і Цёткай.

Пра Яўгена Хлябцэвіча я шмат разоў пісаў у сваіх кнігах. Жыццё і яго творчасць даследаваў таксама літаратуразнавец і архівіст Віталь Скалабан (1947–2011). А вось пра яго малодшага брата Уладзіміра Хлябцэвіча (1894–1917) публікацый і даследаванняў у друку было мала. Але, першы чым пра яго згадаць, хачу пару слоў сказаць пра бацьку Яўгена і Уладзіміра Хлябцэвічаў Івана Андрэевіча.

Родам Іван Хлябцэвіч (1857–1919) быў з Ваўкавышчыны. Скончыў праваслаўную Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, вучыўся ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Выкладаў у Жыровіцкім духоўным вучылішчы арыфметыку і геаграфію. Але галоўным яго клопатам і заняткам была слынная бібліятэка Жыровіцкага Свята-Успенскага мужчынскага манастыра. Там зберагаліся рукапісныя беларускія кнігі з адмысловымі ілюстрацыямі і летапісы ў скураных пераплётах і старадрукі. Іван Хлябцэвіч упарадкаваў старажытныя рукапісы, ён склаў падрабязны каталог, упарадкаваў і сам ашчадна захоўваў гэтыя скарбы. Хлябцэвіч-старэйшы вельмі цікавіўся і гісторыяй Беларусі, меў і літаратурны талент. У Віленскіх часопісах ён публікаваў артыкулы на рэлігійныя і гістарычныя тэмы.

У 1897 годзе Іван Хлябцэвіч з сям'ёй пераязджае ў вёску Кленікі Бельскага павета, дзе служыць свяшчэннікам. У Кленіках Хлябцэвічы пражылі 18 гадоў — да пачатку Першай сусветнай вайны, адкуль іх потым выгналі ў бежанства ў расійскі горад Сызрань. Дамоў Хлябцэвічы з Расіі ўжо ніколі не вярнуліся.

Жывучы Кленіках, Іван Хлябцэвіч арганізаваў некалькі беларускіх пачатковых школ, спажывецкае таварыства, быў загадчыкам бясплатнай народнай бібліятэкі, наладзіў самыя шчырыя сяброўскія адносіны з мясцовымі сялянамі. Побач з адукаваным бацькам і прайшло маленства і юнацтва самага малодшага сына Уладзіміра. Ды і Яўген часта прыязджаў на розныя вакацыі дамоў у Кленікі.



Валодзя спачатку вучыўся дома, а пасля ў гімназіі. У 1913 годзе ён скончыў гімназію, а яго брат Яўген — Пецярбургскі ўніверсітэт. І Яўген параіў брату паступаць у гэты ўніверсітэт. І Валодзя паступіў на фізіка-матэматычны факультэт. Там ва ўніверсітэце Яўген Хлябцэвіч знаёміць Валодзю з Браніславам Ігнатавічам Эпімах-Шыпілам. Першая сустрэча адбылася ў бібліятэцы, каля ўваходу ва ўніверсітэцкую бібліятэку, дзе Браніслаў Эпімах-Шыпіла выпісваў студэнтам чытацкія білеты. Але мала хто тады ведаў, што Браніслаў Іванавіч быў апекуном маладога Янкі Купалы, арганізатарам выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», кіраўніком студэнцкага беларускага гуртка. Прафесар Эпімах-Шыпіла дапамагаў беларусам-студэнтам выбраць свой шлях, свой правільны шлях і абуджаў гэтых студэнтаў, як беларусаў. Гэта былі незабыўныя сустрэчы і падзеі. З лёгкай рукі Браніслава Эпімах-Шыпілы Уладзімір Хлябцэвіч напісаў этнаграфічны нарыс пра сваю вёску Кленікі. Дарэчы, гэты нарыс на рускай мове друкаваўся ў выданні «Białoruskie zeszyty historyczne» (1995, № 2(4). Ён так і называўся «Село Кленики перед беженством — во время мировой войны». А напісаўся ён аўтарам 17 верасня 1915 года.

Гэты нарыс некалі брат Валодзі Яўген Хлябцэвіч перапісаў сваёй рукой. Дзякуючы таму ён захаваўся да нашых дзён. І зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.

25 верасня 1915 года, пасля таго, як разам з маці і бацькам Уладзімір Хлябцэвіч падаўся з Кленікаў у бежанства, ён роднаму брату Яўгену пісаў: «Усе вёскі гарэлі пры непрысутнасці нашых людзей. Кнігі (10 скрыняў) закапаны ў вельмі надзейным месцы. Там тваё ўсё. Закапвалі я і Маліш. Твае рукапісы пра беларускіх пісьменнікаў і лісты іх тожа былі схаваныя там, у скрынях. Я ведаю дзе…» («Часопіс Białoruskie zeszyty historyczne», 1995, № 2(4). С. 135).

Гэтыя скрыні ў вёсцы Кленікі на Беласточчыне шмат гадоў шукала настаўніца беларускай мовы і літаратуры мясцовай школы Марыя Базылюк (Марыйка — як яе ласкава называлі вяскоўцы і беларускія літаратары ў Польшчы). У гэтых скрынях захоўваецца невядомы літаратурны скарб Хлябцэвічаў. І Марыя Базылюк яго шукала, а

таксама сама даследавала творчасць брата Уладзіміра Хлябцэвіча Яўгена. Яна нават напісала, калі была студэнткай, магістарскую дысертацыю на тэму «Жыццё і дзейнасць Яўгена Хлябцэвіча на фоне перыяду «Нашай нівы», якая была апублікавана ў кнізе яе памяці «Марылька» (Беласток, 2011). Але так склаўся лёс, што гэтыя скрыні Марыі Базылюк знайсці не ўдалося. Яе зламала хвароба ў 1996 годзе ва ўзросце 38 гадоў. Цікава, якія рукапісы Яўгена Хлябцэвіча ляжаць у тых скрынях? Пісьмы якіх пісьменнікаў захоўвае гэты скарб на Беласточчыне? Можа, там лісты ад Янкі Купалы, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Горкага? Ён шчыра з імі сябраваў, сустракаўся, перапісваўся. Цяпер цяжка сказаць, хто той скарб адшукае. І ці адшукаецца ён наогул. Усё ж прайшло з таго часу больш за 100 гадоў.

Хлябцэвічы апынуліся аж у расійскім горадзе Сызрань. У пачатку студзеня 1917 года Уладзімір прыехаў да бацькоў на калядныя вакацыі. А 15 студзеня зноў паехаў на вучобу ў Петраград (Пецярбург). Ды і вучыўся ўжо на 4 курсе.

У Расіі ў гэты час пачынаецца Лютаўская рэвалюцыя. Не стаяў убаку ад яе і Уладзімір. На Васільеўскім востраве ў Петраградзе яшчэ грымелі выстралы. Туды на разведку быў накіраваны Уладзімір Хлябцэвіч, які дзяжурыў у Таўрычаскім палацы. Але хутка іх аўтамабіль трапіў пад абстрэл. Першай была паранена сястра міласэрнасці Алена Шуп. Хлябцэвіч хацеў ёй дапамагчы. Але кулямётная чарга смяротна параніла юнака.

Цела загінуўшага адвезлі да бацькоў у Сызрань. Яго пахавалі 19 сакавіка 1917 года ў «гарадскім садзе на Сімбірскай вуліцы» (цяпер Кузнецкі мост). На паховіны прыйшлі каля 20 тысяч чалавек.

Пазней у Сызрані назавуць адну з вуліц імем Уладзіміра Хлябцэвіча, якая існуе і сёння. А на яго магіле ляжыць мемарыяльная пліта, якая даўно патрабуе аднаўлення.

Смерць малодшага сына Валодзі бацька Іван Андрэевіч Хлябцэвіч моцна перажываў. Ён пераехаў з горада ў вёску Абшараўка Самарскага павета Самарскай губерні Расіі. Стаў моцна хварэць. Але вёў вялікую перапіску з сябрамі і з землякамі-бежанцамі. Ён напісаў на рускай мове невялікую кніжачку ( 47 старонак) «Краткий биографический очерк студента В.И.Хлебцевича» і выдаў у Сызраньскай друкарні



Журкіна пры фінансавай дапамозе свайго сябра Аляксея Ерамасава.


Вѣнокъ отца на могилу сына.

Жертва великой революции

Краткій біографическій очеркъ студента В. И. ХЛѢБЦЕВИЧА.

*Кніга Івана Хлябцэвіча пра сына Уладзіміра*

Іван Андрэевіч Хлябцэвіч пасля смерці сына Валодзі пражыў толькі два гады і памёр 25 ліпеня 1919 года ў Абшараўцы, дзе і пахаваны.

У Расійскім Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва ў Маскве захоўваецца шмат дакументаў, звязаных і жыццём і дзейнасцю Уладзіміра Хлябцэвіча. Гэта найперш пісьмы Уладзіміра да сваіх бацькоў, братоў і сёстраў, невядомай спадарыні Вользе, пісьмы сваякоў Уладзіміра Хлябцэвіча невядомай асобе са зваротам «Верачка» у сувязі са смерцю Уладзіміра, развітальнае пісьмо бацькі Івана Андрэевіча, пісьмо Алены Шуп (сястра міласэрнасці) Івану Андрэевічу Хлябцэвічу пра апошнія хвіліны жыцця Уладзіміра і іншыя. Ёсць у фондах і артыкулы, вершы Уладзіміра Хлябцэвіча. Захоўваюцца і тэлеграмы сваякоў і студэнтаў Петраградскага ўніверсітэта сям'і Уладзіміра Хлябцэвіча з паведамленнем пра яго смерць і са спачуваннямі. Ёсць у фондах архіва і ўспаміны Светавастокава пра Уладзіміра, артыкулы пра яго, выразкі з газет і малюнкі, бо Валодзя быў яшчэ добрым мастаком-партрэтыстам. На вялікі жаль, нікога пакуль з беларусаў гэтыя дакументы пра Уладзіміра Хлябцэвіча не зацікавілі. Ды калі і хто іх даследуе?.. На гэта пытанне сёння цяжка адказаць.

## Бельскі павет у карэспандэнцыях Яўгена Хлябцэвіча (1906–1910 гады)

Жыццё дзеяча беларускага культурна-грамадскага руху пачатку ХХ стагоддзя, даследчыка нашай літаратуры, бібліятэказнаўца, бібліёграфа, кандыдата педагагічных навук Яўгена Хлябцэвіча (1884–1953) непасрэдна звязана з Беласточчынай, у прыватнасці, з вёскай Кленікі, дзе жыла яго сям'я, а бацька быў бацюшкам у мясцовай парафіі. У Кленіках прайшло маленства і юнацтва Яўгена, сюды ён прыязджаў на канікулы, калі вучыўся спачатку ў Вільні, а потым у Пецярбургскім універсітэце.

Мае рацыю Ян Максімюк, паведамляючы (сайт Svoja. org), што «сям'я Хлябцэвічаў несумненна выконвала ролю культуртрэгераў у наскрозь мужыцкіх Кленіках. Бацюшка Іван Хлябцэвіч заснаваў у вёсцы чытальню імя Фларэнція Паўленкава. А Яўген Хлябцэвіч арганізаваў найбольш кемлівых і пісьменных жыхароў Кленікаў у вясковы драмгурток, які ў 1909 годзе падрыхтаваў пастаноўку камедыі Івана Карпенкі-Карага (1845–1907) «Разумны і дурань». Кленіцкія ліцадзеі нават хадзілі пехатою ў Бельск (напрасткі 20 кіламетраў), каб паказаць сваё вясковае ўмельства мяшчанам». Праўда, і Яўген Хлябцэвіч таксама дапамагаў бацьку ў арганізацыі бібліятэкі-чытальні імя Паўленкава. Адначасова ў Кленіках ён упершыню ўзяўся за пяро, каб паведамляць у прэсе пра тыя падзеі, якія напачатку ХХ стагоддзя адбываліся ў яго роднай і суседніх вёсках Бельскага павета. Пра супрацу Яўгена Хлябцэвіча з «Нашай нівай» упершыню згадала Марыя Базылюк.

Але першыя інфармацыі Яўгена Хлябцэвіча з'явіліся не ў «Нашай ніве», а ў газеце «Наша доля» у 1906 годзе. У «Нашай долі» (№ 2) Яўген Хлябцэвіч пісаў пра пачатак дзейнасці паўленкаўскіх бібліятэк, з якіх «з сагласу сельскага обчэства кніжкі могуць браць чытаць і мужыкі з іншых суседніх вёсак…». Гэта інфармацыя Яўгена Хлябцэвіча была апублікавана без подпісу. Наогул, Яўген Хлябцэвіч свае інфармацыі ў розных выданнях падпісваў шматлікімі крыптанімамі і псеўданімамі: Евгеньев, Халімон, Халімон з-пад Путчы, Халімон з-пад Пушчы, Халимон из-под Пущи, Халімон с-пад Пушчы, Халімончык, Х. Е, Х-ч, Евг., Х. с-п П і іншымі.



У «Нашай ніве» першая інфармацыя з Кленікаў была апублікавана ў студзені 1907 года. Халімон з-пад пушчы пісаў з Бельскага павета пра тое, як памешчык з маёнтка Пухлы хацеў праз банк прадаць мужыкам 80 дзесяцін зямлі за 120 рублёў за дзесяціну. Але мужыкі вырашылі гэту зямлю не купляць, а пачакаць да вясны, калі зямля будзе значна танней.

У другой інфармацыі аўтар распавядаў пра валасны сход у Кленіках, які зрабіў рахунак даходаў і расходаў на 1907 год і які пастанавіў, каб расходы паменшыць.

У наступнай інфармацыі з Кленікаў яе аўтар паведамляў пра тое, як «мужыкі на гэтым сходзе хацелі Піліпа свайго зрабіць выбаршчыкам да Гас.Думы, але ён адрокся, бо быў няграматны. Тады выбралі двух мужыкоў: першага з вёскі Ступнікі — Грыгора Федарука, што на ўсіх сходах цягнуў за сваіх — за мужыкоў. І другога — з Піліпавай вёскі Падрэчан, такога ж смелага, як і Піліп — мужыка Брука».

21 чэрвеня 1907 года Халімон з-пад пушчы пісаў з Бельскага павета аб тым, колькі трэба фінансаў, каб «выйсці з шахаўніцы ды ўсім сесці на фальфаркавыя гаспадаркі». Бо, як «вылічылі мы, колькі трэба на новыя будоўлі, калі ўсю зямлю пабіць на фальваркі…». А трэба шмат. І на хату, хлеў, студню, гумно. Разам заплаціць 475 рублёў. На той час гэта былі вялікія грошы.

У наступнай нашаніўскай карэспандэнцыі Халімон з-пад пушчы пісаў пра розныя вясковыя здарэнні. Пра тое, як выпусцілі з турмы «стрэльца», які ў Белавежскай пушчы забіў мужыка. Пра тое, як бралі хабар суддзі і як іх наказаў мужык Врублеўскі.

20 ліпеня 1907 года, як пісаў Халімон з-пад пушчы, у Бельскім павеце два тыдні ішоў дождж і ўсё скошанае сена паплыло па рэчцы Нарве. «У сяле Плесках сена заваліла мост, баграмі яго счышчалі. Таксама мужыкі, што жывуць па вёсках у Белавежскай пушчы, гдзе цячэ тая рэчка, страцілі сваё сена. Яны бяруць сенажаці ад «ведамства удзелоў» на другую капу. Але на долю мужыкам выпала і шчасце, добра зарабляюць грошы…» — пісаў аўтар. А шчасце выпала вось у чым. На царскую Белавежскую пушчу напаў чарвяк і выеў 6 кварталаў (квадратных вёрст) хвойнага лесу. Таму мужыкоў бралі на працу, каб

капалі равы і распальвалі агні. Ды за працу плацілі 1 рубель у дзень. Для параўнання: на вёсках Бельшчыны жняя тады брала 45-50 капеек у дзень, а касец — 75 капеек.

Была інфармацыя Яўгена Хлябцэвіча і пра тое, як з вёскі Павлы забралі аднаго мужыка, які найбольш падбіваў мужыкоў, каб пасвілі сваіх кароў і коней на панскім папары. Яго звалі Праком Яблонскі. Яго арыштавалі і пасадзілі ў турму ў Беластоку. Людзі чакаюць, калі будзе суд («Наша ніва». 1907. № 26).

Паведамляў сельскі карэспандэнт і пра тое, як у сяле Зубове Бельскага павета павесіўся 16-гадовы юнак Вязоўскі. «Казалі людзі, што хлапец быў надта разумны, вельмі любіў чытаць кніжкі. Але гарэлка загубіла хлапца», — пісаў аўтар.

У № 29 за 1907 год у «Нашай ніве» аўтар паведамляў навіну, як у вёску Гуковічы прыехалі каморнікі, каб перасяліць мужыкоў на фальваркі. Сельскі карэспандэнт распавядаў: «Кажуць, шмат мужыкоў нашага павету (88 вёсак) падалі прашэнне ў землеўстраіцельную камісію, што яны хочуць перайсці на фальваркі. Але ж усе пішуць, што тады пярэйдуць, калі ўбачаць, як жывуць тыя, каторыя перш пярэйдуць на фальваркі, бо беларус верыць толькі таму, што бачыць сам. Калі кепска будзе, то, вядома, вёскі не захочуць разбіцца на фальваркі…» — разважаў аўтар.

12 кастрычніка 1907 года Халімон з-пад пушчы зноў вяртанцца ў адной са сваіх інфармацый да Паўленкавай кнігарні. А 21 лістапада яшчэ раз піша пра бібліятэку Паўленкава, якая адкрылася ў вёсцы Шчыты. А ў канцы інфармацыі аўтар усіх папярэджвае: «Памятайце, што ідуць новыя часы, і без навукі цяпер ўжо не пражывеш, як даўней».

А ў першым нумары «Нашай нівы» за 1908 год рэдакцыя выдання адвяла для навінаў з Бельскага павета амаль усю газетную старонку. У адной з іх, напрыклад, паведамляецца, што ў сяле Трасцяніца Бельскага павета, як піша аўтар, згарэлі чатыры дамы. Іх падпаліў п'яны мужык, які закрыўся ў сваёй хаце. Вясковыя мужчыны залезлі да яго ў хату, набілі, вывалаклі на вуліцу і потым кінулі ў агонь. Піша аўтар і пра двух юнакоў з вёскі Паўлова. У іх паліцыя знайшла пракламацыі і «пагнала на дапрос к жандаром».

У «№3 «Нашай нівы» за 1908 год Яўген Хлябцэвіч зноў піша пра бібліятэкі-чытальні Паўленкава. Аўтар заклікае, каб «самы мужыкі



давалі крыху грошай на ўтрыманне бібліятэк. Паўленкаў дае кніг больш як на 100 руб., калі дадуць на бібліятэку 50 руб. самы мужыкі». Да бібліятэк Паўленкава Яўген Хлябцэвіч яшчэ некалькі разоў будзе вяртацца ў сваіх допісах у самы розны час. З аднаго боку, стварэнне падобных бібліятэк-чытальняў мела вялікае значэнне ў адукацыі вяскоўцаў і гараджан напачатку XX стагоддзя, а з другога боку — не ўсе людзі ўспрымалі гэта сур'ёзна: не хацелі вучыцца чытаць, не ахвяравалі ніводнай капейкі на бібліятэкі, і проста не мелі часу на адукацыю і чытанне кніг.

Цікавую навіну паведаміў Халімон з-пад пушчы ў «Нашай ніве» пра тое, што ў Бельску адкрылі жаночую і мужчынскую прагімназіі. А праз два гады аўтар пісаў, што «у нашым горадзе закрыліся мужчынская і жаночая прагімназіі А. І. Бабылёвай». Далей аўтар разважае, што міністэрства народнай асветы ўвесь час не падтрымлівала «гэтае чыстае зерне», а толькі рабіла розныя перашкоды, каб не даць «правоў казённых прагімназій». Усе бацькі і дзеці былі вельмі ў захапленні ад гэтых навучальных ўстаноў, а спадарыню Бабылёву любілі, як родную матку. «Шкада, што ў нашай старонцы ня можэ быць нічога жывога, праўдзіваго, добраго…» — разважае аўтар.

Пісаў Хлябцэвіч і пра тое, як «тэлеграфнае агенцтво на свой спосаб перэрабіло тэлеграму з Бельска аб сыбірскай заразе. У тэлеграме было,што сыбірская зараза перэйшла з зуброў на сялянскую жывёлу, але агенцтва перэрабіло, бытцам сыбірская зараза перэйшла з сялянскай жывёлы на зуброў. Папраўдзі было так: у Белавежскую пушчу недаўна прывязьлі з Сыбіры паўночных аленяў, ды ім пачалі выпісываць адтуль смашныя абеды — сыбірскае прэсованае сена, а разам з сенам прывезьлі і сыбірскую заразу» («Наша ніва». 1910. 22 ліпеня).

Паведамляў сельскі карэспандэнт у «Нашу ніву» (1910. № 37) і пра тое, як брукуецца дарога ад Орлі да Белавежскай пушчы. Дарога гэта ўсяго была тры вярсты. Падрадчыкі за яе бралі 19 тысяч рублёў, а за воз камення сялянам плацілі 18 капеек…

Яўген Хлябцэвіч у пачатку XX стагоддзя шмат пісаў і паведамляў пра розныя падзеі, з'явы, здарэнні, якія адбываліся на Беласточчыне, у прыватнасці, у Бельскім павеце. Яго допісы сёння — гэта гістарычныя дакументы з мінулага жыцця беларусаў.

## Час вяртання Уладыслава Казлоўскага

У сакавіку 1941 года група беларускіх пісьменнікаў наведала Вільню. Сярод іх быў і літаратурны крытык Алесь Кучар, той самы Кучар, які ў БССР пісаў даносы на многіх пісьменнікаў. Падчас сустрэчы ў Вільні, Алесь Кучар хваліў пісьменнікаў Заходняй Беларусі за тое, як успамінаў Язэп Малецкі, што вытрывалі польскую акупацыю. Там ён упершыню сустрэўся і з заходнебеларускім грамадскім і палітычным дзеячам, выдаўцом, паэтам, публіцыстам Уладыславам Казлоўскім, які меў літаратурны псеўданім Казлоўшчык. «Мы ў БССР пра Казлоўшчыка думалі, як пра нейкага амерыканскага каўбоя, што абвешаны разбойнымі нажамі ды наганамі. А тут — вельмі сімпатычны чалавек. Мы крыху знаем вашую творчасць, яна даволі арыгінальная і цікавая, народная», — казаў Алесь Кучар.



*Уладыслаў Казлоўскі (псеўданім Казлоўшчык)*

Уладыслаў Казлоўшчык пасля такіх слоў вырашыў пачытаць вязанку сваіх патрыятычных вершаў, што яшчэ больш раззброіла бальшавіцкую насцярожанасць Кучара. Ён нават прапанаваў Казлоўшчыку пісаць творы ў бальшавіцкім духу і раіў далучыцца да савецкай рэчаіснасці.

Да савецкай рэчаіснасці такія яркія асобы як Уладыслаў Казлоўшчык, далучыцца не маглі. Бо яны добра ведалі пра тую савецкую рэчаіснасць, якая ў 1920-х — напачатку 1940-х гадоў адбывалася ў БССР. Хаця ў той самы час не проста і вельмі цяжка жылося і беларусам Заходняй Беларусі пад Польшчаю.

Уладыслаў Казлоўскі нарадзіўся 29 чэрвеня 1896 года ў вёсцы Залессе Сакольскага павета на Беласточчыне ў беларускай каталіцкай сям'і. З самых маладых гадоў пачаў цікавіцца жыццём тутэйшых



людзей, таму сам хутка станавіўся нацыянальна свядомым беларусам. Пачатковую і сярэднюю адукацыю ён набыў у Саколцы і ў Гародні.

У 1916 годзе юнак з Сакольшчыны паступае ў каталіцкую духоўную семінарыю ў Вільню. Там ён актыўна пашырае між клерыкаў беларускую свядомасць. А ў 1919 годзе, калі заснавалася ў Вільні Беларуская вайсковая арганізацыя, пакідае вучобу ў духоўнай семінарыі, бо марыць сваё жыццё звязаць з беларускім нацыянальным войскам. Адначасова з гэтым, каб не сядзець бясчынна ў Беларускай вайсковай арганізацыі, якая тады яшчэ праводзіла толькі рэгістрацыю сяброў, ён запісваецца на беларускія кароткачасовыя настаўніцкія курсы пры Цэнтральнай Радзе Віленшчыны і Гарадзеншчыны.

Курсы Уладыслаў Казлоўскі паспяхова скончыў і Цэнтральнай Радай быў прызначаны ў Сакольскі павет для арганізацыі там беларускага школьніцтва. Але арганізоўваць курсы там было няпроста, таму што польскія павятовыя чыноўнікі да гэтага адносіліся адмоўна. Тады юнак зноў вяртаецца ў Вільню. А калі заснавалася ў Мінску Беларуская вайсковая камісія, пераязджае ў Мінск.

Напачатку 1920 года Уладыслаў Казлоўскі працуе інструктарам Беларускага нацыянальнага камітэта па пытаннях арганізацыі нацыянальнага і кааператыўнага жыцця ў Ігуменскім павеце. А ў траўні гэтага ж года Беларускай вайсковай камісіяй ён высылаецца ў Варшаўскую школу падхарунжых.

Пасля заканчэння ваеннай школы, Уладыслаў Казлоўскі прызначаецца інструктарам у Першы батальён беларускіх стралкоў, які ўжо быў эвакуіраваны з Мінска ў Лодзь. Праўда, праз год, у сувязі з ліквідацыяй беларускіх аддзелаў, пераводзіцца ў польскае войска як кадравы афіцэр.

Будучы паручнікам чыннай службы Уладыслаў Казлоўскі не парывае сувязі з беларускім нацыянальным рухам. А ў 1930 годзе звальняецца са службы і зноў пераязджае ў Вільню. Там ён поўнасцю аддае сябе творчай працы і палітыцы. Спачатку арганізоўвае гімнастычнае таварыства «Гайсак», пасля з'яўляецца выдаўцом і рэдактарам часопіса «Новы шлях» і адначасова адным з арганізатараў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі (БНСП). Партыя гэта праіснавала з 1933 па 1943 гады. Старшынёй партыі быў абраны Фабіян Акінчыц. У кіраўніцтва партыі ўваходзілі, акрамя Уладыслава

Казлоўскага, Альбін Стэповіч, Павел Арцішэўскі, Лявон Дубейкаўскі, Кастусь Юхневіч, Алёйза Пецюкевіч і Антон Сапко. Кіраўніцтва БНСП жадала, каб у будучыні беларускі народ аб'яднаўся вакол гэтай адной партыі.

У 1937 годзе БНСП была забароненая польскімі ўладамі, і частка сяброў на чале з Акінчыцам у 1938 годзе выехалі ў Германію, дзе Акінчыц узначаліў беларускае бюро ў нямецкім Міністэрстве прапаґанды. У 1940 годзе БНСП на чале з Уладыславам Казлоўскім нелеґальна дзейнічала на Віленшчыне.

Адразу пасля нападу Германіі на СССР, у ліпені 1941 года, Уладыслаў Казлоўскі паспрабаваў леґальна аднавіць дзейнасць партыі, аднак Альфрэд Розенбэрг, кіраўнік акупіраваных усходніх абласцей, забараніў яе. Фабіян Акінчыц і сябры партыі хутка разачараваліся ў немцах, бо ўбачылі, што яны не нясуць абяцанай «новай Еўропы», а славян хочуць знішчыць і зрабіць рабамі. У той жа час астатні беларускі нацыянальны актыў не давяраў сябрам БНСП і лічыў людзьмі немцаў.

Першыя творы Уладыслава Казлоўскага (Казлоўшчыка) з'явіліся ў перыядычным друку ў 1920-х гадах. Гэта былі публіцыстычныя артыкулы на спартыўныя тэмы. Тады і выходзяць у свет яго першыя кнігі «Фізічнае выхаванне грамадзянства» (1927) і «Аб фізічным выхаванні ў беларусаў» (1928).

У 1930 годзе ён актыўна супрацоўнічаў з часопісам «Шлях моладзі», дзе вёў рубрыку «Куток для спорту». Сам пісаў спартыўныя артыкулы, рэпартажы і друкаваў на старонках гэтага часопіса. Значны рэзананс у той час мелі яго матэрыялы «Рухавыя гульні і ігры» (1930, № 3), «Аб нямецкай гімнастычнай сістэме» (1930, № 5), «Ход-спацыр» (1930, № 6), «Плаванне» (1930, № 7) і многія іншыя.

Адначасова са спартыўнымі артыкуламі добра пісаліся і літаратурныя творы. З друку выходзяць яго кнігі «Беларускія народныя песні з Сакольскага павету» (1930), «Плач Беларускай Старонкі — маткі па дзетках сваіх рэнегатах» (1930 ), вершаваны раман «Путы кахання» (1932), зборнік паэзіі «Шляхам змагання» (1935), вершаванае апавяданне з Казюковага кірмашу ў Вільні «Казюк на кірмашы» (1940).

У сваіх вершах і празаічных абразках Уладыслаў Казлоўшчык часцей за ўсё звяртаўся да беларускай моладзі. Яго верш «Песня беларускай моладзі» быў тады гімнам беларускіх юнакоў і дзяўчат. Дарэчы, і музыку напісаў сам аўтар. Песня пачыналася так:



> Мы бойкая моладзь — арлы маладыя,
> За намі йдзе воля братоў.
> У душах нашых шчырых ідэі святыя.
> А ў жылах — Крывіцкая кроў…

У № 4 за 1930 год быў надрукаваны верш Уладыслава Казлоўшчыка «Беларусь устань!». Польскія ўлады палічылі яго крамольным і сканфіскавалі ўвесь наклад «Шляху моладзі».




*Адна з кніг Уладыслава Казлоўшчыка*

У гады Другой сусветнай вайны ў Мінску выдавалася «Менская газэта», якая з 5 лютага 1942 года памяняла назву на «Беларускую газэту». Спачатку яе рэдагаваў Аляксей Сянькевіч, а затым — Уладыслаў Казлоўскі. І першы, і другі былі вельмі добрымі рэдактарамі. Наклад «Беларускай газэты» дасягаў 50 тысяч асобнікаў. Газета сапраўды была цікавай. Яна інфармавала пра дзейнасць Беларускай народнай самапомачы, Беларускай краёвай абароны, Беларускай цэнтральнай рады, Саюза беларускай моладзі, ролю і значэнне якіх значна перабольшвала, а любыя іх акцыі з захапленнем каменціравала. Шмат увагі аддавала праблемам моўнай палітыкі, выкладання ў пачатковай школе, падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў, выхавання нацыянальнай самасвядомасці, арганізацыі культурнага жыцця на месцах.

Газета друкавала папулярныя нарысы па гісторыі і культуры Беларусі, многія з якіх яўна былі палітызаваныя і блізкія да публіцыстыкі, матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі, пра беларускія традыцыі і абрады, паходжанне беларускай сімволікі і іншыя. На старонках газеты змешчаны ўспаміны ўдзельнікаў грамадзянскай вайны, матэрыялы пра сталінскія злачынствы, творы беларускіх літа-


БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Газета, якую рэдагаваў Уладыслаў Казлоўскі

ратараў, літаратурна-крытычныя артыкулы, рэцэнзіі і г. д. Але ўсё ж шэраг публікацый газеты канца 1943 — пачатку 1944 гадоў былі прасякнуты песімізмам, асуджанасцю, расчараваннем у выбраным шляху. Аднак гэтыя настроі не паўплывалі на антысавецкі кірунак выдання.

У лістападзе 1943 года нехта Іван Шнігер зайшоў у рэдакцыю «Беларускай газэты» і стрэліў ва ўпор з пісталета ў яе рэдактара. Стрэл пачула Наталля Арсеннева, якая выбегла з суседняга пакоя і закрычала: «Трымайце, трымайце яго! Гэта той бандыт, які забіў спадара Казлоўскага». Але было ўжо позна…

Тысячы беларусаў праводзілі ў апошні шлях здольнага грамадскага дзеяча, палітыка і літаратара. Часопіс «Новы шлях» адзначыў тады, што Уладыслаў Казлоўшчык «стаўся чароднай ахвярай бандыцкага тэрору на Беларусі і загінуў як жаўнер пры спаўненьні сваіх абавязкаў». А беластоцкая газета «Новая дарога» 12 снежня 1943 года



*У рэдакцыі Беларускай газэты. Другі справа Уладыслаў Казлоўскі*



пісала: «Дня 13 лістапада 1943 года ў Менску, пры выкананні сваіх нацыянальных абавязкаў трагічна загінуў ад рук нікчэмных бальшавіцкіх бандытаў рэдактар «Беларускае газэты» Уладыслаў Казлоўскі, народжаны ў 1896 годзе ў вёсцы Залесьсе Сакольскага павету. Пахавіны адбыліся дня 22 лістапада на Кальварыйскіх каталіцкіх могілках у Менску. Падаючы гэтыя сумныя факты да ведама грамадзянства, рэдакцыя «Новай Дарогі» выказвае сваё глыбокае спачуцьцё асірочанай сям'і нябожчыка. Чытачы й рэдакцыя «Новай Дарогі».

Сапраўды, Уладыслава Казлоўскага пахавалі на Кальварыйскіх могілках у Мінску. На вялікі жаль, магіла яго згубілася. Адзіны сведка, хто мог бы сёння падказаць, дзе пахавалі Уладыслава Казлоўскага, гэта Антон Шукелойць, які жыве ў ЗША.

Уладыслаў Казлоўскі заўсёды смела і аддана заклікаў свой народ ісці шляхам змагання, а тых, хто «на печы ў кажуху» сядзіць, «хай волі гром грыміць і будзіць, што дрэмлюць». Паэт шчыра верыў у Беларусь і ў крывіцкі дух, а таксама спадзяваўся, што «прыйдзе той час — да сваіх я вярнуся і ў Маткі я Роднай кутка папрашу».

## Быў такі паэт Міхась Ліст

У былой Заходняй Беларусі жыло шмат здольных паэтаў, талент якіх так і не раскрыўся, лёсы якіх да сённяшніх дзён застаюцца невядомымі. Але некаторым аўтарам усё ж пры жыцці пашанцавала апублікаваць пад рознымі псеўданімамі і крыптанімамі некалькі сваіх твораў на старонках віленскай заходнебеларускай прэсы.

Дасылаў свае творы ў Вільню і вясковы паэт Васіль Камянецкі з вёскі Краснае Лідскага павета, падпісваючы іх псеўданімам Міхась Ліст. Згадаў пра яго аднойчы Уладзімір Калеснік у сваёй кнізе «Лёсам пазнанае» (Мінск, 1982. С. 250). У адным абзацы даследчык літаратуры пісаў пра тое, як паэты з Дзятлаўшчыны Граніт, Прамень, Жальба, Струмень і іх сябра Міхась Ліст, напісалі вершаваны зварот у рэдакцыю «Беларускай газеты» у абарону лідара нямецкіх камуністаў Эрнста Тэльмана. Пісьмо, пры налёце польскай паліцыі на рэдакцыю газеты, было тады схоплена і трапіла ў следчыя органы.

Той самы Уладзімір Калеснік, рыхтуючы два зборнікі вершаў паэтаў Заходняй Беларусі, так і не ўключыў ніводнага верша Міхася Ліста

ў зборнікі «Сцягі і паходні» (Мінск, 1965) і «Ростані волі» (Мінск, 1990). Ды і прозвішчы дзясяткаў паэтаў-заходнікаў не трапілі ў кнігі Уладзіміра Калесніка. Магчыма, даследчык літаратуры не бачыў у тым Міхасю Лісту вялікага паэта, але, што ён пісаў і друкаваўся — гэта факт. Праўда, не ўсё так гладка ў яго атрымлівалася, бо часта Міхась Ліст трапляў у крытычны агляд паштовых і паэтычных скрынак часопісаў. Вось некалькі прыкладаў. «Рытміка: напалову апанавалі. Гэта апрацавана слаба, думка не ясная. І, як бы на агульнае рыштаванне не начэплівалі найбольшую колькасць слоў, верш без ясна праведзенай думкі, мастацка апрацаванага языка і формы, не будзе яшчэ вершам» — пісала газета «Наша воля» (1936, № 9). «Здольнасць пісаць Вы маеце. Радзім, як найболей чытаць вершы Купалы, Коласа ды іншых паэтаў працы», — паведамляў часопіс «Родная старонка» (1934, № 1). А часопіс «Шлях моладзі» (1937, № 1) у паштовай скрынцы пісаў Міхасю Лісту: «Пішыце. Асцерагайцеся толькі русізмаў і паланізмаў… Дзеля гэтага старайцеся ляпей пазнаць беларускую мову, граматыку і правапіс, чытаючы беларускую літаратуру».

І Міхась Ліст пісаў. Лепшыя паэтычныя радкі траплялі на старонкі заходнебеларускіх выданняў «Літаратурная старонка», «Шлях моладзі», «Наша воля» і іншыя. Вядома яшчэ, што ён нарадзіўся ў 1903 годзе. Шчыра сябраваў з паэтамі Дзятлаўшчыны, разам часта сустракаліся, наладжвалі мітынгі ў абарону роднай мовы і патрабавалі пры Польшчы адкрыццё беларускіх школ. На жаль, як склаўся жыццёвы лёс паэта Міхася Ліста (Васіля Камянецкага), пакуль невядома. Не ўдалося мне знайсці і яго фотаздымка. Але адшукалася некалькі вершаў вясковага паэта з Лідчыны, якія друкуюцца ніжэй.

*Міхась Ліст*

**Запрагай**

Мой Каштан цягнуць не можа,
Твой таксама заслабы.
Імі мы дзірван не зможам
Падгатовіць да сяўбы.
Ад людзей каб не астацца —
Дай у пару запражом,
І не будуць з нас смяяцца;
Мы дзірван тады ўзаром.
Пара, брат, ляпей пацягне,
Лепш рассыплецца зямля,
І такое поле стане —
Будзеш рад і ты, і я!
Зацвіце на ім збажжына —
Жыта, бульба і авёс.
Будзе голаду канчына,
Не спалохае мароз.
Малака больш дасць карова,
Больш каніна павязе —
Словам, будзе ўсё здарова,
Будзе, брат, канец бядзе.
Запрагай хутчэй каніну,
Ды у прыпражку араць.
Годзі сам сябе й скаціну
Аж да смерці забіваць.

*1936*

* * *

Што ты, Нёман, звіхраваўся?
Што так стогнеш і равеш?
На каго так узлаваўся,
І каму пракляцце шлеш?
Можа лемента галодных
І адвечнай нэндзы, слёз
Ў гарадох і вёсках родных
Нёман, ты не перанёс?
Ціха, дзед, ты не нервуйся —
Сэрца ўнука — моцны гарт.
Выціраць слёзы вазьмуся
Я і многа нас — не жарт!

*1934*

# Георгій Пех — заснавальнік Ваўкавыскага музея




*Пасведчанне Георгія Пеха*

Заснавальнік Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея, археолаг, калекцыянер і мастак Георгій Пех (1897–1969) сёння амаль забыты і нідзе не прыгадваецца. А гэта быў даволі таленавіты, адукаваны, апантаны сваёй справай чалавек, які заслугоўвае светлай памяці. Ён шмат зрабіў для беларускай археалогіі. Прымаў удзел у археалагічных раскопках Ваўкавыска, Мінска, Слоніма, Турыйска. Падрабязна іх апісаў, распавядаў пра раскопкі ў беларускім друку.

Постаць Георгія Пеха застаецца загадкавай да сённяшніх дзён не толькі на Ваўкавышчыне, але і ў Беларусі ў цэлым, і нават сярод тых, хто займаецца гісторыяй, краязнаўствам, археалогіяй. Даследчыкі мінуўшчыны ведаюць, што быў такі Пех, але ягоны лёс, лёс ягонай сям'і, таямніцы ягонай творчасці і археалагічных пошукаў — ніхто ніколі грунтоўна не даследаваў. Таму за гэту справу вырашыў узяцца я. І падрабязна, шчыра распавесці пра чалавека, які любіў і даследаваў свой край, які ва ўсіх анкетах і біяграфіях, дзе б ён не жыў і дзе б не працаваў, заўсёды вялікімі літарамі пісаў, што ён — беларус.

## З біяграфіі

Георгій Пех нарадзіўся 17 снежня 1897 года ў горадзе Луга былой Санкт-Пецярбургскай губерні Расіі ў сям'і беларуса Іосіфа Пеха, які родам быў з Беласточчыны. Іосіфа Пеха там вельмі паважалі і ведалі, як даволі сур'ёзнага чалавека. Працаваў ён на чыгунцы тэлеграфістам, потым механікам. Тэлеграфісткай працавала і маці Георгія Пеха. Тэлеграфістам быў і яго дзед. Пазней і сам Георгій навучыцца гэтай справе.





*Георгій Пех*

Іосіф Пех у горадзе Луга быў не толькі паважаным, але і дужа прыкметным чалавекам. Меў ён рост каля двух метраў, ды і вагой не менш, як паўтары цэнтнеры. Мясцовыя рамізнікі не хацелі падвозіць Іосіфа на сваіх брычках, бо баяліся, каб ён іх не зламаў.

Жонкай Іосіфа Пеха была руская жанчына Клаўдзія Васільева. Паходзіла яна з сям'і рускага генерала Васільева. Клаўдзія вельмі кахала свайго мужа і нарадзіла яму чатырох сыноў.

Перад Першай сусветнай вайной Іосіфа Пеха накіравалі ў Свянцяны Віленскай губерні на пасаду кіраўніка тэлеграфа. Іосіф пераехаў у Свянцяны і забраў з сабой усю сям'ю. Там ён абслугоўваў участак чыгункі ад Нарвы да Панявежа. А сын Георгій скончыў гарадское чатырохкласнае вучылішча ў Свянцянах. І адразу паступіў у Свянцянскую гімназію. Але ў верасні 1915 года, у сувязі з эвакуацыяй гімназіі ў горад Невель, вучобу спыніў і пераехаў з бацькамі ў Лугу. А восенню 1916 года паступіў у 12-ю Петраградскую гімназію. Але доўга там не павучыўся, бо разам з бацькам выехаў у горад Чарнавіцы і стаў працаваць тэлеграфістам на чыгунцы Галіцыі і Букавіны, якая знаходзілася ў падпарадкаванні ваеннага ведамства. Георгій дужа добра умеў працаваць на апараце Морзе. Праўда, з Чарнавіц, як вайскоўца, яго хутка адкамандзіравалі ў чацвёрты дарожна-чыгуначны атрад, які падпарадкоўваўся сёмаму корпусу арміі генерала Аляксея Брусілава.

У траўні 1917 года, калі расфарміравалі атрад, Георгій Пех зноў вярнуўся ў Петраград, дзе скончыў электратэхнічныя курсы і атрымаў спецыяльнасць механіка тэлеграфа. Працаваў на станцыях Нарва, Луга. А калі Віленшчыну вызвалілі ад немцаў, у лютым 1919 года быў прызначаны ў Віленскую акругу шляхоў зносін на станцыю Панявеж, дзе ён працаваў да траўня, пакуль у горад не ўвайшлі літоўскія войскі. Потым захварэў на тыф, каля двух месяцаў праляжаў

у бальніцы, а калі ачуняў — паехаў у Нова-Свянцяны, дзе спаткаўся з маці і братамі. Ад іх і даведаўся, што загінуў бацька падчас захопу Нова-Свянцян белапалякамі. Там бацьку і пахавалі.

У Нова-Свянцянах Георгій пайшоў працаваць на дарожна-чыгуначны транспарт на пасаду канторшчыка службовага руху. А з 1931 года пераехаў у Ваўкавыск.

Пры Польшчы Георгій Пех, як сцвярджае ваўкавыскі краязнавец Мікалай Быхаўцаў, працягваў вучобу ў Віленскай тэхнічнай школе (але ў сваіх аўтабіяграфіях пра гэту школу Пех нідзе не згадвае. — *С. Ч.*). Скончыў яе з адзнакай. Як выдатнага спецыяліста, яго накіроўвалі на працу ў Беласток — на радзіму бацькі. Там малады, высокі і прыгожы Георгій знаёміцца з Аляксандрай Чапчук. Дзяўчына працавала на прадзільнай фабрыцы і дужа спадабалася Георгію. Бацька Аляксандры — Сцяпан Чапчук усё жыццё размаўляў толькі на беларускай мове. А вось маці Аляксандры была полька, яна размаўляла па-польску. Але пражыўшы ўсё жыццё разам, бацькі кахалі адзін аднаго і добра разумелі, але часам размаўлялі між сабой на трасянцы.

Маладыя пажаніліся. І хутка Георгія Пеха, як спецыяліста, запрасілі ў Ваўкавыск, куды ён з жонкай і паехаў. Пазней да сына ў Ваўкавыск прыехалі яго маці з братамі.

## Першыя захапленні археалогіяй

З юначых гадоў Георгій Пех пачаў цікавіцца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны. Вельмі марыў працаваць у музеі. Часта наведваў музеі, асабліва спыняўся і доўга разглядаў, вывучаў і запамінаў старыя манеты, археалагічныя скарбы. Хутка пачаў сам калекцыяніраваць манеты, розныя старыя рэчы, моцна захапіўся краязнаўствам і археалогіяй. А ў 1925 годзе ў Гародні пазнаёміўся з польска-беларускім археолагам Восіпам Ядкоўскім (Юзафам Іадкоўскім, 1890–1950). Спадар Ядкоўскі запрасіў Пеха прыняць удзел у раскопках «Швецкай гары» каля Ваўкавыска. Пех з радасцю пагадзіўся. Гэта былі яго першыя раскопкі.

Ядкоўскі шмат разоў гасцяваў у Пехаў у Ваўкавыску. Яны разам абышлі амаль усю Ваўкавышчыну. А ў 1935 годзе ваўкавыскі інжынер Давыдоўскі прапанаваў Георгію Пеху ў падвальных памяшканнях будынка старосты адкрыць музей. Гэты год і лічыцца заснаваннем





*Раскопкі Швецкай гары ў Ваўкавыску. У другім радзе другі справа Георгій Пех, 1954 г.*

Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя Баграцёна, які і сёння існуе. Для захоўвання экспанатаў Давыдоўскі выдаткаваў Пеху некалькі шафаў. Пех пачаў мэтанакіравана ездзіць то ў Вільню, то ў Варшаву, бо праезд у яго быў бясплатны, і прывозіць адтуль розныя экспанаты: кнігі, манеты, археалагічныя знаходкі.

Ён пачаў глыбока даследаваць Ваўкавышчыну і суседнія паветы. А ў 1937 годзе даследчык роднага краю становіцца сябрам Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства. Яго актыўна запрашаюць на розныя канферэнцыі, сустрэчы, прэзентацыі.

З прыходам савецкай улады ў Ваўкавыск, Георгія Пеха з 1 студзеня 1940 года прызначаюць дырэктарам Ваўкавыскага краязнаўчага музея. Адпрацаваў ён на гэтай пасадзе да 31 снежня 1940 года. А з 1 студзеня да 23 чэрвеня 1941 года ўжо працаваў на пасадзе загадчыка гістарычнага аддзела Гродзенскага дзяржаўнага музея.

Калі пачалася Другая сусветная вайна, Георгій Пех разам з сям’ёй пераязджае ў Беласток да жончыных сваякоў. Там ён уладкаваўся на працу памочнікам машыніста на манеўровым паравозе. А жонка

пайшла працаваць на мясцовы рынак. Яна гандлявала гароднінай, якую скупляла ў вяскоўцаў.

З радасцю Георгій Пех сустрэў выхад у Беластоку газеты «Новая дарога», якую рэдагаваў паэт Хведар Ільяшэвіч. Ён пазнаёміўся з рэдактарам. Хведар Ільяшэвіч прапанаваў яму супрацоўнічаць з газетай і пісаць для яе гісторыка-археалагічныя матэрыялы. Пех пагадзіўся. І ў 1943 годзе на старонках «Новай дарогі» пачалі з'яўляцца артыкулы Пеха, якія ён падпісваў Юры Пех, Ю. Пех. Мне ўдалося пакуль адшукаць толькі тры яго матэрыялы ў «Новай дарозе» за 1943 год. Гэта артыкулы «Старадаўныя курганы Ваўкавышчыны» (8 жніўня, 1943 г.), «Старыя беларускія манэты» (12 верасня 1943 г.) і «Драгічын» (21 лістапада 1943 г.).

## У Ваўкавыску

Калі немцы пакінулі Ваўкавыск, Георгій Пех з сям'ёй вяртаецца ў вызвалены горад. Найперш яго цікавіў лёс музея і музейных экспанатаў. Ён пачаў абыходзіць усіх жыхароў Ваўкавыска і шукаць экспанаты. Але знайшлося дужа мала, большая частка каштоўных музейных рэчаў зніклі. Але ваўкавыскі руплівец не падаў духам, не апускаў рук. Ён збірае па наваколлі савецкую і нямецкую зброю, уніформу, узнагароды, дакументы часоў акупацыі. А 18 студзеня 1945 года Ваўкавыскі аддзел народнай адукацыі прызначае яго дырэктарам краязнаўчага музея.

Праз год Пех піша пісьмо народнаму паэту Беларусі Якубу Коласу з просьбай дапамагчы знайсці сродкі на аднаўленне музея. І Якуб Колас дапамагае: першыя сродкі ў памеры 500 рублёў паступілі на аднаўленне музея. Пасля шматлікіх клопатаў і спраў, у 1948 годзе пад музей аддаюць адно памяшканне ў былым панскім маёнтку каля дарогі на Слонім, дзе ў 1812 годзе некалькі дзён знаходзіўся штаб Другой Заходняй арміі расійскіх войск з генералам Пятром Баграціёнам. Сам будынак быў пабудаваны ў 1805 годзе і сёння з'яўляецца помнікам архітэктуры класіцызму. Але аднаго пакоя для музея тады было мала. І Пех дабіўся, каб пад музей з цягам часу аддалі ўвесь будынак. А 27 лютага 1953 года музей быўператвораны з краязнаўчага ў ваенна-гістарычны імя Баграціёна.



Пасля Другой сусветнай вайны вялікія музеі Савецкага Саюза абавязаны былі дапамагаць музеям, якія знаходзіліся пад акупацыяй. Інакш кажучы, з маскоўскіх і ленінградскіх музеяў маглі перадавацца ў Беларусь некаторыя музейныя экспанаты. На жаль, беларусы такую мажлівасць не выкарысталі. А вось Георгій Пех з Ваўкавыска гэтага не мінуў. У пачатку 1950-х гадоў у Ленінградзе быў ліквідаваны інжынерна-артылерыйскі музей. Пех дабіўся, каб частку экспанатаў з гэтага музея перадалі ў Ваўкавыск, асабліва тыя, якія датычаць вайны 1812 года. Адтуль ён прывёз гусарскія мундзіры, зброю, карціны, гравюры, кнігі, звязаныя з вайной 1812 года. У Ваўкавыскім музеі захоўваецца ці не адзіная ў Беларусі поўная калекцыя расійскіх узнагарод таго часу. З Ленінграда і Масквы Георгій Пех вёз старую кальчугу, заходнееўрапейскія, персідскія, турэцкія, расійскія шаблі, мячы, рапіры, шлемы. І тое, што ён меў у сваёй уласнай калекцыі, таксама аддаў роднаму музею. Многія яго экспанаты і сёння захоўваюцца ў іншых музеях Беларусі, а таксама ў прыватных калекцыях. Дарэчы, ён быў яшчэ вялікім калекцыянерам, збіраў манеты і паштовыя маркі. Яго калекцыя налічвала звыш 15 тысяч паштовых марак. Была там і першая марка Расійскай імперыі 1857 года.

## Раскопкі

Георгій Пех працаваў не толькі дырэктарам музея і з'яўляўся калекцыянерам даўніны, але і быў выдатным археолагам, навукоўцам. З ім раіліся кандыдаты і дактары гістарычных навук, супрацоўнікі інстытута гісторыі Акадэмій Навук БССР і СССР, яго запрашалі на розныя навуковыя канферэнцыі, дзе ён чытаў лекцыі па археалогіі. Тады ён мог стаць і кандыдатам, і доктарам навук. Але да гэтага яго не дапускалі, ніхто ніколі яму нават не параіў абараніць кандыдацкую ці доктарскую дысертацыі па беларускай археалогіі. Нават мала публікавалі яго даследчыя працы, а тыя, якія друкавалі ў навуковых выданнях — вельмі скарачалі, рэзалі. Напрыклад, артыкулы «Раскопки в Волковыске» (часопіс «Советская археология», 1963, № 1), «Раскопки древнего Слонима» (зборнік «Древности Белоруссии» (Мінск, 1966) і іншыя.

Летам 1948 года Георгія Пеха запрашаюць прыняць удзел у раскопках Мінскага замчышча. Пех пагадзіўся. І з 15 чэрвеня да 3 верасня

1948 года з'яўляўся начальнікам атрада археалагічнай экспедыцыі Мінскага замчышча. У працоўнай дамове, копія якой захоўваецца ў аўтара гэтых радкоў, ад 8 чэрвеня 1948 года на рускай мове запісана, што працоўная дамова заключана паміж Акадэміяй Навук БССР у асобе дырэктара Інстытута гісторыі, сапраўднага члена АН БССР Мікалаем Нікольскім і Георгіем Пехам, які павінен выканаць шэраг работ: кіраваць рабочымі пры раскопках на Мінскім замчышчы плошчай да 100 кв. м, выконваць шэраг рабочых замалёвак, чарцяжоў, асобныя даручэнні кіраўніка раскопак, звязаных з арганізацыяй і правядзеннем раскопак, праводзіць фіксацыю і этыкеціраванне знаходак, рабіць чарнавыя запісы ў дзённіку раскопак і г. д. Георгій Пех усё выконваў шчыра і з вялікім задавальненнем. Дарэчы, Пех прымаў удзел у раскопках Мінскага замчышча і ў 1946, і ў 1947 і ў 1949 гадах.

31 жніўня 1948 года Георгій Пех атрымлівае адкрыты ліст з Інстытута гісторыі Акадэміі Навук БССР за подпісамі дырэктара інстытута доктара гістарычных навук А. П'янкова і сакратара П.Лук'янава ў якім паведамляецца, што Георгію Пеху дазваляецца праводзіць археалагічныя раскопкі на гарадзішчы «Швецкая гара» у Ваўкавыску. У адкрытым лісце таксама запрашаюцца ўсе «савецкія і грамадскія арганізацыі Ваўкавыскага раёна дапамагаць Г. І. Пеху ў паспяховым выкананні ўскладзеных на яго даручэнняў».

Георгій Пех «ускладзеныя на яго даручэнні» выканаў. А ў 1958 годзе ў Ваўкавыску зноў праводзіць самастойныя раскопкі, даследуе таксама ваколіцы Ваўкавыска: Аменічы, Рыбакі, Зубаўшчыну, Лазы, Мітрані, Мсцібаву, а таксама Турэйскае гарадзішча, курганны могільнік каля вёскі Чырвонае Сяло і іншыя. Па сваіх археалагічных даследаваннях напісаў грунтоўныя справаздачы.

Георгій Пех вельмі ўмеў сябраваць. У яго па ўсім былым Савецкім Саюзе, а таксама ў Польшчы было шмат сяброў-аднадумцаў. Ён з імі перапісваўся, даваў парады, сам у іх раіўся па розных музейных і археалагічных справах, аднадумцы бывалі адзін у аднаго ў гасцях.

Вельмі шчыра і шмат гадоў Георгій Пех сябраваў з заснавальнікам Слонімскага краязнаўчага музея і такім, як ён апантаным калекцыянерам, краязнаўцам і музейшчыкам Язэпам Стаброўскім (1870–1968). У 1946 годзе Пех завітаў да яго ў Слонім. Тут, у Слоніме, у траншэі на замчышчы на глыбіні каля двух метраў, ён знаходзіць некалькі



фрагментаў сярэднявечнай керамікі і кавалак шклянога бранзалета жоўтага колеру. Знойдзеныя прадметы сталі падставаю для правядзення на замчышчы археалагічных раскопак у 1953 і 1959 гадах, у выніку якіх быў лакалізаваны гістарычны цэнтр Слоніма.

Першыя раскопкі ў Слоніме і ў вёсцы Васілевічы Слонімскага раёна Георгій Пех правёў восенню 1953 года. У маім хатнім архіве захоўваюцца копіі двух адкрытых лістоў на дазвол Пеху праводзіць раскопкі ў Слоніме і ў вёсцы Васілевічы. Адзін ліст ад 22 кастрычніка 1953 года за подпісам выконваючага абавязкі дырэктара Інстытута гісторыі Акадэміі Навук БССР кандыдата гістарычных навук І. Краўчанкі і загадчыка сектарам археалогіі гэтага ж інстытута кандыдатам гістарычных навук К. Палікарповічам, дзе ў лісце паведамляецца: «Сапраўдны адкрыты ліст выдадзены Інстытутам гісторыі АН БССР дырэктару Ваўкавыскага музея Георгію Іосіфавічу Пеху ў тым, што яму сапраўды дазваляецца праводзіць раскопкі гарадзішча ў горадзе Слоніме на месцы былога замка Агінскага і аднаго кургана ў вёсцы Васілевічы Слонімскага раёна. Тав. Г. І. Пеху дазваляецца рабіць неабходныя ў працэсе археалагічнай працы замеры, здымкі планаў і чарцяжоў, замалёўкі, фотаздымкі і г. д. Тав. Г. І. Пеху абавязаны не пазней 1 снежня 1953 года прадаставіць у сектар археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР навуковую справаздачу аб праведзеных па сапраўднаму адкрытаму лісту даследаваннях».

Другі адкрыты ліст за подпісамі Краўчанкі і Палікарповіча на археалагічныя даследаванні Пехам Слоніма быў выдадзены 8 чэрвеня 1959 года. А намеснік начальніка Гродзенскага абласнога ўпраўлення культуры Гардзееў 6 чэрвеня 1959 года за № 396 даў распараджэнне: «Накіраваць з 1 чэрвеня па 30 чэрвеня 1959 года дырэктара Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя Баграціёна тав. Пеха Г. І. у распараджэнне Слонімскага краязнаўчага музея для правядзення археалагічных раскопак у г. Слоніме». Пасля раскопак Георгій Пех зрабіў некалькі пісьмовых справаздач, а таксама публікацыю ў кнізе «Древности Белоруссии» (Мінск,1966).

Дарэчы, Георгій Пех з 1 чэрвеня па 15 верасня 1946 года нават працаваў у Слонімскім краязнаўчым музеі. Да сябе яго ўзяў Язэп Стаброўскі. Бо ў Ваўкавыску тады з-за розных музейных непаразуменняў з мясцовым начальствам, ён некалькі разоў звальняўся з працы, але яго зноў клікалі ў Ваўкавыск. І ён вяртаўся…

### Георгій Пех — мастак

Георгій Пех быў яшчэ добрым жывапісцам і скульптарам. Дагэтуль у Ваўкавыскім музеі і ў іншых музеях Беларусі знаходзяцца яго скульптурныя і жывапісныя карціны, на якіх адлюстраваны гусар гродзенскага палка на кані, Баграціён, Карбышаў, скульптурная група піянераў-падпольшчыкаў, бой каля Ваўкавыска 1812 года, бюсты Леніна і г. д. Бюстаў Леніна скульптар ў тыя 1940–1950-я гады нарабіў шмат. На той заробак, які ён пры жыцці атрымліваў, пражыць і пракарміць сям'ю было цяжка. Таму ён ляпіў Леніна і прадаваў іх калгасам, якія з радасцю бюсты куплялі і ставілі іх у свае «чырвоныя куткі». Але ніколі не быў Гергій Пех членам кампартыі. Таму савецкія партыйныя чыноўнікі глядзелі на яго заўсёды неяк асцярожна. Аднойчы Пеха нават хацелі ўзнагародзіць ордэнам, але даведаліся, што ён беспартыйны і ордэн не далі. А заахвочвалі краязнаўца і музейшчыка толькі ганаровымі граматамі.

Пакінуў свой музей Георгій Пех у 1967 года, тады яму было ўжо 70 гадоў. А праз два гады яго не стала (памёр 19 мая 1969 года). Перад смерцю ён прадаў шмат каштоўных выданняў са сваёй сабранай уласнай бібліятэкі, калекцыю манет і іншыя рэчы з прыватнай калекцыі, бо баяўся, што сваякам не будзе за што яго пахаваць.

### Памяць

Пра знакамітага беларуса, заснавальніка Ваўкавыскага музея, археолага, краязнаўца, мастака, калекцыянера мала хто і калі згадваў. Маленькая інфармацыя пра яго ёсць у энцыклапедыі «Археалогія і нумізматыка Беларусі» (Мінск, 1993. С. 498), прыгадваў пра яго і краязнавец з Ваўкавыска Мікалай Быхаўцаў (2002), і мінскі журналіст Віктар Корбут (2009). Вось бадай і ўсё. А Георгій Пех заслугоўвае большай памяці, асабліва сярод сваіх землякоў, якім ён у спадчыну пакінуў вялікі і арыгінальны музей у Ваўкавыску. Музей, які павінен насіць яго імя, і помнік Георгію Пеху павінен быць у Ваўкавыску і вуліца яго імя. Дзіўная рэч атрымліваецца: сваіх мы не памятаем, а чужых ушаноўваем.



## Пісалі Сапрон Дзяга, Янка Вехаць і Селянін…

### *Беласточчына на старонках «Беларускіх ведамасьцяў», 1921–1922 гады*

Беларускамоўная газета «Беларускія ведамасьці» выдавалася ў Вільні з 14 верасня 1921 года да 15 студзеня 1922 года. Рэдактарам і выдаўцом газеты быў таленавіты пісьменнік Максім Гарэцкі. Газета выдавалася замест «Нашай долі», забароненай уладамі Сярэдняй Літвы. Усяго выйшла 19 нумароў.

У «Беларускіх ведамасьцях» друкаваліся матэрыялы на самыя разнастайныя тэмы: эканамічныя, палітычныя, этнаграфічныя, рэлігійныя, літаратурныя, фальклорныя, сацыяльныя і іншыя. Свае матэрыялы змяшчалі Усевалад Ігнатоўскі, Аркадзь Смоліч, Максім Гарэцкі, Аляксандр Ружанцоў, Макар Краўцоў, Францішак Умястоўскі, Ігнат Канчэўскі і многія іншыя вядомыя асобы.

Сярод прафесійных аўтараў былі і вясковыя карэспандэнты газеты. Са сваіх рэгіёнаў яны дасылалі ў «Беларускія ведамасьці» розныя інфармацыі пра тыя падзеі, якія адбываліся ў іх мясцовасці.

Актыўна газета друкавала матэрыялы невядомых сёння аўтараў з Беласточчыны Сапрона Дзягі і Янкі Вехаця. Сапраўдныя імёны і прозвішчы карэспандэнтаў, якія падпісвалі свае матэрыялы гэтымі псеўданімамі, застаюцца пакуль неразгаданымі. Але вельмі цікава праз 85 гадоў прачытаць тое, аб чым пісалі Сапрон Дзяга і Янка Вехаць. А таксама даведацца, што тады адбывалася на беларускай Беласточчыне. Праўда, быў там і яшчэ адзін сельскі карэспандэнт Селянін. Ёсць і такая версія, што гэтымі псеўданімамі падпісвалася адна асоба. Той Селянін, напрыклад, 10 кастрычніка 1921 года пісаў з Нова-Дворскай воласці Сакольскага павета аб тым, што «Сакольшчына, як ведама, даўно прылучана да Польшчы, не пытаючыся нас, сакольскіх беларусаў. Нас цяпер хочуць вырабіць на свой капыл. Хочуць з нас зрабіць палякаў. Падчынялі (у іншых месцах пад прымусам) польскія школы, пабралі маладых мужчын у войска, пазачынялі цэрквы, прымушаюць гаварыць абавязкова па-польску, гаворачаму па-беларуску не адказваюць. Жыццё зрабілася для нас цяжкім…

Ксёндз у воласці цар і бог, ні адзін сход, ні адныя выбары не абыдуцца без яго, усюды ён кіруе. Нядаўна ў Новым Двары па просьбе праваслаўных сялян была адчынена Нова-Дворская царква. Учуўшы, сяляне з усіх вёсак, як на ўрачыстасць, сабраліся да цэрквы, так што нават месца не хапіла ў царкве, дык стаялі за брамаю. А каталікі ўсе дзівіліся, скуль магло набрацца столькі, як яны кажуць «кацапаў». І данеслі ксяндзу, а ксёндз знай сваю справу — зараз да жандараў, да Сакольскага старосты, а можа нават і далей данёс, і царкву на трэці тыдзень закрылі…».

У гэтым самым нумары «Беларускіх ведамасьцяў» Сапрон Дзяга з Крынак паведамляў пра Крынскі гурток беларускай моладзі пажадаў паставіць на сцэне ранейшую драму «Манька» і камедыю «Модны шляхцюк». У Крынках хлопцы і дзяўчаты ўжо развесілі рэкламныя афішы, нават адна была напісана на польскай мове. Праўда, у ёй было дужа шмат памылак, бо сябры гуртка не ведалі польскай мовы. На афішы быў намаляваны модны шляхцюк, а яго за нагавіцы тузае сабака, шляхцюк яму крыць: «Poszed won!». І вось ноччу з 24 на 25 верасня афішу нехта сарваў… Вось пра гэта і піша аўтар у газету.

Пад псеўданімам Вехаць у № 5 «Беларускіх ведамасьцяў» за 1921 год чытачы таксама прачыталі і пра беларускую пачатковую школу ў Крынках, якую польскі настаўнік «powszechnaje szkoly» яе закрыў без аніякіх прычын. Бо гэтаму настаўніку падпарадкоўваліся ўсе мястэчковыя школы. Настаўнік гэтай школы звярнуўся ў Гародню, каб даведацца, чаму закрылі школу. Але замест адказу інспектар звольніў яго з працы. «Гэтак і закрылі беларускую пачатковую школу — адну на ўвесь Гарадзенскі павет, апроч Гародні», — з адчаем паведамляе аўтар.

Сапрон Дзяга пад крыптанімам С-Д у № 11 за 1921 год «Беларускіх ведамасьцяў» паведаміў, што тэатральная секцыя беларускага гуртка моладзі ў Крынках 30 кастрычніка паставіла жарт Леапольда Родзевіча «Збянтэжаны Саўка». Рэжысёрам-пастаноўшчыкам спектакля быў псаломшчык мясцовай царквы Пералайка. Ролю збянтэжанага Саўкі іграў Рыгор Астроўскі, які ўсіх смяшыў і найбольш атрымліваў апладысментаў. Ролю Магрэты іграла Ксеня Анісімавічанка. Аўтар інфармацыі нават робіць артыстцы заўвагу, што на крыўлянні Саўкі



яна некалькі разоў усміхнулася. А вобраз жабрака на вясковай сцэне стварыў мясцовы артыст Янка Лотыш.

Спектакль «Збянтэжаны Саўка» тады прайшоў вельмі весела, гледачы доўга крычалі «брава!» і дзякавалі артыстам.

У адной з інфармацый («Беларускія ведамасьцьці», 1921, № 7) усё той жа Сапрон (а ў іншых месцах і Супрон) Дзяга пісаў, як праходзіў перапіс насельніцтва ў Крынках, які быў арганізаваны па загаду Галоўнага статыстычнага ўраду Рэчы Паспалітай. Перапіс насельніцтва ў Крынках тады праводзіла польская настаўніца Я. Ст. Калі ў аўтара інфармацыі (значыць, ён жыў у Крынках. — *С. Ч.*) спыталі: якая ваша родная мова, ён адказаў: беларуская. А яна запісала — беларуская і польская. На пытанне: якой вы нацыянальнасці — адказаў: беларус, а запісала — расіянін… На пытанне, чаму яна так піша, настаўніца адказала, што яе так навучыў «інструктар». У канцы сваёй інфармацыі Супрон Дзяга падводзіць вынікі: «Панэ «інструктары»! Пішэце, пішэце на паперы, перарабляйце на ёй беларусаў на маскоўцаў і палякаў, але ў глыбіні нашых сэрцаў перарабіць нас вам не ўдаецца».

У № 9 за 1921 год «Беларускіх ведамасьцяў» была надрукавана інфармацыя з вёскі Семяноўка Крынскай гміны. У ёй паведамлялася, што яшчэ пры немцах у пачатку XX стагоддзя па просьбе жыхароў была адкрыта беларуская пачатковая школа з беларускім настаўнікам. У 1919 годзе настаўнік з гэтай школы паехаў у Вільню на курсы. Пакуль ён быў на курсах, палякі са школы вывезлі лаўкі і іншыя рэчы. А калі вярнуўся настаўнік з курсаў, то і яму працаваць у гэтай школе не дазволілі. Другі настаўнік выклапатаў, каб школу ў Семятоўцы адкрылі. Але 21 жніўня 1921 года павятовы інспектар прыслаў польскую настаўніцу. І хутка ў вёсцы замест беларускай адкрылі ўжо польскую школу.

У наступнай карэспандэнцыі з Крынак Супрон Дзяга паведамляў пра тое, як пан войт даў загад па вёсках сабраць для настаўнікаў «з кожнай дзесяціны па 4 хунты жыта, 5 хунтаў бульбы, 7 лотаў тлушчу» і г. д. Але вяскоўцы выказалі сваё незадавальненне: беларускіх настаўнікаў няма, беларускіх школ няма, дзеткі не вучацца, дык навошта падтрымліваць чужое «nauczycielstwo». Пра гэта і піша Супрон Дзяга.

Янка Вехаць у №14 за 1921 год паведамляў, што ў Крынках 20 лістапада грамада беларускай моладзі паказвала новыя спектаклі. І хоць

надвор'е было дажджлівае, у вясковы тэатр прыйшло шмат людзей, былі запрошаны і бежанцы, якія вярнуліся на Бацькаўшчыну. Вясковыя артысты паказалі «Каліcь» Ф. Аляхновіча і «Конскі партрэт» Л. Родзевіча. Асабліва добра ігралі свае жаночыя ролі сёстры М. і В. Крывашэйны і В. Касацкая.

Вельмі цікавы факт зафіксаваў у сваёй карэспандэнцыі Янка Вехаць («Беларускія ведамасьці». 1921. № 15), пра тое, як мясцовыя паны ў Крынках вельмі актыўна прадаюць мазурам з Польшчы зямлю і лес. А вось беларускім бежанцам, якія вярнуліся дамоў з Расіі і не пабачылі сваіх будынкаў, і хочуць за грошы купіць лесу, то ім местачковыя паны прадаваць не жадаюць.

З вёскі Семяноўка была апублікавана ў «Беларускіх ведамасьцях» і яшчэ адна інфармацыя, якая мела загаловак «Фальсіфікат замест беларускае вучыцелькі» (1922, № 3). У ёй аўтар высмейваў мясцовую настаўніцу-беларуску, ад якой немагчыма было пачуць ніводнага роднага слова. А калі чыё дзіця не пойдзе ў школу, дык бацькі за гэта плацілі штраф. Яна так ужо аштрафавала 6 бацькоў. А яшчэ аўтар крыўдзіўся, што гэтай настаўніцы трэба было вяскоўцам бясплатна сячы дровы, даваць фурманку і выконваць іншыя па яе жаданню работы…

Гартаючы і чытаючы «Беларускія ведамасьці» першай паловы XX стагоддзя, бачна, як няпроста тады жылося тутэйшым людзям — беларусам Беласточчыны. Але пра свае крыўды і праблемы яны ўсё ж маглі смела выказацца на старонках беларускіх выданняў.

## Гумарыстычныя вершы Уладзіслава Паўлюкоўскага

У траўні 2015 года споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта, празаіка, этнографа, краязнаўца і мастака Уладзіслава Паўлюкоўскага (1895–1955). На вялікі жаль, пра гэты юбілей таленавітага беларуса амаль ніхто ў беларускіх СМІ не згадаў і ніхто гэты юбілей не заўважыў. А ў верасні 2015 года споўнілася 60 гадоў з таго часу, калі Паўлюкоўскага не стала. Два юбілеі — радасны і сумны.

Літаратурная спадчына Уладзіслава Паўлюкоўскага раскідана па многіх заходнебеларускіх газетах і часопісах. Ён друкаваўся пад





*Уладзіслаў Паўлюкоўскі, 1919 г.*

сваім уласным імем, а таксама пад псеўданімамі і крыптанімамі У-Ініцкі; Улад. Ініцкі; У. І. Ніцкі; Улад-Ініцкі; Унучак; У. Паў-скі; Ул. Паў-скі; У. І.; У.-І.; Ў. П. у «Маланцы», «Нашай справе», «Голасе працы», «Сялянскай ніве», «Авадні», «Шляху моладзі», «Пралесках», беларускіх календарах і зборніках. Пасля 1940 года ў Беларусі асобным выданнем не выйшла ніводнай кнігі твораў Уладзіслава Паўлюкоўскага. Толькі ў 1928 годзе ў Вільні з'явіліся кніга вершаў «Сон Гаўрылы і розныя вершы», потым — «Апавяданні» (Вільня, 1929), зборнічак жартаў «Клім бабаю і іншыя жарты» (Вільня, 1929)і ўспаміны «Арышты: Бяроза і воля» (Вільня, 1940). Вось і ўсё, што пабачыла свет Уладзіслава Паўлюкоўскага. Усе гэтыя выданні выйшлі пад псеўданімамі Улад-Ініцкі.

Нарадзіўся гэты таленавіты чалавек на тэрыторыі сучаснай Стаўбцоўшчыны ў вёсцы Ініца ў шматдзетнай сям'і. Вучыўся ў Стоўбцах і ў Навагрудку, потым у Харкаўскім мастацкім вучылішчы.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, яго забралі на фронт. Служыў прапаршчыкам, быў палкавым пісарам у штабе 530-га пяхотнага палка, франтавыя дзеянні якога канцэнтраваліся пераважна на Віленшчыне. Малады прапаршчык падчас непрацяглага зацішша паміж баямі з дапамогай фотаапарата стварыў франтавы фоталетапіс жыцця асобнага палка. Пазней атрыманыя фатаграфіі склалі два альбомы невялікага фармату. Навуковыя супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі Таццяна Жук і Марына Ліс апублікавалі шэраг ваенных фотаздымкаў Паўлюкоўскага на сайце http://news.tut.by.

У 1920 годзе Уладзіслаў Паўлюкоўскі прыехаў у родную вёску. Адпачыў там ад войнаў, набраўся сіл і з'ехаў у Вільню. У старажытным горадзе наладзіў сувязі з творчай інтэлігенцыяй, пачаў супрацоўнічаць з многімі беларускімі выданнямі, як графік удзельнічаў

у выданні календароў, кніжак, падручнікаў, а таксама шмат фатаграфаваў. Першыя яго творы з’явіліся ў друку ў 1926 годзе. Зоська Верас у пісьме да Адама Мальдзіса ад 4 ліпеня 1980 года пісала: «Не ведаю, ці Вы звярнулі ўвагу ў маім рукапісным зборнічку біяграфіяў беларускіх дзеячаў на гэтае прозвішча — У. Паўлюкоўскі. Ён няшмат пісаў, і творы сярэдняй вартасці, але адна работа вельмі цікавая — каляндар на круглы год. Кожны месяц мае назовы ў самых розных мовах, гісторыя кожнага месяца, пачынаючы ад назову, да святаў, звычаяў і г. д. пачынаецца ад рымскіх часоў, канчаецца звычаямі, прыказкамі і г. д. беларускага народу. У пісьме ад 18 сакавіка 1983 года Зоська Верас Адаму Мальдзісу паведамляла, што «ён быў і мастак, і пісьменнік. Супрацоўнічаў у гумарыстычных часопісах «Маланка» , у «Заранцы» выдаў кніжку перакладаў Л. Талстога. Але галоўная яго праца — «Гісторыя календароў…» (Зоська Верас. Я помню ўсё. Гародня; Wrocław, 2013. С. 192, 261).

Сапраўды, найбольш вядомая праца Уладзіслава Паўлюкоўскага ў 1930-я гады — гэта этнаграфічныя эцюды, прысвечаныя кожнаму месяцу года, — своеасаблівы народны каляндар, у якім апісваліся традыцыйныя народныя святы, звычаі, абрады, прыводзіліся народныя прыказкі, адпаведныя земляробчаму цыклу, тлумачыліся назвы месяцаў і іх першакрыніцы, а таксама назвы ў календарах іншых народаў, пачынаючы са старажытных часоў і да пачатку XX стагоддзя.

Шмат пісаў паэт гумарыстычных твораў. У іх ён апісваў анекдатычныя жыццёвыя сітуацыі, розныя камічныя здарэнні, выпадкі.

У 1940 годзе Уладзіслаў Паўлюкоўскі стаў працаваць у Беларускім музеі імя Івана Луцкевіча. А пасля вайны да 1948 года ўзначальваў Літаратурны музей Аляксандра Пушкіна ў Вільні. Але аднойчы ў канцы лета яго арыштавалі органы МДБ. З Вільні паэта прывезлі ў Мінск і асудзілі да 10 гадоў лагераў.

Пасля смерці Сталіна, Уладзіслаў Паўлюкоўскі вярнуўся ў Вільню паралізаваным. Ён пражыў яшчэ два гады і памёр. Яму было толькі 60 гадоў, з якіх — 7 ён правёў у зняволенні: Лукішкі, Картуз-Бяроза, ГУЛАГ.

Паэта пахавалі на віленскіх могілках Роса. Як пісала тая ж Зоська Верас да Адама Мальдзіся ад 4 ліпеня 1980 года: «На яго магіле ёсць маленькі помнік. Надпіс — па-беларуску. Апекаваліся магілай удава



і яе сын — пасынак Паўлюкоўскага. Але апошнія гады, як мне казаў Янка Багдановіч, магіла зусім запушчаная» (Зоська Верас. Я помню ўсё. С. 192).Вось такі сумны лёс забытага беларускага літаратара Уладзіслава Паўлюкоўскага. Але ў жыцці ён быў і да смерці заставаўся аптымістам, любіў жарты і анекдоты. Таму давайце сёння прыгадаем гэтага таленавітага чалавека яшчэ раз і ўсміхнёмся разам з ім, тым больш, што яго гумарыстычныя вершы і ў наш час не страцілі актуальнасці і гумару.

*Уладзіслаў Паўлюкоўскі*

## Як да дурня

Едзе Янка у вагоне,
У куточку там сядзіць,
На паноў тых і на паняў
Усё дзівуецца, глядзіць.
Закурыў сабе ён люльку —
Дымам пыкае, плюе,
А паны ўсё круцяць носам,
Чхаюць так, што страх бярэ.
І на Янку пазіраюць,
Як на дзікага звяра.
Вось адзін пан і пытае
Лапцявоза-мужыка:
— Ці бываў ты дзе на свеце,
Як гавораць між людзей?..
— Чаму не, — той Янка кажа, —
Пабывалася, ой-ей!
Быў у Горадне, у Вільні,
У Пазнані пабываў,
У Нясвіжы, і ў Варшаву
Нават лёс мяне ганяў…
— А скажы па колькі дурняў
Там на рынку прадаюць?..
— Гэта, пане, як да дурня,
Дзе якога пападуць:

Дурань-пан — заплацяць болей,
Бо на выстаўках дзяржаць,
Мужыка ж, як я, у лапцях,
Дык зусім не хочуць браць.

*1928*

## Жонка мужа пахавала

Жонка мужа пахавала.
Плача, енчыць: «Ой, прапала!»
Рукі ломіць і галосіць,
Смерці ў Бога сабе просіць.
Ні ахвоты да той ежы,
Ні увагі да адзежы…
Плача жонка, нават млее,
З кожным днём усё худзее.
Ў хаце спаць адна баіцца,
Бо нябожчык ёй мраіцца…
І, як ночанька настане,
Жонкі ў хаце ані звання.
Нешта з тыдзень жонка ныла,
Да суседа ўсё хадзіла…
Потым стаў сусед прыходзіць,
Страхі з хаты ёй выводзіць.
Сорак дзён як праляцела,
Жонка жыць ужо хацела,
Бо нябожчыка ні следу…
«Дзякуй» любаму суседу!

*1928*

## Ні добра, ні дрэнна
*(З Руданьскага)*

— А дзень добры!..
— Добры дзень.
— Што ты так змяніўся?



— Не дзівіся, сваце мой…
Я ўжо ажаніўся.
— Слава Богу, мой браток!
— Не, не слава Богу:
Жонка брыдкая, аж страх,
І крывель на ногу.
— Гэта дрэнна, мой браток!
— Вось не дрэнна, сваце,
Бо за ёю ўзяў пасаг,
Страшнае багацце.
Гаспадарку я падняў
І ўсяго меў многа…
— Слава Богу, мой браток…
— Не, не слава Богу. —
Гаспадарка ў прах пашла,
Ўсё гарэлка з’ела,
Ў хаце здарыўся пажар
І да тла згарэла.
— Гэта дрэнна…
— Вось і не!
Хата як гарэла,
Дык і жонка у агні,
Сваце, акалела.

*1928*

## Кахала Міхала

Сялянка кахала
З фальварку Міхала,
Пяяла, скакала…
І нос задзірала.
У тога ж Міхала
Гектараў нямала,
І сыраў, і сала…
І нос задзірала.
Сялянка ў Міхала

Не раз балявала,
Было й… начавала…
І нос задзірала.
Што толечкі знала
У крамах купляла,
Сябе прыбірала…
І нос задзірала.
Нічога не знала —
Ўсё твар малявала,
І грыўкі стаўляла,
І нос задзірала.
Надзею ўсю клала
На пана Міхала,
Пяяла, скакала…
І нос задзірала…
Пара пралятала,
Другая змяняла,
Сялянка злавала…
І нос апускала.
Ужо не пяяла,
Усё праклінала
І нават Міхала…
Бо зыбку шукала.

*1928*

### Тыдзень гультая

У нядзелю не працуе,
Шчыра-шчыранька святкуе,
Панядзелкам спачывае,
Ды нядзелю ўспамінае.
У аўторак думаць трэба,
Што рабіць, у чым патрэба.
Серадою разважае,
Сабе працу выбірае.
У чацвер збірае сілы —



Каб не лопнулі дзе жылы.
Ловіць пятніцай ахвоту —
Заўтра пойдзе на работу.
У суботу ж падлічае,
Што рабіў дзе, ды што мае.

*1929*

## Марыя Ласько — аўтарка «Заранкі»



*Марыя Ласько з сястрой*

Часопіс «Заранка» выдаваўся на беларускай мове (кірыліцай) у 1927–1931 гадах у Вільні. Яе рэдактарам і выдаўцом была знакамітая пісьменніца, лексікограф, перакладчыца, асветніца і грамадскі дзеяч Зоська Верас (1892–1991).

У часопісе друкаваліся творы беларускіх пісьменнікаў, казкі, запісаныя і дасланыя чытачамі, вершы дзяцей, пераклады, пастаноўкі для дзіцячых тэатраў, показкі і розныя загадкі ды круцігалоўкі. Ён аздабляўся малюнкамі, а вокладка штораз выходзіла з новай гравюраю, якія выконвалі заходнебеларускія мастакі.

Аднойчы ў рубрыцы «Наша пошта» часопіса «Заранка» быў надрукаваны адказ рэдакцыі на ліст дасланы з Косава. А даслала гэты ліст на беларускай мове школьніца Марыя (Маня) Ласько. У лісце дзяўчына напісала і сваю казачку «Хітры цыган». Рубрыку «Наша пошта» вяла асабіста Зоська Верас. Яна і паведаміла юнай аўтарцы з Косава, што «вельмі нас цешыць, што ты так ахвотна бярэшся пісаць у роднай мове, паміма таго, што вучышся ў польскай школе. Казачку тваю змяшчаем. Прысылай больш».

У №5-6 за 1927 год была надрукавана і казачка Марыі Ласько «Хітры цыган». Яна гучыць так. Хадзіў сабе па свеце адзін цыган.

Раз ён быў вельмі галодны, бо нідзе не мог сабе зарабіць і ўкрасці нічога нідзе не ўдалося. Так ён хадзіў, хадзіў і зайшоў да аднаго пана. А там якраз абедалі. Стаў ён расказваць тое ды сёе, і нарэшце кажа: «Бачыў я сягоння ў лесе нейкага звярка: маленькі ён, кругленькі, гарбаценькі ды вельмі калючы, качаецца сабе па лесе. Не ведаю толькі, як ён называецца…»

— Jeż! — кажа коратка пан.

А цыган на гэта: «Дзякую, паночку, даўно я ўжо нічога не еў і хаджу галодны». Схапіў ложку ды давай есці…

Вось такую казачку даслала Марыя Ласько з Косава. І яна была апублікавана ў «Заранцы».

У № 7 за 1927 год у часопісе «Заранка» быў змешчаны «Ліст Маладога Дзятка да беларускіх дзетак». У ім аўтар пісаў, што «сэрца маё цешыцца, што сярод вашае грамадкі з'явіліся гэткія, што адразу пачалі яе не толькі чытаць, але і пісаць у «Заранку», як напрыклад, Марыся Ласько…». Гэтым Маладым Дзядком быў не хто іншы, як паэт Сяргей Новік-Пяюн (1906–1994). У 1927–1931 гадах ён з'яўляўся супрацоўнікам «Заранкі».

Дасылала Марыя Ласько ў «Заранку» і загадкі. Праўда, не ўсе часопіс друкаваў, таму што дзяўчынка з Косава забывалася напісаць на іх адгадкі. Але некалькі загадак ўсё ж былі апублікаваны ў першым нумары за 1929 год. Праўда, адгадак на іх я ў часопісе так і не знайшоў. Вось дзве загадкі Марыі Ласько: 1. У адным месце крыжоў дзвесце. 2. Адным паяском тысяча салдатаў звязана.

У № 8-9 за 1925 год часопіс «Заранка» апублікаваў казку аўтаркі з Косава «Як мужык ашукаў чорта». У ёй добра паказаны адносіны селяніна да нячысціка. Ён не ваюе з чортам доўга і ў адкрытую, напрыклад, як Усявышні, а проста карае жыхара балоцістых мясцін— ліе яму ў вочы з патэльні гарачым салам. І не баіцца мужык нейкай там адплаты з боку свайго суперніка. Бо прызвычаіўся чалавек да цяжкасцей, да пастаянных супрацьстаянняў і не надае ўсяму гэтаму надзвычай важнага значэння. Вось тэкст гэтай казачкі.

Паехаў сабе адзін мужык у балота па сена. Захапіла там яго ноч, дык пачаў ён сабе вячэру варыць. Накрышыў сала ды скварыць. Аж прылятае да яго чорт ды пытаецца: «Што ты робіш, чалавеча?». Той кажа: «Сквару сала на вячэру». Чорт ізноў пытаецца: «То мо я магу



разам з табою скварыць». «Сквар сабе» — кажа мужык. Чорт пайшоў, налавіў жабаў, пакідаў на патэльню ды кажа: «Сквар, сквар, але ж не разам будзем есці». Пасля пытаецца ў чалавека: 2А як ты называешся?». «Сам сабе называюся, — адказвае той, ды не чакаючы што чорт яму благое зробіць, ухапіў патэльню з гарачым салам, дык як ліне чорту ў вочы, а сам пабег і схаваўся. Чорт нарабіў крыку, пачаў склікаць чарцей. Тыя пазляталіся і пытаюцца: «Чаго крычыш? Хто табе вочы выпарыў?». «Сам сабе, — кажа, — выпарыў». «То ты, — кажуць чэрці, — сам сябе акалечыў, а нас клічаш, каб мы цябе ратавалі. Не будзь жа гэтакі неасцярожны». Пакінулі яго, а самі паляцелі, куды ім трэба было…



*Марыя Ласько ў сталым узросце*

Марыя Ласько жыла ў Косаве на вуліцы Ціхай. Такая вуліца ў Косаве існуе і сёння. Вучылася ў польскай школе. Але, як бачыце, пісала ў «Заранку» толькі па-беларуску. Як склаўся лёс Марыі Ласько і хто яна такая? — застаецца пакуль загадкай.

Дарэчы, у Косаве ў 1920–1930-я гады жыла і яшчэ адна дзяўчына з прозвішчам Ласько. Гэта была Алена Ласько. Да Другой сусветнай вайны яна пазнаёмілася з вядомым фатографам Юзафам Шыманчыкам і выйшла за яго замуж. Калі яны напярэдадні вайны пажаніліся, то пераехалі ў Слонім. Жылі ў самым цэнтры горада ў старым двухпавярховым доме на другім паверсе з балконам. У цэнтры горада Юзаф меў фотамайстэрню. Яго не чапалі ні партызаны, ні немцы — ніхто. Ён займаўся толькі фотасправай. Фатаграфаваў усіх, хто прыходзіў да яго ў майстэрню ці запрашаў сфатаграфаваць дома.

Аднойчы ў горадзе адбыўся мітынг. Выйшла на балкон паслухаць выступоўцаў і Алена Ласько. Але ж трэба было здарыцца бядзе. Балкон абваліўся. І цяжарная Алена загінула…

Магчыма, Алена Ласько была сваячкай Марыі Ласько. Пакуль разгадаць гэту загадку не ўдалося.

Марыя Ласько пісала і дасылала ў «Заранку» не толькі казкі і загадкі. Яна ўмела цікава апісваць сваё роднае мястэчка, дзе жыла, дзе вучылася. Спадзяюся, што пасля гэтай публікацыі, нехта адгукнецца, хто некалі ведаў Марыю Ласько. А можа яшчэ жывуць дзеці гэтай таленавітай дзяўчыны, ці ўнукі, якія больш раскажуць нам пра яе творчы талент і сувязі з беларускай прэсай былой Заходняй Беларусі. Вось невялікі артыкульчык Марыі Ласько «Апісанне Косава», напісаны ёй у 1928 годзе.

### *Апісанне Косава*

Места Косаў-Палескі стаіць зусім у даліне. На поўнач ад Косава ляжыць вёска Хадоркі, на ўсход яго акружае лес, на поўдні знаходзіцца вёска Бялавічы, на захадзе — маёнтак Марачоўшчына, дзе ёсць Косаўскае староства. У Косаве сярод рынку стаіць праваслаўная царква, процiў царквы — пошта, а кругом рынку — таргова будкі і высокія мураваныя дамы.

На ўсход ад царквы на канцы места стаіць каталіцкі касцёл. За касцёлам цячэ рэчка Муцьвіца, а напроціў — Косаўскае надлесніцтва, польская паўшэхная школа і шпіталь, а далей — каталіцкія могілкі.

За рэчкай Муцьвіцай ёсць два паравыя млыны, гміна і праваслаўныя могілкі. На вуліцы Марачоўскай знаходзіцца акружная ўправа Таварыства Беларускай Мовы. На права ад царквы пачынаецца вуліца Ціхая, дзе я жыву, кончыцца яна пры балоце над рэчкай Муцьвіцай.

*Марыя Ласько, 1928 г.*

## Паскрыптум

Рыхтуючы гэты матэрыял для кнігі, я распавёў пра Марыю Ласько свайму старэйшаму сябру, краязнаўцу і настаўніку з вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці Алесю Зайку. Алесь Фаміч паведаміў, што, сапраўды, у Косаве жыла Марыя Ласько. Яна пражыла доўгае жыццё. Ніколі не была замужам, працавала на будоўлі. Жыла разам з роднай сястрой у невялікай старой хаце. Былі яны мяшчане, заўсёды акуратныя і прывабныя. У свой час Марыя Ласько разам з сястрой скончылі 7 класаў польскай школы ў Косаве, таму былі адукаваныя жанчыны. Праўда, пасля «Заранкі» Марыя Ласько нідзе не друкавалася.



Жанчыны ўжо даўно памерлі і пахаваныя ў Косаве. Спадар Зайка таксама даслаў і некалькі фотаздымкаў з Марыяй Ласько. Адзін з іх публікуецца ў кнізе.

## Па старонках беластоцкай «Новай дарогі»

У перыяд акупацыі Беларусі нямецка-фашысцкімі захопнікамі з дазволу германскіх улад у Беластоку 29 сакавіка 1942 года на беларускай мове пачала выдавацца газета «Новая дарога», якая па сутнасці з'яўлялася органам Беларускага аб'яднання ў Беластоку. Праўда, гэта была не першая пасля прыходу нямецкіх войск газета ў Беластоку. Да «Новай дарогі» выйшлі з друку два нумары газеты «Беластоцкі голас», якія рэдагавалі Ільяшэвіч і Кандыба.

Сёння знайсці гэтыя два нумары «Беластоцкага голасу» цяжка. А вось «Новая дарога», хаця і не ўсе нумары, захоўваецца ў абласных архівах Беларусі і ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Давайце пагартаем «Новую дарогу» і паглядзім пра што яна паведамляла больш за 70 гадоў таму.

У 1942–1944 гадах, як пісаў гісторык Юры Туронак, «рухавіком інтэлектуальнага жыцця ў Беластоку быў у той час вядомы паэт і гісторык, віляньчук Хведар Ільяшэвіч — старшыня Беларускага аб'яднання і рэдактар «Новай дарогі» (Юры Туронак. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 344). Сапраўды, Хведар Ільяшэвіч (1910–1948), жывучы ў Беластоку, працаваў і пісаў шмат. Дзіву даюся, дзе ён толькі знаходзіў час і сілы — рэдагаваць газету, пісаць вершы і вялікія артыкулы, інфармацыі пад рознымі псеўданімамі, наладжваць беларускія справы, арганізоўваць сустрэчы з беларусамі, мерапрыемствы, вырашаць школьныя праблемы. Ды яшчэ рабіць усё



*Хведар Ільяшэвіч са студэнтамі віленскай беларускай гімназіі, 1935 г.*

пад наглядам германскай улады, быць асцярожным і разважлівым, бо за ім пільна сачылі не толькі немцы, а і энкавэдысты. «Ільяшэвіч быў добрым, інтэлігентным, але не валявым чалавекам, — успамінаў Масей Сяднёў. — На працу ён стараўся прыходзіць у час і рэгулярна, хоць гэта рэгулярнасць часамі парушалася, і тады пачыналася нараканне на старшыню, на непарадкі. Ішлі да ягонага заступніка, Тамашчыка. Але той не заўсёды хацеў пастанаўляць, і справа кульгала. Зрэшты, ніякая ўстанова не можа пахваліцца поўнай зладжанасцю. Ільяшэвіч быў абцяжараны шматлікімі абавязкамі — газетай, гаспадарчымі справамі, раздутым камітэцкім персаналам, рознымі просьбамі, сямейнымі справамі. У яго не было вольнага часу, і ён усё рабіў паспешліва. Наўзверх яму трэба было пісаць штотыднёва Stimmungbericht (апісанне настрою сярод насельніцтва ў дачыненні да немцаў) — як ён тады лаяўся! Ішоў па дапамогу да Тамашчыка:



страшэнна не любіў таго «бэрыхта», але мусіў яго рабіць» (Масей Сяднёў. Масеева кніга. Мінск, 1994. С. 284).

30 траўня 1943 года «Новая дарога» надрукавала вялікі артыкул пра дзейнасць Беларускага аб'яднання ў Беластоку. Пад артыкулам не стаіць прозвішча аўтара, але яго пісаў, відаць, сам рэдактар Хведар Ільяшэвіч. У ім распавядаецца пра дзейнасць аб'яднання, якое раней называлася Беларускі нацыянальны камітэт. Камітэт з'яўляўся беларускай арганізацыяй, якая вяла і арганізоўвала культурна-нацыянальную і палітычна-ўсведамляльную працу сярод беларусаў Беласточчыны. Аб'яднанне гуртавала ўсе жывыя беларускія сілы на шлях нацыянальнай працы і актыўнага ўдзелу ў змаганні за новы парадак. Так пісалася ў тым артыкуле.

Беларускае аб'яднанне ў Беластоку развярнула шырокую дзейнасць. Найперш была праведзена рэгістрацыя беларусаў у Беластоку і ў многіх мясцовасцях на правінцыі. Газета пісала: «Цікава адзначыць, што ў Беластоку, у якім паводле статыстычны дадзеных пана беластоцкага ваяводы 1936 года, не было ніводнага беларуса. Аказалася аж 17 тысяч беларускага жыхарства».

Дзякуючы аб'яднанню, была наладжана праца друкарні, гарадскога тэатра, адкрыліся крамы, з'явіўся хор і аркестр, беларускі балет і г. д.

Восенню 1942 года перасялілі з Белавежскай пушчы да 8 тысяч беларусаў. Адбываліся сходы, сустрэчы, канцэрты. Як пісала «Новая дарога» 30 траўня 1943 года, за 26 дзён хор і балет наведалі 26 пунктаў і далі звыш 80 канцэртаў на Беласточчыне.

Вельмі шмат пісала газета пра беларускага спевака Міхася Забэйду- Суміцкага (1900–1981). Яна адсочвала кожныя выступленне і сустрэчы спевака, публікавала расклад яго гастроляў на Бацькаўшчыне. Напрыклад, у 1943 годзе Міхась Забэйда-Суміцкі з канцэртамі выступаў: 4 траўня — у Гародні і Ваўкавыску, 11 траўня — у Гайнаўцы, 12 чэрвеня — у Белавежы, 16 чэрвеня — у Пружанах, 17 чэрвеня — у Бельску, 18 чэрвеня — у Беластоку. У Беластоку спявак выступаў разам з хорам Беларускага аб'яднання. Пасля выступлення ў Ваўкавыску, Хведар Ільяшэвіч пад псеўданімам М. Дальны апублікаваў у «Новай дарозе» пра яго вялікі артыкул «На ўлонні Бацькаўшчыны». Ёсць у ім і такія радкі: «Гэта было спатканне, якое ён (маецца на


НОВАЯ ДАРОГА

ўвазе Міхась Забэйда-Суміцкі. — *С. Ч.*) доўга, доўга чакаў. З роднай яго вёскі Шыйнякі (альбо гэта паліграфічная памылка, альбо пераблытаў аўтар, бо родная вёска спевака — гэта вёска Шэйпічы цяперашняга Пружанскага раёна. — *С. Ч.*), дзе ён радзіўся, рос, прыехала яго старэнькая маці. Сялянскай фурманкай яна ехала да сына па якім тужыла і выглядала. Яна яшчэ моцная і здаровая, і, не гледзячы на далёкую дарогу, бадзёра вядзе гутарку. Ёй ужо 68 гадоў, але яна яшчэ будзе доўга жыць, бо бацькі яе жылі доўга. Міхась Забэйда-Суміцкі пяяў сваёй маці з якой прыехала і шмат землякоў».

Наогул, «Новая дарога» шмат увагі аддавала літаратуры, культуры, гісторыі. Хаця на першых старонках заўсёды друкаваліся ваенныя зводкі, артыкулы на міжнародныя тэмы, агляды сацыяльна-эканамічнай сітуацыі на Беларусі, звароты, матэрыялы антысеміцкага, антырускага і антыпольскага характару. Друкавала газета і розныя абвесткі, хроніку культурнага жыцця і сельскагаспадарчыя парады. Пад рубрыкай «З беларускага жыцця» змяшчаліся розныя звесткі з Беластока, Слоніма, Бабруйска, Ваўкавыска, Магілёва, Баранавічаў, Ганцавічаў і іншых гарадоў.

30 траўня 1943 года «Новая дарога» апублікавала інфармацыю пра тое, што кіраўнік беларускага хору пры Беларускім аб’яднанні ў Беластоку «Д. Арлоў пачаў музычную апрацоўку цэлага раду вершаў Ларысы Геніюш». Паэтка часта выступала з вершамі на старонках газеты. Друкаваўся і верш, прысвечаны Х. І-ЧУ (Хведару Ільяшэвічу). Ён пачынаўся радкамі:



Доўга, доўга ў начы непраспанай,
Пакуль выйшла з-за хмараў зара,
Твой прыгожы букет туліпанаў
На руках у мяне дагараў…

Гэта Ларыса Геніюш з Прагі першая паведаміла, што не стала прэзідэнта БНР Васіля Захаркі. Яе зацемка пра смерць Захаркі была апублікавала 1 красавіка 1943 года. А потым сябры напісалі і надрукавалі некралог пра яго.

Пісала «Новая дарога» і пра літаратурную дзейнасць другой вялікай паэткі Наталлі Арсенневай. 15 жніўня 1943 года газета паведамляла пра літаратурны вечар Наталлі Арсенневай у Слоніме, дзе яна з Беларускім тэатрам з Мінска выступала 18 ліпеня 1943 года.

Наогул, беларускіх паэтаў газета ў Беластоку не крыўдзіла. У кожным нумары друкаваліся іх творы. Выходзіла, хоць і не часта, паэтычная старонка «На літаратурнай антэне», дзе друкаваліся вершы Х. Ільяшэвіча, Л. Геніюш, А.Арсенневай, А. Салаўя, М. Сяднёва, М. Васілька, напісаныя да вайны, У. Клішэвіча, Т. Лебяды, Я. Богдана, М. Пушчанскага і іншых паэтаў. Пра Янку Богдана прыгадвае Масей Сяднёў: «Меў я ў камітэце і нейкую дружбу — прыйшоўся мне па душы малады таленавіты паэт Янка Богдан. Ён увесь час тырчаў у бухгалтэрыі — там працавала ягоная прыгожая Ірка. Было люба глядзець на іхнюю замілаванасць, на іхняе, як у добрыя часы, рамантычнае каханне». (Масей Сяднёў. Масеева кніга. Мінск, 1994. С. 287.).

На старонках газеты адшукаў некалькі лірычных вершаў і Тодара Лебяды (1914–1970), раней невядомых. Некаторыя з іх былі напісаны ў Дзвінску. Надрукавала «Новая дарога» і баёвую песню беларускай моладзі «Зважай» Тодара Лебяды:

Гартуйма калоны, арлы маладыя,
Шугайма далёка ў дазор!
Нас моладасць наша на крыллях уздыме
Да шчасця, да сонца, да зор.

*Прыпеў:*

Шчыльней рады, мацней рады!
Зважай!

Дарогу моцным, маладым!
Мы пройдзем па крыжах.

Мы — моладзь, мы зроджаны ў буры, пажары,
Нам ясны дарогі-пуці.
І тое, што ўчора здавалася марай —
Мы творым сягоння ў жыцці.

*Прыпеў.*

Няхай нас не страшаць чырвоныя каты,
Бо мы на крывавы тэрор
Пастанем сцяною хлапцы і дзяўчаты,
Каб даць ім належны адпор.

*Прыпеў.*

У кастрычніку 1943 года Хведар Ільяшэвіч уладкаваў на працу карэктарам у «Новую дарогу» паэта з Магілёўшчыны Масея Сяднёва (1913–2001). 31 кастрычніка 1943 года газета публікуе два вершы Сяднёва «Да песень» і «Сталін на трыбуне», якія ім былі напісаныя ў мінскай турме ў 1937 годзе. Давайце прачытаем верш «Сталін на трыбуне»:

Народ крычыць: Ура! Ура! —
Задавальненне ў гомне народным.
Вялікага правадыра
Народ гукае «бацькам родным!».
Ён у вачох — нібы кумір,
Ад дворніка і да паэта.
На ўсё з трыбуны «правадыр»
Глядзіць, як уладар сусвета.
Глядзіць, як збаўца ўсіх нягод,
І думае, што пакарыў фартуну.
Таго ж не знае, што народ
Скрышыў бы ўшчэнт яго, трыбуну!

У гэтым нумары быў апублікаваны і артыкул пра Масея Сяднёва «Пад сонцам сталінскай канстытуцыі. Спатканне з беларускім паэтам Масеем Сяднёвым». Хто яго пісаў — невядома. Магчыма — Хведар



Ільяшэвіч. Заканчваўся гэты артыкул словамі: «Масей Сяднёў — гэта жывы дакумент бальшавіцкага здзеку і гвалту над беларускім народам». Побач з артыкулам пра паэта, апублікаваны і пачатак серыі артыкулаў пра лёсы беларускіх паэтаў «Ахвяры бальшавізму» Масея Сяднёва. Дарэчы, з гэтага часу паэт з Магілёўшчыны пастаянна друкуецца на старонках «Новай дарогі», друкуе і свае ранейшыя, і новыя вершы.

Вялікую папулярнасць набыла «Новая дарога», калі на яе старонках з'явіліся сатырычныя творы Шэршаня. Але хто хаваўся пад псеўданімам Шэршань — калектыў рэдакцыі не ведаў. Нават Масей Сяднёў думаў, што гэта быў Міхась Васілёк, вершы якога сяды-тады траплялі на старонкі газеты. А неяк аднойчы ён нават наведаў Беласток і сустракаўся з Хведарам Ільяшэвічам, які яго хацеў далучыць да працы ў газеце. Але Васілёк адмовіўся, хаця шчыра вітаў беларускі рух на Беласточчыне.

Сёння мы ўжо ведаем, што пад псеўданімам Шэршань хаваўся ні хто іншы, як Рамуальд Зямкевіч (1881–1944) з Варшавы. «Шэршань ускалыхнуў чытача, ажывіў газету. Праз сатыру Шэршаня газета набыла, я сказаў бы, папулярнасць», — прыгадваў Масей Сяднёў у сваім «Беластоцкім сшытку». Шэршань на старонках «Новай газеты» пісаў не толькі сатырычныя творы, але друкаваў і беларускія народныя казкі, якія збіраў і апрацоўваў.

Актыўным супрацоўнікам «Новай дарогі» быў і Кастусь Езавітаў (1893–1946) з Рыгі. Дзякуючы яму, спецыяльна для газеты былі напісаны і апублікаваны вялікія артыкулы пра Францішка Аляхновіча, Вацлава Ластоўскага, Францішка Багушэвіча, пра паэму «Тарас на Парнасе», пра 25-я ўгодкі Усебеларускага Кангрэсу і дзесяткі іншых матэрыялаў. У Беластоку планавалася адкрыць этнаграфічны музей. Таму Кастусь Езавітаў праз «Новую дарогу» прапагандаваў гэтую ідэю, пісаў пра збор прадметаў народнага мастацтва, а ў артыкуле «Скарбы ў руках беларускіх жанчын» (22 жніўня 1943 года) пісаў пра тое, што ў Беластоку будзе праводзіцца даследаванне фальклору.

У кастрычніку 1943 года «Новая дарога» павіншавала Кастуся Езавітава з 50-годдзем з дня нараджэння і даслала яму «найшчырыя пажаданні плоднай працы».

Пасля гэтага юбілею, генерал, педагог, літаратар і гісторык Езавітаў пражыве яшчэ тры гады. Яго арыштуюць супрацоўнiку СМЕРша ў красавіку 1945 года і прывязуць у Мінск. Паводле афіцыйнай версіі, ён памёр ад сухотаў і дыстрафіі 23 траўня 1946 года. А паводле іншых звестак — Кастуся Езавітава расстралялі.

Вельмі любілі беларусы чытаць на старонках «Новай дарогі» матэрыялы Юры (Георгія) Пеха (1897–1969), якія былі прысвечаныя гарадам і мястэчкам Беласточчыны, старым беларускім манетам і старадаўнім курганам. Пра манеты Пех пісаў, што яны, як і «знакі не з'яўляюцца літоўскага паходжання, а былі запазычаны ў крывічоў, абшар засялення якіх у створаным Вялікім княстве Літоўскім-Беларускім складаў дзве трэці ўсяе дзяржавы».

Шмат увагі ўдзялялася на старонках «Новай дарогі» беларускаму школьніцтву. Шырока асвятляліся, напрыклад, розныя настаўніцкія семінары, курсы, сустрэчы. 19 верасня 1943 года газета на першай старонцы паведамляла пра тое, што ў Беластоку праходзяць настаўніцкія курсы, на якія прыехалі 120 беларускіх педагогаў. На курсах, апрача беларускай і нямецкай моў, беларускай літаратуры і гісторыі, апрацоўваліся таксама методыка і праграмы навучання. Але не ўсе беларускія дзеткі маглі вучыцца падчас вайны, многія галадалі, хварэлі, былі сіротамі і не мелі жылля. Пра гэта таксама паведамляла газета.

Шырока асвятляліся на старонках беластоцкага выдання і рэлігійнае жыццё, і гісторыя беларускіх храмаў, і лёсы беларускіх святароў. 20 чэрвеня 1943 года нехта Б. Сыраб надрукаваў каштоўны матэрыял пад загалоўкам «Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр», у якім распавёў пра гісторыю гэтага манастыра і лёсы яго каштоўнасцей. Аўтар пра скарбы, якія там знаходзіліся, пісаў: «Многія скарбы манастыра, якія зніклі і былі вывезеныя ў сярэдзіне XIX стагоддзя, узбагачаюць чужыя бібліятэкі. І так 118 лістоў «Супрасльскага рукапісу» упрыгожваюць Копітара ў Любляне, 16 лістоў знаходзяцца ў Петраградскай публічнай бібліятэцы, а 151 аркуш — у бібліятэцы Замойскіх у Варшаве. Толькі частка «Супрасльскага Евангелля» (больш 10 лістоў) адкрытая і вывучаная Іванам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім, знаходзілася ў пачатку трэцяга дзесяцігоддзя нашага веку ў Вільні, становячы прыватную ўласнасць аматара старасветчыны, гр. Заштаўта».



Пісала газета і пра беларускую мову ў праваслаўных цэрквах Беласточчыны. Вельмі добра вёў богаслужэнне і чытаў пропаведзі на беларускай мове а. Сцяпан у царкве Марыі-Магдалены.

Часам са сваімі роздумамі і заклікамі на старонках «Новай дарогі» выступаў святар Анатоль Кунцэвіч (1912-?), які быў родам з Ялоўкі. Ён заклікаў праваслаўных святароў Беласточчыны гарнуцца да беларускага народа і «гаварыць да яго ў сваёй роднай беларускай мове. Тады нас паслухае сын Крывіцкай зямлі і скажа, што гэта ёсць праўдзівы святар, які годна выконвае свой вялікі абавязак перад беларускім народам».

Цікавілася газета і рознымі беларускамоўнымі выданнямі: новымі кнігамі, часопісамі, календарамі, паштоўкамі, якія выходзілі падчас вайны на Беларусі і па-за яе межамі. Беларускі камітэт самапомачы ў Берліне ў 1943 годзе выпусціў серыю беларускіх паштовак. Пра гэта з радасцю паведаміла «Новая дарога». У серыю уваходзіла 15 паштовак: Новы замак над Нёмнам, краявід у Наваградчыне (курган у кветках і поле), краявід з Наваградчыны (палянка сярод гаёчкаў), Вілля ў Каралінках пад Вільняй (падмывае стромкія Каралінаўскія лясныя ўзгор'і), яр у Цімашкавічах (надзвычайна прыгожыя і характэрныя выпетрыванні пародаў), гасцінец каля Біняконяў (стары шлях, абсаджаны вялікімі старымі дрэвамі), дарога ў Вілянах пад Вільняй (абсаджаная бярэзінамі), замкавы канал у Нясвіжы, Бярэзіна пад Віллёй у Крыжанах (надзвычай прыгожае спалучанне бярэзіны з далёкай перспектывай), Зялёнае возера пад Віленскімі ўзгор'ямі, двор у Наве ля Баранавіч (характэрнае «Дваранскае гняздо» на Беларусі), Беразвіч — возера глыбокае, возера Дрысвяты каля Браслаўя, царква ў Глыбокім на беразе возера, бераг Вілейкі пад Вільняй. Усе гэтыя краявіды ўдала сфатаграфаваў вядомы на той час ў Вільні фатографмастак Ян Булгак. А першакласныя рэпрадукцыі з іх былі зроблены фірмай мастацкіх паліграфічных ціскаў В. Нэўбэрта ў Празе. Усе гэтыя паштоўкі тады маглі жадаючыя выпісаць ці набыць у Беларускім аб'яднанні ў Беластоку.

«Новая дарога» за гады свайго існавання неаднаразова пісала пра Міндоўга і Льва Сапегу, Каруся Каганца і протаіерэя Мікалая Галенду, Юліяна Саковіча і Юльяна Сяргіевіча, Уладзіміра Жылку і Язэпа Пушчу, Тодара Кляшторнага і Аляксандра Цвікевіча, Міхася

Зарэцкага і Сымона Баранавых і многіх іншых вялікіх людзей нашай Бацькаўшчыны.

Вельмі часта на старонках беластоцкай газеты публікаваліся некралогі. Ішла вайна і гінула шмат вядомых беларусаў. Асабліва калектыў рэдакцыі быў устрывожаны і ўсхваляваны, калі прыйшла вестка з Мінска, што забілі рэдактара «Беларускай Газэты» Уладыслава Казлоўскага. Газета апублікавала некралог: «Дня, 13лістапада 1943 года ў Менску, пры выкананні сваіх нацыянальных абавязкаў, трагічна загінуў ад рукі нікчэмных бальшавіцкіх бандытаў рэдактар «Беларускай Газэты» Уладыслаў Казлоўскі, народжаны ў 1896 годзе ў вёсцы Залессе Сакольскага павету. Паховіны адбыліся дня 22 лістапада на Кальварыйскіх могілках у Менску. Падаючы гэтыя сумныя факты да ведама грамадзянства, рэдакцыя «Новай дарогі» выказвае сваё глыбокае спачуццё асірочанай сям’і нябожчыка. Чытачы й рэдакцыя «Новай дарогі».

Побач з некралогам быў апублікаваны вялікі артыкул «Не запалохаюць». Яго пісаў альбо Хведар Ільяшэвіч, альбо Уладзімір Тамашчык (1900–1970), які працаваў намеснікам рэдактара газеты. Прыцягнулі ўвагу ў гэтым матэрыяле вельмі цікавыя факты: «Мы перажылі многа фактаў, што сведчаць аб гэтай нянавісці да нас з боку маскоўскіх бандытаў. Мэтай іх ёсць знішчэнне не толькі нашага нацыянальнага актыву, але беларускага народу наогул. Памінаючы ўжо індывідуальныя забойствы найлепшых сыноў нашага народу, прыгадаем сабе хоць бы нядаўныя акты тэрору скіраваня супраць беларускага народу. Калі 2.5.1943 г. маскоўскія паветраныя бандыты закідалі бомбамі Менск, дык гэта быў акт помсты супраць беларускага народу. Бандыты добра ведалі, куды й на каго кідалі свае бомбы. Калі гэтыя адкіды чалавецтва 22.6.1943 г. узарвалі наш Менскі тэатр, дык гэта быў таксама акт помсты супраць усяго народу, супраць яго культуры, бо яны не маглі бачыць ейнага буйнага развіцця. Калі ў першым дню заняцця Смаленску крывавае НКВД павесіла на слупах у горадзе 180 жанчын і застрэліла сотні мужчын (а гэта ж былі тыя нямногія, што хацелі застацца на месцы), дык гэта акт таго самага значэння. Множыць гэтыя прыклады няма патрэбы. Мы іх бачым кожны дзень…»…



Гартаючы старыя падшыўкі «Новай дарогі», на яе старонках можна знайсці яшчэ сотні цікавых і невядомых раней матэрыялаў і фактаў. Але многія гэтыя факты, вядома ж, трэба правяраць і ўдакладняць. Усяго выйшла з друку больш за 100 яе нумароў.

## Паэт чыстае Красы на паштоўках



Першыя беларускія паштоўкі ў гонар нашых літаратараў з’явіліся ў 1906 годзе. Іх выпусціла беларуская выдавецкая суполка ў Санкт-Пецярбургу «Загляне сонца і ў наша ваконца». На паштоўках былі партрэты Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і Янкі Лучыны.

Класік беларускай літаратуры, пясняр Чыстае Красы Максім Багдановіч (1891–1917) на паштоўках з’явіўся пасля Другой сусветнай вайны. У 1958, 1963 і ў 1973 гадах у беларускіх дзяржаўных выдавецтвах выдаваліся падборкі паштовак з партрэтамі многіх беларускіх пісьменнікаў. Сярод іх быў і партрэт Максіма Багдановіча. А ў 1978 годзе маскоўскае выдавецтва «Советский художник» партрэт Максіма Багдановіча беларускага мастака Монаса Мананзона (1917–1980) рэпрадуцыравала на паштоўцы.

Арыгінальная паштоўка, прысвечаная Максіму Багдановічу з’явілася накладам 10000 асобнікаў у 1981 годзе ў мінскім выдавецтве «Беларусь». Над паштоўкай працавалі вядомыя майстры — графік Пятро Драчоў (1937–2005) і фатограф Валянцін Ждановіч (1937–1992), якія па архіўных матэрыялах даследчыцы творчасці Максіма Багдановіча Ніны Ватацы (1908–1997) аднавілі партрэт паэта і перанеслі яго на паштоўку. Дарэчы, Ніна Барысаўна Ватацы ўсё жыццё займалася Багдановічазнаўствам. Яна адшукала і апублікавала невядомыя тэксты, аўтографы і фотаздымкі Максіма Багдановіча, склала літаратурны альбом пра яго жыццё і творчасць (сумесна з Алегам Лойкам, 1968)



і зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў «Шлях паэта» (1975), бібліяграфічны паказальнік твораў, аўтографаў і крытычнай літаратуры «Максім Багдановіч» (1977). Ніна Ватацы адсачыла гісторыю партрэта Максіма Багдановіча. На паштоўцы той партрэт, які ўпершыню з'явіўся ў другім выданні зборніка «Вянок» (Вільня, 1927), уяўляе сабой фрагмент з групавога здымка супрацоўнікаў яраслаўскай газеты «Голос», дзе працаваў паэт, зроблены ў 1915 годзе.

Некалькі паштовак з выявамі класіка беларускай літаратуры пабачылі свет да 100-годдзя Максіма Багдановіча. Былое Міністэрства сувязі СССР у 1991 годзе ў Маскве выпусціла 100-тысячным накладам паштоўку на якой адлюстраваны партрэт Максіма Багдановіча, чарніліца з пяром, кнігі ў левым куточку паштоўкі і тэкст зверху: «100 гадоў з дня нараджэння», а ўнізе пад партрэтам напісана: «Беларускі паэт Максім Багдановіч 1891–1917». Аўтарам паштоўкі з'яўляецца мастачка Яўгенія Галубятнікава.

Арыгінальная паштоўка да 100-годдзя Максіма Багдановіча выйшла з друку ў Нью-Ёрку. Паштоўку выпусціў Беларускі Інстытут навукі і мастацтва, аўтарам яе з'яўляецца мастачка Ірэна Рагалевіч-Дудко. Паштоўка выйшла на беларускай і англійскай мове. Вершаваня радкі з беларускай мовы на англійскую пераклала вядомая англійская перакладчыца, журналістка і гісторык Вера Рыч (1936–2009). На паштоўцы намаляваны партрэт Максіма Багдановіча, Пагоня і напісаны радкі з верша «Пагоня» паэта на беларускай і англійскай мовах : «Біце ў сэрцы іх — біце мячамі! Не давайце чужынцамі быць!» (Strike them, strike to the heart with swords brandished, Let them not into foreigners turn!).

Адзначыла 100-годдзе класіка і мінскае выдавецтва «Беларусь». Яно ў 1991 годзе таксама выпусціла паштоўку, прысвечаную Максіму Багдановічу ў афармленні Міхала Баразны. На адным баку паштоўкі — малады і прыгожы Максім, а на адваротным баку надрукаваны яго верш «Пагоня».



Шмат зрабіла для ўшанавання памяці Максіма Багдановіча гарадзенская паэтка і публіцыстка Данута Бічэль. Дзякуючы яе руплівасці ў 1986 годзе ў Гародні быў адкрыты музей паэта, дзе спадарыня Данута да 1998 года яго ўзначальвала. Гэта дзякуючы Дануце Бічэль у гарадзенскім музеі Максіма Багдановіча адбываліся шматлікія вечары, сустрэчы, прэзентацыі. Музей выдаваў буклеты, кнігі, запрашэнні і, вядома ж, паштоўкі. У 1996 годзе у Гарадзенскай друкарні накладам 500 асобнікаў была выпушчана паштоўка, прысвечаная маці Максіма Багдановіча Марыі Багдановіч (1869–1896). На адным баку паштоўкі змешчаны партрэт маладой і прыгожай Марыі Багдановіч і радкі з верша Максіма: «І ціха думаў я: быць можа, любоў, палёгшы у трунах, перамагла і смерці жах!». А на адваротным баку паштоўкі надрукаваны верш паэта «Раманс»:

Не знайсці мне спакою
Ні цёмнай ночай, ні днём,
Бо любоў мяне мучыць і паліць
Пякельным агнём.
Але ведама: каб апаліўшыся,
Боль заглушыць, —
Трэба толькі да раны
Халоднай зямлі прылажыць.
Пэўна прыйдзецца мне
Пахавацца ў сырую зямлю,
Каб суцішыць мучэнні
І тую забыць, што люблю.

У 1997 годзе гарадзенскі музей Максіма Багдановіча выдае яшчэ адну паштоўку, на гэты раз з партрэтам Максіма Багдановіча. Наклад паштоўкі быў 400 асобнікаў.

Грамадска-культурны дзеяч, навуковец, калекцыянер Анатоль Белы (1939–2011) заснаваў ў 1990 годзе і адкрыў у 1999 годзе на ўласнай сядзібе ў горадзе Старыя Дарогі прыватны мастацкі музей. У музеі да сённяшніх дзён экспануецца каля 1700 твораў жывапісу, графікі, скульптуры, медальернага і дэкаратыўна-прыкладного мастацтва Беларусі. У экспазіцыі прадстаўлены партрэты князёў,

палкаводцаў, культурна-асветніцкіх дзеячаў Беларусі, батальныя карціны, краявіды, помнікі дойлідства, гарады і замкі Беларусі, бюсты і медалі, зробленыя ў гонар знакамітых дзеячаў Бацькаўшчыны. Ёсць там і бюсты Максіма Багдановіча і яго бацькі Адама Багдановіча. Анатоль Белы пры жыцці выдаў серыю паштовак на якіх адлюстраваны вялікія беларусы XX стагоддзя. Адна з паштовак, прысвечана Адаму і Максіму Багдановічам: на адным баку — бюсты Максіма і Адама Багдановічаў, на адваротным — верш Яўгена Гучка «Парыж — Старыя Дарогі» з радкамі: «Адам і Максім Багдановічы паўсталі таксама ў метале надоечы…».

Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча да яго 115-годдзя выпусціла каляровую паштоўку, прысвечаную паэту і Ракуцёўшчыне. Летам на ўскраіне Ракуцёўшчыне ў 1911 годзе гасцяваў Максім. «Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця!» — так назваў паэт гэты час. Там ён напісаў два цыклы вершаў: «Старая Беларусь» і «Места» (усяго 17 вершаў) і дзве паэмы «У вёсцы» і «Вераніка».

Музеіфікацыя ракуцёўшчынскіх месцаў пачалася ў 1970-х гадах. А ў 1977 годзе ў вёсцы Ракуцёўшчына на ўспамін аб знаходжанні там паэта пастаўлены два помнікі-валуны: адзін як вечная свечка памяці, на другім — выбіты радкі з «Санета» Максіма Багдановіча. У 1981 годзе ў вёсцы каля помніка беларускімі літаратарамі пасаджаны мемарыяльны «Максімаў сад».

У 1994 годзе там быў створаны філіял музея Максіма Багдановіча «Фальварак Ракуцёўшчына», які ўключае сядзібу Лычкоўскіх (домік арандатара, фальварковая хата, гаспадарчыя пабудовы), тэрыторыю вакол сядзібы, Максімаву крыніцу. Штогод тут адбываецца свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета«, прысвечанае памяці Максіма Багдановіча.

Маладзечанскія краязнаўцы Міхась Казлоўскі і Барыс Брацук да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча ў Маладзечне выпусцілі чорна-белую паштоўку з партрэтам Максіма Багдановіча…



## Першы пераклад «Слуцкіх ткачых» на польскую мову

Падчас паездкі ў 1911 годзе ў Вільню Максім Багдановіч пазнаеміўся з рукапісамі старажытных беларускіх кніг. Яго зацікавіла гістарычнае мінулае беларускага народа і пад уражаннем ад іх напісаў у 1912 годзе верш «Слуцкія ткачыхі» з цыкла «Старая Беларусь». Верш «Слуцкія ткачыхі» — адзін з лепшых твораў гэтага цыклу. У ім уваскрашаецца далёкае мінулае Беларусі, паказваецца паднявольная праца слуцкіх ткачых у час прыгону. А вобраз васілька набывае ў вершы абагульняючае значэнне. Ён зліваецца з вобразам Радзімы, становіцца сімвалам народнага мастацтва. У вершы «Слуцкія ткачыхі» паэт раздумвае над лёсам беларускіх мастакоў і над сутнасцю мастацтва. Гэты верш вельмі прыгожы, у ім аўтар пытаецца расказаць пра тое, што сапраўднае мастацтва нельга стварыць пад прымусам. Паясы ператварыліся ў шэдэўры толькі тады, калі ткачыхі ўклалі ў іх сваю душу. Паэт хацеў перадаць на колькі цяжкі быў той час, калі людзі былі не вольныя рабіць тое, чаго хацелася ім. Час, калі людзі цалкам залежалі ад гаспадара, выконвалі толькі тое, што хацелася і падабалася яму:

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы…

Так нам, школьнікам, распавядалі настаўнікі на ўроках роднай літаратуры пра цудоўны верш Максіма Багдановіча «Слуцкія паясы». І ўсе школьнікі вучылі яго на памяць. І сёння мы гэты хрэстаматыйны верш можам расказаць з любой вялікай ці маленькай сцэны.

Яшчэ пры жыцці Максіма Багдановіча яго верш «Слуцкія паясы» быў перакладзены на польскую мову і апублікаваны ў часопісе «Wieś Ilustrowana» (1913, № 9. С. 31). Верш на польскую мову пераклаў літаратар, паэт, педагог і перакладчык Юзаф Вяжынскі (1871–1941). Часопіс «Wieś Ilustrowana» апублікаваў «Слуцкія паясы» па-беларуску і па-польску. Цікава, а ці ведаў пра гэта сам Максім Багдановіч?

Пры жыцці беларускі літаратуразнавец і мой зямляк Янка Саламевіч (1938–2012) вельмі зацікавіўся асобай Юзафа Вяжынскага. Ён шукаў пра яго звесткі, але да канца сваю справу не давёў. Я дапамагаў яму ў пошуках матэрыялаў пра першага перакладчыка «Слуцкіх паясоў». За той час пошукаў нам удалося даведацца пра тое, што Юзаф Вяжынскі шчыра сябраваў з мастаком Фердынандам Рушчыцам (1870–1936).

Юзаф Вяжынскі і Фердынанд Рушчыц разам вучыліся ў 1883–1890 гадах у Менскай дзяржаўнай класічнай гімназіі. Вось як згадвае Юзаф Вяжынскі пра таго ж Рушчыца: «Фэрдзя быў першым вучнем на працягу ўсёй вучобы ў гімназіі, яго імя штогод змяшчалася на залатой табліцы. Для яго не было цяжэйшых і лягчэйшых прадметаў, як па лаціне ці грэцкай, так і па рускай мовах і матэматыцы ён атрымліваў самыя высокія адзнакі. Быў не толькі здольны ў навуках, але і ўпарты ў працы». На працягу ўсёй вучобы Фэрдынанд наведваў урокі малюнка. У Вільні яны нават пэўны час жылі ў адным доме. А ў пачатку 1930-х гадоў ездзілі разам на Крэўскі замак. Вяжынскі нават напісаў артыкул пра свайго сябра і мастака Рушчыца: «Dzieciństwo i młodość Ferdynanda Ruszczyca» (Ferdynand Ruszcyc — šycie i dzieło Wilno, 1939. S. 23).

Да 1919 года Вяжынскі быў сябрам камітэта, які аднаўляў Віленскі ўніверсітэт, нават пэўны час быў там выкладчыкам, а таксама прысяжным перакладчыкам акруговага суда ў Вільні. Ён часта чытаў лекцыі пра творчасць свайго сябра-мастака.

Пражыў Юзаф Вяжынскі 66 гадоў. Памёр у Вільні, дзе і пахаваны на бернардзінскіх могілках.

Прыгадаў я пра перакладчыка «Слуцкіх паясоў» Юзафа Вяжынскага з нагоды 125-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча, якое прыпадае на 9 снежня 2016 года. Таму ў кнігу ўключыў і верш класіка беларускай літаратуры на польскай мове ў перакладзе Юзафа Вяжынскага і па-беларуску.

### Слуцкія ткачыхі

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты



Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад пярсідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна,—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора…
І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж пярсідскага узора
Цвяток радзімы васілька.

### Słuckie tkaczki

Z rodzimych niw, z rodzimej chaty
Na pański dwór dla marnej krasy
Wzięto bezdomne, bez zapłaty
Tkać one złotolite pasy.
I cięgiem w długie te godziny,
Dziewicze zabaczywszy sny,
Szerokie, barwne swe tkaniny
Przetykasz na wzór perski ty.
Za ścianą tuż wre śmiechem pole,
Przyświeca niebo z okna krat
I dumka rwie się mimo woli
Tam, kedy wiosną zakwitł świat
Gdzie lśni się zboże w jasnej dali,
Bławatków gdzie modrzeje łan,
Gdzie chłodem srebra drga grzbiet fali
Rzeki, pędzącej z góry w tan,

A w dali ciemna obrzeż boru…
I w zapomnieniu z pod twych rąk
Zamiast obcego Persów wzoru
Wykwitł bławatków swojskich pąk.

## Беластоцкія вершы Андрэя Чэмера

Пад псеўданімам Андрэй Чэмер на старонках беларускага друку выступаў мемуарыст, педагог, журналіст і грамадскі дзеяч з Вільні Аляксей Анішчык (1912–2007).

Складаны лёс быў у гэтага чалавека, хаця пражыў ён шмат гадоў. Нарадзіўся на хутары Мондзіна на Навагрудчыне непадалёку ад возера Свіцязь. Закончыў Навааградскую беларускую гімназію, а потым эканамічны факультэт універсітэта ў Познані.

Перад Другой сусветнай вайной Аляксей Анішчык апынуўся ў Варшаве. А калі пачалася вайна, запісаўся ў батальён абароны польскай сталіцы, за што быў пазней узнагароджаны медалём.



*Аляксей Анішчык у сваёй віленскай кватэры, 2002 г.*



Пасля капітуляцыі Польшчы, вярнуўся на Навааградчыну выкладчыкам роднай мовы і літаратуры ў школе. А потым пераехаў на Беласточчыну, дзе быў прызначаны дырэктарам школы, некалькі разоў нават у Беластоку сустракаўся і гутарыў з Хведарам Ільяшэвічам — рэдактарам беластоцкай беларускай газеты «Новая дарога».

У гады вайны Аляксей Анішчык працаваў выкладчыкам настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку, ён удзельнічаў у рабоце Другога Ўсебеларускага кангрэса. Пасля вайны жыў у Кракаве, працаваў у розных выданнях. Але ў 1948 годзе яго арыштоўваюць савецкія спецслужбы і прывозяць у Мінск. Савецкі трыбунал прыгаварыў яго да расстрэлу, аднак смяротнае пакаранне хутка было заменена на 25 гадоў лагераў строгага рэжыму.

На Поўначы Аляксей Анішчык адбыў 14 гадоў і вярнуўся дамоў.

Аднойчы ён напісаў ліст у беларускую беластоцкую газету «Ніва», а праз пэўны час атрымаў адказ з Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), у якім яго запрасілі на працу БГКТ на пасаду кіраўніка аддзела культуры ў БГКТ. Такая прапанова Аляксея Анішчыка задаволіла і ён паехаў у Беласток. Гэта была другая палова 1960-х гадоў.

Сапраўды, хутка Аляксей Анішчык стаў працаваць у БГКТ, наладзіў нават добрыя стасункі з «Нівай», дзе друкаваў уласныя матэрыялы.

У сваёй кнізе «Беларуская адысея»(Вільня, 2005–2006) Аляксей Анішчык прыгадвае: «У «Ніве» друкаваліся даволі часта вершы Баршчэўскага, які мне тады паказаўся ў нейкай меры прэтэнцыёзным і ганарыстым… Самыя шчырыя і нават сардэчныя суадносіны завязаліся ў нас са Шведам і Юзьвюком. Швед быў стопрацэнтна тыповым сынам беларускай вёскі. Стрыманы, сціплы, спагадлівы і працавіты, ён быў да дна душы шчырым і добрым, учынным інтэлігентам (падкрэсліваю гэта слова). Прыроджаны такт і добразычлівасць паглыблялі абаяльнасць гэтага чалавека, а паэтычны талент (у асноўным, дзіцячая тэматыка) як бы стваралі арэол рамантычнасці… Юзьвюк умеў працаваць… Я, наглядаючы за стылем працы Юзьвіку, мімаволі заўважыў штодзённы парадак у яго працы, паперах, прыладах…».

У Беластоку Аляксей Анішчык шчыра пасябраваў з калектывам ансамбля «Лявоніха», які актыўна выступаў з канцэртамі на Бела-

сточчыне. Ансамбль у той час быў вельмі папулярны. Напрыклад, у верасні 1966 года «Лявоніха» дала 500 канцэртаў. А 501-ае выступленне было ў вёсцы Шымкі Беластоцкага павета перад школьнікамі.

Аднойчы, як прыгадвае ў сваёй кнізе «Беларуская адысея» Аляксей Анішчык, яны сядзелі ў памяшканні БГКТ і гутарылі пра жыццё-быццё. Былі там Анішчык, Юзьвюк, Лобач і нейкі Куц, які працаваў у гарадской управе. Лобач сказаў, што абрыдзела тут жыць у гэтым «шалмане і здзеку польскіх шавіністаў». «Едзе-едзь на Беларусь! — сказаў яму Анішчык, — там паспрабуеш чэкісцкай ласкі, дык будзеш ва ўсе лапаткі перціся назад..».

Пасля гэтай гутаркі, Анішчыка праз пару дзён выклікаў камендант ваяводскай управы паліцыі і следчы. Ва ўспамінах Аляксей Анішчык прыгадвае: «Спярша камендант запытаў, як даўно я прыехаў (хоць яны ўжо ўсё пра мяне дасканальна ведалі), з якой мэтаю і што думаю далей рабіць. Я коратка адказаў, што жыву ў Польшчы другі год. Польшча мне не чужая — тут канчаў універсітэт, шмат гадоў працаваў і дабравольцам бараніў Варшаву ў часе нямецкай інвазіі… А Беласточчына для мяне амаль родная, бо я працаваў тут дырэктарам школы і маю шмат блізкіх сяброў — так беларусаў, як і палякаў. А калі ўсё пойдзе ладам, то можа ізноў пайду працаваць у школу. У часе гэтай размовы другі функцыянер (праўдападобна з польскага УБ — гэта значыць — бяспекі) часта ўмешваўся, задаючы колкія і нават злосныя пытанні і нешта запісваючы. Пратрымалі мяне каля гадзіны і развіталіся. Хутка выявілася, што Куц быў стукачом, настрачыў на мяне данос і перадаў свайму начальству ў УБ. Хутка паліцыя выклікала Юзьвюка і дала яму такую галавамойку, так запалохала, што ён запрапанаваў мне пеадкладна выязджаць з Беластока, хоць яму гэтага вельмі не хацелася. Сітуацыя была яснай: энкавэдысты Беларусі баяцца, што магу расказаць зашмат праўды пра жыццё ў савецкай імперыі…» (Беларуская адысея. С.292–293).

Хутка Аляксей Анішчык пакінуў Беласток і прыехаў на Віленшчыну ў Эйшышкі. А потым перасяліўся ў Вільню, дзе і пражыў да канца свайго жыцця. Там прымаў самы актыўны ўдзел у беларускім руху. Ён узначальваў суполку віленскіх беларускіх палітвязняў, быў адным з заснавальнікаў беларускай школы ў Вільні, уваходзіў у склад рэдкалегіі старонкі «Беларус Віленшчыны».



З Аляксеем Анішчыкам я шмат гадоў перапісваўся, захаваліся яго лісты, успаміны, кнігі з аўтографамі. Дарэчы, спадар Аляксей за доўгае жыццё сабраў добрую бібліятэку кніг, калекцыю музычных інструментаў. А яшчэ ён шмат пісаў, пісаў на польскай, рускай і вядома ж на роднай мове. У канцы XX стагоддзя адна за адной выходзілі яго кнігі: кніга вершаў на рускай мове «Жизнь живым принадлежит» (1996), вершы і нарысы «За калючым дротам « (1996), «Мондзінская балада» (1996), кнігі артыкулаў і ўспамінаў «Партрэты», «Выбраныя Богам», «Сяргей Хмара» і іншыя. Але самым каштоўным выданнем Аляксея Анішчыка была і застаецца кніга «Наваградская беларуская гімназія» (Вільня, 1997) з прадмоваю вялікага беларуса, акадэміка Барыса Кіта. Усе, вышэй пералічаныя кнігі, спадар Аляксей Анішчык пры жыцці прыслаў з аўтографамі мне. На кнізе «Наваградская беларуская гімназія» аўтар напісаў: «Паважанаму Сяргею Чыгрыну з самымі шчырымі пажаданнямі поспехаў у яго публіцыстычнай і літаратурнай творчасці. Вільня, 27.02.1999 г. Аўтар Аляксей Анішчык». А на зборніку «За калючым дротам» напісаў: «Паважанаму Сяргею Чыгрыну з найлепшымі пажаданнямі. Аўтар Аляксей Анішчык. Вільня, 27.02.1997 г.». Пішу гэта не дзеля таго, каб пахваліцца аўтографамі Анішчыка, а дзеля таго, што часта перачытваю, пераглядаю ўсе выданні забытага беларускага аўтара. Звярнуў увагу, што Аляксей Анішчык вельмі шмат паэтычных радкоў прысвяціў сваім сваякам, сябрам, знаёмым, а таксама вядомым беларусам і тым мясцінам, дзе жыў, працаваў, бываў. У паэтычных зборніках сёння згубіліся і тры вершы Аляксея Анішчыка, прысвечаныя Беласточчыне. Яны былі напісаны якраз тады — у 1967–1969 гадах, калі Аляксей Анішчык жыў у Беластоку. Гэта вершы «Беласток», «Белавежа» і верш «Прывітанне», прысвечаны ансамблю БГКТ «Лявоніха».

Беластоцкія вершы Аляксея Анішчыка (Андрэя Чэмера) вырашыў уключыць у сваю кнігу.

### Беласток

Трывожнае сэрца і пытлівы крок
Ізноў прывялі да цябе, Беласток.
У гомане шумнай людской грамады
Здаецца я зноў, як калісь, малады.

Таксама цяпер, як даўней, як учора,
Хвалюецца натоўпу шумнае мора.
Іскрацца задорам юначыя вочы
І сыплецца срэбрам, звініць смех дзявочы.
Касцёлаў і цэркваў гучыць перазвон…
Прыміце ж вы, сведкі вякоў, мой паклон!
Хоць шчыра скажу, што пашаны нямала
Ў мяне і да новых, сучасных кварталаў.
Тут многія пнуцца да хмар этажы
І зверху глядзяць на старыя крыжы…
Тут слухаюць кросен бязлікіх стук часты
Сапраўдныя цуды: Антонюк і Фасты!
Каханне і радасць, смутак і гора
Вядуць нас у парку зялёнае мора —
Ў зацішныя сцежкі, дарожкі, альтаны…
Між імі шумяць, серабрацца фантаны,
А там за дарогай імкнуцца далей
Квадраты узорных дыванаў, алей…
Прыпынак тут мае народ усялякі:
Спрадвеку жывуць беларусы, палякі,
Татары, расейцы і жмудзь, ліцьвіны
І нават Славаччыны братняй сыны.
Мне радуе сэрца іх праца і згода
На славу Айчыне, на славу народа.
І радасцю шчырай засціцца зрок,
Каля я гляджу на цябе, Беласток.

*1967*

## Белавежа

Морам зялёным раскінула межы
Магутная пушча вакол Белай вежы,
А побач спрадвеку, праз тысячы год
Прыбоем шумеў беларускі народ.
Любімая, родная маці-зямля!
Твая жыватворная вечная сіла



І нас, і чужынцаў, і зубра-камля
Ў добрыя, цяжкія годы карміла.
Народы, як грозныя хвалі сівыя,
Ўсцяж залівалі твае берагі.
Падзеяў крывавых вятры штурмавыя
Наносілі раны на край дарагі.
І жэрла тваё дабрадзейнае цела
Навала чужацкая так, як хацела,
Хоць часам ламала крывавыя зубы
Аб косці-лясы твае, краю мой любы…
Па нетрах зялёных гулялі тэўтоны,
Тапталі і зубраў знішчалі цары…
Татары калісьці, не знаючы стомы,
Палілі пасёлкі, лясы і двары…
Знішчалі чужынцы зялёнае мора,
Дзяўчат паланілі на ганьбу і здзек…
І тысячы мерлі ад цяжкага гора,
Ды выжыў усё ж такі наш чалавек!
Прымі ж мяне, краю пушчанскі, свабодны,
З табою мы шчыра, навекі сябры!
Бо ты для мяне, як заўсёды, быў родны,
Як родныя мне і лясы, і зубры!..
Хай песні пра шчасце спяваюць вяршыні
Магутных, нязлічаных сосен, дубоў,
Хай казкі снуюць беластоцкай дзяўчыне,
Хай сны навяваюць пра шчасце, любоў…
У змроку тваіх пераплеценых кронаў
Турыст для турыста і друг. І зямляк.
Навокал без ненавісці, без праклёнаў
У дружбе жывуць беларус і паляк.
Магутная пушча ніколі не згіне,
Зубрам дасць апеку на тысячы год!
Служыць будзе верна народнай Айчыне,
Таксама як ты, беларускі народ!

*1968, Беласток*

## Прывітанне

*Ансамблю БГКТ «Лявоніха»*

У смутку і ў каханні, у шчасці і ў бядзе
«Лявоніха» з бадзёрай песняю ідзе.
Цяпла і смеху, жартаў і ласкі хоць крыху
Мы з радасцю прыносім пад кожную страху.
Вітаюць вас сардэчна між ніваў і бяроз
Наш паважаны Крупа і Марыся Мароз!
Адкрытым, шчырым сэрцам і поціскам рукі
Вітаюць вас і Янка, і Люба Блізьнюкі!
Няхай жа танцам звонкім усіх нас развяселіць
Наш гарманіст вясёлы — Станіслаў Станкевіч!
Каб радасным і звонкім быў сэрца перастук,
Пацешыць жартам, песняй вас Юрка Гаўрылюк!
Як музыка зайграе, дык ножанькі стук-стук!
Не ўседзяць, як станцуе вам Оля Андраюк…
Жадаем вам сардэчна, каб сонца шчасця, згоды
І добрага настрою свяціла вам заўсёды!..

*1969, Беласток*

## Жыў у Дзятлаве мастак…

У сваёй кнізе «З беластоцкай зямлі» (Беласток, 2008. С. 187–188) я ўпершыню прыгадаў пра беларускага мастака, рэзчыка па дрэву, грамадска-культурнага дзеяча Уладзіміра Мацюка (1902–1989). Гэта была толькі невялікая згадка пра таленавітага беларуса з Беластока. Але пошукі працягваліся і за гэты час мне ўдалося адшукаць шмат новых звестак пра чалавека, які любіў мастацтва і пра якога, на жаль, мала хто сёння ведае, а тым больш яго прыгадвае.

Уладзімір Мацюк нарадзіўся 2 чэрвеня 1902 года ў Беластоку ў сям'і беларускага фельчара Язэпа (Іосіфа) Мацюка. Язэп Мацюк быў родам з вёскі Гернікі Слонімскага павета. У пачатку ХХ стагоддзя ён жыў і працаваў у Беластоку. Там малады фельчар пазнаёміўся з дзяўчынай Людмілай, якая была са збяднелага роду Антыноравічаў з Нараўкі. Людміла і Язэп пакахалі адзін аднаго, пажаніліся і шча-



слівыя жылі ў Беластоку. Хутка ў іх нарадзілася пяцёра дзяцей, Валодзя па ліку быў трэцім.


*Уладзімір Мацюк*

Але заставацца шчаслівымі беларускай сям'і перашкодзіла Першая сусветная вайна і бежанства. Іосіфа Мацюка дэмабілізавалі ў расійскае войска і накіравалі працаваць эпідэміялагічным фельчарам у адзін з земскіх шпіталях Падольскай губерні, які знаходзіўся каля самай лініі фронту. Але ў 1916 годзе ён захварэў на тыф, прыехаў да сям'і ў горад Калуга, дзе хутка памёр. Менавіта ў Калугу ў гэты час была з Беластока эвакуіравана Людміла Мацюк з дзецьмі. І на яе плечы ляглі ўсе сямейныя клопаты.

З маленства ў братоў Аляксандра і Уладзіміра Мацюкоў выявіліся здольнасці да малявання. Таму лепшым падарункам для братоў заўсёды былі пэндзлікі і фарбы. Валодзя наведваў гурток выяўленчага мастацтва. А для першай выставы ў гуртку ён выразаў з дрэва фігурку хлопчыка, які кідае камень.

У Калузе Уладзімір Мацюк пайшоў у школу. Фізіку ў іх класе выкладаў Канстанцін Цыялкоўскі — рускі і савецкі вынаходнік, заснавальнік тэарэтычнай касманаўтыкі. Вельмі часта пра Цыялкоўскага любіў распавядаць Уладзімір Мацюк. Ён казаў, што ў памяці Цыялкоўскі застаўся дзіўнаватым чалавекам. Да яго вучні прыходзілі дамоў, дзе ён ім паказваў розныя канструкцыі, распавядаў пра сваё бачанне Бога. Школьнікі дапамагалі яму, яны насілі ў гарадскі сад абсталяванне для дэманстрацыі доследаў, выконвалі іншыя заданні свайго настаўніка.

У 1919 годзе Уладзімір Мацюк запісаўся на завочныя курсы пры Калужскай мастацкай акадэміі. Ён займаўся на завочных курсах і адначасова вучыўся ў школе. А праз два гады скончыў школу і быў прызваны на гадавыя чырвонаармейскія курсы. У гэты час у Расіі ішла грамадзянская вайна. Жыць там было вельмі цяжка. Таму сям'я

вырашыла вярнуцца на Бацькаўшчыну. Але ўсім адразу зрабіць гэта не было магчымасці, таму на радзіму паехаў пакуль адзін Уладзімір. Вясной 1924 года ён перасек мяжу і апынуўся ў Заходняй Беларусі, якая ўжо знаходзілася пад Польшчай. Прыехаўшы на радзіму бацькі, Мацюк хутка вырашае вярнуцца зноў у Калугу. Але яго арыштоўваюць на мяжы і ён некалькі месяцаў праводзіць у польскай турме.

Сустрэцца з маці і з роднымі братамі і сёстрамі Уладзімір Мацюк змог толькі пасля 1939 года. Ён пасяліўся ў Дзятлаве на Гарадзеншчыне, куды на пастаяннае месца жыхарства да яго прыехала і старэйшая сястра Вольга. У Дзятлаве спадар Мацюк і пражыў усё сваё астатняе жыццё.

У 1920-я–1930-я гады юнак з Беластока ў Дзятлаве паспеў ажаніцца на Яўгеніі Развазскай і паслужыць у 79-м польскім пяхотным палку ў Слоніме. Але жыццё пры Польшчы было няпростым. Спачатку сям'я Уладзіміра і Яўгеніі Мацюк здымала два пакоі ў адным з дамоў у цэнтры Дзятлава. А ў другой палове 1930-х гадоў ім удалося купіць маленькі кавалачак зямлі на вуліцы Легіянераў (цяпер гэта вуліца Чырвонаармейская. — *С. Ч.*) і пабудаваць у Дзятлаве свой дом.

Калі на Дзятлаўшчыну прыйшла савецкая ўлада, Уладзімір Мацюк працаваў загадчыкам базы ў райспажыўсаюзе, а ў вольны час захапляўся разьбой па дрэву. Летам 1941 года Баранавіцкі абласны Дом народнай творчасці арганізаваў экскурсію на выставу ў Мінск для лепшых скульптараў, рэзчыкаў і інкрустатараў вобласці. Захаваўся запыт у міліцыю з просьбай выдаць пропуск у горад Мінск майстру-рэзчыку па дрэву У. Мацюку, датаваны 20-м чэрвенем 1941 года. Але экскурсія не адбылася, бо праз два дні пачалася вайна.

У гады вайны сям'я Уладзіміра Мацюка жыве то ў Дзятлаве, то на хутары Гнаінскі ў сваякоў, то проста ў лесе. І шмат прац, якія захоўваліся ў хаце мастака ў Дзятлаве, згубіліся ці іх проста ўкралі. Ратавалі і кармілі сям'ю «дзеравяшкі» — абутак з дрэва, які рабіў Уладзімір падчас вайны. Іх набывалі землякі.

Пасля вайны Уладзімір Мацюк уладкаваўся на працу мастацкім кіраўніком Дзятлаўскага раённага Дома культуры і адпрацаваў там усё сваё жыццё. Ён арганізаваў драматычны гурток і ставіў спектаклі. Напрыклад, спектакль «Паўлінка» па п'есе Янкі Купалы ў 1952 годзе заняў першае месца на Гарадзенскім абласным конкурсе мастацкай





*У Дзятлаве, канец 1940-х гадоў. Уладзімір Мацюк крайні справа ў першым радзе*

самадзейнасці і быў нават паказаны ў Мінску. Кіраўнік тэатральнага гуртка сам быў і рэжысёрам, і акцёрам, і мастаком, і дэкаратарам, і грымёрам, рыхтаваў эскізы касцюмаў да спектакляў. Але галоўным яго захапленнем заставалася разьба па дрэву.

У лістападзе 1945 года працы мастака «Начное», «Дудар» і «Данясенне» упершыню былі паказаны на агульнабеларускай выставе майстроў народнай творчасці ў Мінску. За барэльеф «Данясенне» Мацюк атрымаў другую прэмію ў конкурсе на лепшы твор на тэму «Беларусь у перыяд Вялікай Айчыннай вайны». Мастак пастаянна ўдзельнічае ў розных абласных, рэспубліканскіх і былых усесаюзных выставах. На выставе народнага выяўленчага мастацтва ў 1948 годзе ў Маскве дзятлаўскі мастак атрымлівае другую прэмію за скульптурныя працы «Тры пакаленні ў барацьбе за Радзіму» і «Пастух-сувязіст» («Дудар»). А Ленінградскі музей этнаграфіі тады купіў у яго некалькі скульптур і наладзіў з мастаком творчыя сувязі.

Уладзімір Мацюк у другой палове XX стагоддзя быў вельмі паважаным чалавекам на Дзятлаўшчыне. Яго абіраюць дэпутатам Дзятлаўскага пасялковага Савета дэпутатаў працоўных. А ў 1959 годзе мастак становіцца сябрам Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі пры Беларускім Доме народнай творчасці. Гэта арганізацыя ў свой час набыла некалькі прац Уладзіміра Мацюка для паказу за мяжой. Яму быў заказаны твор з дрэва ў якасці падарунка ад БССР на фестывалі моладзі ў Варшаве ў верасні 1955 года. Ён прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні агульнабеларускага фестывалю моладзі і студэнтаў у 1957 годзе, за што яго ўзнагародзілі Ганаровай граматай. Апошняй вялікай выставай, у якой удзельнічаў Уладзімір Мацюк, з'яўлялася Усесаюзная выстава-конкурс дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва самадзейных мастакоў і майстроў народнай творчасці ў 1970 годзе. Скульптура мастака «Мишка-сладкоежка» была адна з лепшых і яе выбралі для ўдзелу ва Усесаюзнай рухомай выставе па гарадах Поўначы і Сібіры ў 1971 годзе.

У апошнія гады свайго жыцця Уладзімір Мацюк працаваў толькі для сябе. Свае працы ён дарыў сябрам і сваякам. Спрабаваў займацца і разьбой па косці. Усе гэтыя працы часта можна было ўбачыць на розных беларускіх выставах.

За некалькі гадоў да смерці мастак пачаў губляць зрок і не мог больш працаваць. Гэта была для яго трагедыя. А 24 лістапада 1989 года Уладзіміра Мацюка не стала. Ён памёр у Дзятлаве, дзе і пахаваны.



За сваё жыццё Уладзімір Мацюк стварыў сотні выдатных твораў з дрэва і косці. Сёння яны захоўваюцца ў прыватных, беларускіх, расійскіх і польскіх музеях і архівах, а таксама ў Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі. А дзесяткі арыгінальных твораў мастака, якія ён аддаваў на розныя выставы, проста зніклі і лёс іх невядомы. Асноўнай тэматыкай яго твораў былі і засталіся гісторыя беларускага народа, сялянская праца, жывёлы і фальклорныя персанажы, а таксама скразной тэмай праз розныя творы праходзіць вайна. Ёсць у мастака невялікі прамавугольны барэльеф «Жах». У рамцы з немудрагелістым арнаментам — фігура жанчыны. Просты твар. З-пад хусткі выбіліся пасмы валасоў. Працягнутымі наперад рукамі жанчына абараняецца ад нечага жудаснага. На твары застыў выраз жаху…



*Уладзімір Мацюк. Калгасніца Маша. Дрэва, разьба. канец 1970-х гадоў*

Асабліва ўдалай трэба лічыць і скульптурную кампазіцыю «Перамаглі ў вайне — пераможам і ў працы…». Яна і сёння сведчыць аб ідэйным стаўленні мастака. Гэтай тэме прысвечаны і скульптуры «Тры пакаленні ў барацьбе за Радзіму…», «Пастух-сувязіст», барэльеф «Данясенне», праект помніка загінуўшым воінам і іншыя. Тэма ўзнаўлення гераічнага мінулага беларускага народа, відаць, бярэ пачатак у больш ранейшых працах мастака. Вось кампазіцыя «Гэта было даўно». Дзед нешта распавядае ўнуку, які прымасціўся каля яго ног. Цікава, што рысы твару дзеда нечым нагадваюць твар непакорнага бунтара. А гарэльеф «Вязень» адлюстроўвае безыменнага важака беларускіх сялян-паўстанцаў. Ён кінуты ў сутарэнне, дзе можна толькі сядзець. На нагах вязня цяжкія кайданы. Але сілы ў яго руцэ, якая сціскае краты, колькі мужнасці і волі ў яго паглядзе!..

Найбольш блізкай для Уладзіміра Мацюка была вясковая тэма. Вельмі прыгожай атрымалася драўляная скульптура «Начное». Вы-

канана яна з дубу. Сам колер — рыжавата-чорны — выкарыстаны для перадачы начнога часу. У цэнтры скульптуры — касцёр, каля якога сядзяць тры хлапчукі-пастушкі. Побач з імі — сабака. Глыбокае пачуццё і майстэрства дазволілі мастаку стварыць праўдзівую кампазіцыю. А праца «Скончаны працоўны дзень» з'яўляецца нібы працягам яго серыі прац на вясковую тэматыку. У ёй мастак паказаў, як людзі пасля працоўнага дня вяртаюцца з сенажаці дамоў. Яны ўзбуджаныя, вясёлыя, ёсць тут і свой музыкант, гучыць песня. Гледзячы на гэтую працу, нібы трапляеш у маленства, да вяскоўцаў, разам з імі дзеліш радасць плённай працы і творчага натхнення. Сёння моладзі гэта не зразумець. Галоўнае ў барэльефе — гэта сам чалавек, яго фізічная і духоўная прыгажосць. Такіх твораў у мастака было вельмі шмат. Для іх выканання ён выкарыстоўваў розныя пароды дрэва: бярозу, клён, дуб і іншыя. І дрэва ажывала ў руках народнага ўмельца і майстра. Ён па-майстэрску валодаў інструментамі, якія купляў у крамах, а таксама рабіў сваімі рукамі…

Уладзімір Мацюк пражыў няпростае, але доўгае жыццё. І пражыў беларускі мастак з Дзятлава, яго не дарэмна. Ён усё жыццё любіў працаваць, шукаць, тварыць. І праца прыносіла плён. Яго зямляк з Дзятлава вядомы беларускі кераміст Мікалай Несцярэўскі, які шмат гадоў пражыў у Дзятлаве і ведаў Мацюка, прыгадвае: «Я добра ведаў Уладзіміра Іосіфавіча. Ён у Дзятлаве працаваў мастацкім кіраўніком Дома культуры, а я — інструктарам. Гэта быў вельмі таленавіты разьбяр па дрэву, даволі адукаваны і разумны чалавек. Працаваць з ім было адно задавальненне».

## Згадка пра доктара Мікалая Марцінчыка

Неяк патэлефанаваў даследчык Заходняй Беларусі, доктар філалагічных навук Арсень Ліс і прапанаваў напісаць артыкул пра Мікалая Марцінчыка. «Гэты чалавек сёння амаль забыты, а ён быў вельмі актыўным грамадска-палітычным дзеячам у Заходняй Беларусі. Стаяў ля вытокаў БСРГ, быў адным з кіраўнікоў Беларускага студэнцкага саюза, намеснікам старшыні Галоўнай управы ТБШ», —сказаў Арсень Сяргеевіч.



І ён мае рацыю. Бо Мікалай Марцінчык (1901–1980) — найцікавейшая асоба ХХ стагоддзя. Марцінчык сябраваў і перапісваўся з многімі дзеячамі Беларусі. Пра яго вельмі шчыра заўсёды адгукалася грамадская дзяячка і пісьменніца Зоська Верас (1892–1990). У сваіх пісьмах да сяброў (Зоська Верас. Я помню ўсё. Гародня; Wrocław. 2013. Складальнік Міхась Скобла) яна прыгадвала: «Мне Мікалай Міхайлавіч Марцінчык прысылае парады і лекі. А цяпер, магчыма, той беларус з Варшавы прывязе мне лекі польскія, якія парадзіў і прысылаў на пробу Мікалай Міхайлавіч» (з ліста Фёдара Ігнатовіча). «Не ведаю, ці Вы знаёмыя з др. М. М. Марцінчыкам? Гэта мой знаёмы яшчэ з 1924 г. Мы ўвесь час ліставаліся…» (з ліста да Дануты Бічэль). А вось як казала пра яго беларуская паэтка-змагарка Ларыса Геніюш (Ларыса Геніюш. Лісты з Зэльвы. Гародня; Wrocław. 2012. Складальнік Міхась Скобла): «Шкада доктара Марцінчыка. Пісала мне пра гэта Людвіка Антонаўна (маецца на ўвазе Зоська Верас. — С.Ч.). Вельмі шкадую памерлага. Ён не раз быў у нас і памагаў нам даставаць лекі. Няхай лёгкаю будзе яму наша зямля» (з ліста да Аляксея Пяткевіча).

Мікалай Марцінчык быў асабістым доктарам славутага нашага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага (1900–1981). Яны пазнаёміліся яшчэ ў 1920-х гадах у Вільні. З таго часу шчыра сябравалі. Калі спявак жыў у Празе, то кансультаваўся ў Марцінчыка наконт лекаў, прасіў парады, як і чым лепш лячыцца. У 1976 годзе Мікалай Марцінчык атрымаў ад Міхася Забэйды-Суміцкага пласцінку сваіх песень, што выйшла ў Празе ў 1968 годзе з аўтографам: «Дарагому доктару М. М. Марцінчыку — удзячны пацыент М.Забэйда».

Сапраўды, Мікалай Марцінчык лічыўся даволі добрым доктарам. І так яно было. Ён скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя. Часопіс «Студэнцкая думка» за 1928 год № 1 (8) паведамляў: «30.XI м. г. скончыў Віленскі ўніверсітэт з тытулам доктара мед. унів. гр. М.Марцінчык — сябра Б.С.С.» Але не толькі медыцынай займаўся юнак з вёскі Кубельнікі Гродзенскага павета (цяпер Бераставіцкі раён), а таксама палітыкай, грамадска-культурнай працай і журналістыкай.

Пачатковую адукацыю ён атрымаў у Масалянскай царкоўнапрыходскай школе, бо бацькі Міхась Рыгоравіч і Фёкла Васільеўна хацелі,

каб сын вучыўся. А пасля школы, хлопец паступае ў Гарадзенскую беларускую гімназію, а потым яго шлях ляжыць у Вільню.

У Вільні Мікалай Марцінчык хутка ўліўся ў працэс беларускага нацыянальна-вызвольнага адраджэння. Ва ўнiверсітэце ён становіцца адным з кіраўнікоў Беларускага студэнцкага саюза (БСС). Часопіс «Студэнцкая думка» (1924, № 1) у сваёй хроніцы паведамляў: «30 лістапада адбыўся гадавы сход Беларускага студэнцкага саюзу. Выбраны новы ўрад Саюзу ў асобах сяброў — Марцінчыка Міколы — старшыня…» і г. д. Ён не толькі кіруе БСС, але сам актыўна выступае з лекцыямі, публікуе артыкулы ў «Студэнцкай думцы» пад сваім прозвішчам і пад рознымі псеўданімамі і крыптанімамі, у іншых заходнебеларускіх выданнях.

У 1925 годзе Мікалай Марцінчык быў абраны сакратаром, а ў 1926 годзе — сябрам Галоўнай управы Таварыства беларускай школы (ТБШ). Ён актыўна пачаў займацца стварэннем акруговых суполак ТБШ, публікуе ў друку артыкулы ў якіх патрабуе адкрыцця беларускіх школ, сам дапамагае лакальным арганізацыям ТБШ, у межах дзейнасці ТБМ і ТБШ супрацоўнічае з актывістамі КПЗБ, але не падзяляе крайне левых поглядаў камуністаў. А ў 1925 годзе ўдзельнічае ва ўстаноўчай канферэнцыі па стварэнню Беларускай сялянска-работніцкай Грамады пад кіраўніцтвам Браніслава Тарашкевіча, уваходзіць у рэдакцыйную калегію газеты «Беларуская ніва». На яе старонках 18 лістапада 1925 года паведамлялася: «У нядзелю 16 лістапада адбыўся агульны сход сяброў Таварыства беларускай школы. Пасля справаздачы Цэнтральнай Рады аб дзеяцельнасці за мінулы год і нагляднай аб рэвізіі адбыліся выбары сяброў Новай Цэнтральнай школьнай рады і Нагляднай на наступны год. У Цэнтральную школьную раду выбраны: старшыня — Б. Тарашкевіч, віцэ-старшыні: С. Рак-Міхайлоўскі, М. Заморын, сакратары: Я. Шнаркевіч і М. Марцінчык…».

У 1927 годзе, пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта, Мікалай Марцінчык пачаў працаваць у Віленскай педыятрычнай бальніцы. А потым — выкладчыкам анатоміі і хіміі ў Віленскай беларускай гімназіі. Адначасова ён каардынуе выбарчую кампанію ў польскі Сейм, але трапляе ў турму. Праўда, польскія ўлады, каб не надакучаў у Вільні, хутка выслалі Марцінчыка ў вёску Янаўка на Беласточчыну





*Мікалай Марцінчык (у цэнтры) сярод студэнтаў Віленскай беларускай гімназіі, 1930-я гады*

пад нагляд паліцыі. Там ён уладкаваўся на працу доктарам, лячыў вяскоўцаў, але не пакідаў займацца грамадскай дзейнасцю.

З Янаўкі доктар Марцінчык пераязджае ў Нараўку Гайнаўскага павета і актыўна працуе ў ТБМ. У Нараўцы ўжо ведалі, хто такі доктар Марцінчык. Таму яго прыезд вяскоўцы сустрэлі з радасцю. За свае ўласныя сродкі і за ахвяраванні вяскоўцаў ён хутка купіў рэнтгенапарат, які быў вельмі неабходны. А калі прыйшла на Беласточчыну савецкая ўлада, доктару прыходзілася займацца адкрыццём беларускіх школ, выступаць з лекцыямі і гутаркамі на медыцынскую тэматыку перад насельніцтвам, прымаць удзел у якасці кіраўніка бальніцы і дэпутата сельскага Савета ў правядзенні сесій , выступаць на мітынгах , бо так патрабавала савецкая ўлада.

А калі пачалася вайна, з маладой жонкай (родам з Нараўкі) едзе ў Белавежу і займаецца прыватнай медыцынскай практыкай. Але жыць і працаваць падчас акупацыі было няпроста. Немцы сачылі за доктa-

рам Марцінчыкам, мяркуючы, што ён супрацоўнічае з партызанамі. У першыя дні вайны ў Нараўскай бальніцы было шмат параненых чырвонаармейцаў. Іх дапамагаў даглядаць беларускі доктар. Працы хапала, спаў па пару гадзін у суткі. Але хутка ў Нараўку прыйшлі немцы. Яны абшукалі ўсіх параненых і вельмі цікавіліся, ці ёсць сярод параненых афіцэры і камісары. Доктар Марцінчык казаў, што няма, бо тыя, хто адступаў, забралі іх з сабой. Немцы пакінулі Нараўку, але не надоўга. Яны часта прыходзілі да доктара, шмат распытвалі ў яго, арыштоўвалі. Дапытвалі спадара Марцінчыка і ў гестапа. Потым забаранілі жыць і працаваць у Нараўцы, загадалі пераехаць у Белавежу, дзе быў вялікі нямецкі гарнізон і гестапа. Але доктар Марцінчык і там дапамагаў сваім людзям, перадаваў для партызан медыкаменты, многіх падпольна лячыў. Асабліва добрыя стасункі былі з камандзірам партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага Аляксеем Карпюком, які родам быў з Беласточчыны. У 1944 годзе, пасля блакады і баёў, партызанскаму атраду імя Каліноўскага патрэбны былі лекі і бінты. І доктар дапамагаў, рызыкуючы жыццём.

Пасля вайны сям’я Марцінчыкаў пераехала ў Гродна. Доктара хацелі ўзнагародзіць медалём «Партызану Айчыннай вайны». Але не ўзнагародзілі, бо нехта з чыноўнікаў выкрасліў яго імя са спіску, маўляў, у яго біяграфіі многа «белых плямаў». Не дапамаглі светкі і тых, каго ён лячыў ад ран.

А ў 1948 годзе Мікалая Марцінчыка арыштавалі органы МДБ. Яго дапытваў сам Цанава. Пасля допытаў асудзілі на 10 гадоў і адправілі ў Варкуту. Дамоў у Гродна вярнуўся толькі пасля смерці Сталіна, а ў 1956 годзе яго рэабілітавалі.

У Гродне доктар Марцінчык працаваў у абласной бальніцы, да самай смерці шчыра сябраваў з тым жа Аляксеем Карпюком і Васілём Быкавым. Яго не стала ў траўні 1980 года. На надмагільным помніку, які знаходзіцца ў вёсцы Алекшыцы на Бераставіччыне, напісаны радкі з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля»: «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы…».

Шчыры беларус і патрыёт Мікалай Марцінчык вельмі любіў свой родны край, людзей, Бацькаўшчыну. Няхай гэта згадка верне яго да нас.



## Ён шчыра любіў родны край

У ХХ стагоддзі на Навагрудчыне жыў апантана-ўлюбёны ў свой родны край чалавек. Звалі яго Уладзімір Урбановіч (1921–1999). У 1960–1990 гадах гэты чалавек быў самым вядомым у Беларусі краязнаўцам, педагогам, вандроўнікам, калекцыянерам, музейшчыкам. А яшчэ — шчырым беларусам, дэлегатам Устаноўчага з’езда Таварыства беларускай мовы ў Мінску. Пра такіх людзей, якім быў Уладзімір Урбановіч, мы сёння пачалі забываць, мала прыгадваць іх, пісаць і ўшаноўваць пра іх памяць.

Няпроста жылося і працавалася Уладзіміру Урбановічу ў вёсцы Валеўка Навагрудскага раёна. За вочы яго называліся нацыяналістам, асабліва пасля выхаду ў свет дзвюх ягоных кніг па краязнаўству. Такое кляймо яму прычапілі ці то ад зайздрасці, ці то ад таго, што гэты чалавек быў значна адукаванейшым за іншых, ад Бога таленавітым і шчырым. Ён, ці не адзін з першых у тыя пасляваенныя гады, напісаў і выдаў у Беларусі краязнаўчую кнігу «Па дарагіх мясцінах» (Мінск, 1964), дзе дзяліўся вопытам краязнаўчай работы па беларускай літаратуры ў сваёй Валеўскай сярэдняй школе. Настаўнік Уладзімір Урбановіч у той час паказаў і апісаў, як трэба выкарыстоўваць краязнаўчы матэрыял на ўроках. Вывучаючы жыццё і творчасць беларускіх пісьменнікаў, а таксама пісьменнікаў-землякоў, ён з вучнямі на веласіпедах і пяшком абышоў, аб’ехаў, і зноў жа апісаў тыя мясціны, дзе нарадзіліся пісьменнікі, творчасць якіх вывучалі ў школе. Настаўнік-краязнавец са школьнікамі наведаў мясціны Адама Міцкевіча, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Цішкі Гартнага, літаратурныя Баранавіччыну, Дзятлаўшчыну, Навагрудчыну, Стаўбцоўшчыну, Слонімшчыну і Уздзеншчыну, збіраючы новыя звесткі пра творчасць беларускіх літаратараў, запісваючы не толькі ўспаміны сваякоў, якія тады яшчэ жылі, але і займаўся зборам вуснай народнай творчасці.



*Уладзімір Урбановіч і Міхась Петрыкевіч, 1960 г.*

У 1955 годзе ў Валеўскай сярэдняй школе быў створаны краязнаўчы музей. Спачатку ў ім было тры аддзелы: гісторыка-этнаграфічны і прыроды. Калі ў школу прыехаў на працу Уладзімір Урбановіч, то ён дапоўніў музей чацвёртым аддзелам — літаратурным. Ужо ў 1980 годзе ў Валеўскім народным краязнаўчым музеі налічвалася 1895 экспанатаў, з іх 978 — арыгінальных. Уладзімір Аляксандравіч па ўсім свеце збіраў для музея розныя экспанаты, асабліва ў свой літаратурны аддзел. Тады ў музеі былі каштоўныя рэчы, звязаныя з «Хронікай Быхаўца», з гісторыяй Любчанскай друкарні, матэрыялы пра Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Цёткі, кнігі, паштоўкі, выдадзеныя суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца», друкарнямі Марціна Кухты і «Нашай нівы». Шырока была прадстаўлена заходнебеларуская літаратура кнігамі Б. Тарашкевіча, І. Дварчаніна, Г. Леўчыка, К. Буйла, В. Таўлая, М. Танка, М. Васілька, Н. Тарас, газетамі і часопісамі той пары, фотаздымкамі беларускіх літаратараў, каштоўнымі дакументамі і кнігамі А. Міцкевіча, Г. Сянкевіча, М. Рылеева, І. Катлярэўскага, С. Нерыс і іншымі асобамі, лёс якіх непасрэдна быў звязаны з Навагрудчынай.




У 1970 годзе Уладзімір Урбановіч выдае сваю новую кнігу «Шляхамі паэтаў і герояў». Гэта было дапоўненае выданне, дзе аўтар цікава расказваў пра школьны літаратурны гурток, пра музей, апісваў паходы вучняў па мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю пісьменнікаў і герояў беларускага народа, аўтар дзяліўся шматгадовым вопытам выкарыстання краязнаўчага матэрыялу на ўроках беларускай літаратуры. Калі першай кнігі наклад быў 2700 асобнікаў, то «Шляхамі паэтаў і герояў» — ажно 10 тысяч. І першая, і другая кнігі Урбановіча былі даволі папулярнымі, найперш сярод настаўнікаў. Іх раскуплялі імгненна. У беларускім друку з’явілася шэраг



станоўчых рэцэнзій на іх. Пра кнігі настаўніка з Валеўкі пісалі не абы хто, а Аляксей Пяткевіч, Рыгор Шкраба, Янка Саламевіч, Уладзімір Калеснік, Вера Ляшук, Сцяпан Александровіч і многія іншыя вядомыя асобы. Напрыклад, Сцяпан Александровіч ў часопісе «Полымя» у ліпені 1971 года паведамляў: «Самае цікавае і патрэбнае ў кнізе «Шляхамі паэтаў і герояў» — гэта той багаты фактычны матэрыял, які могуць шырока выкарыстоўваць настаўнікі Беларусі і ў першую чаргу Гродзеншчыны».

Але гэтыя добрыя і карысныя кнігі прынеслі Уладзіміру Урбановічу і шмат клопатаў. У пісьме да свайго лепшага сябра і былога калегу па Валеўскай сярэдняй школе, а пазней — заснавальніка і дырэктара Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея Міхася Петрыкевіча (1913–1999), які апошнія гады жыцця жыў у Вільні, пісаў, што яго абвінавачваюць у нацыяналізме і не раз выклікалі ў КДБ. У адказ Міхась Петрыкевіч 27 красавіка 1987 года пісаў: «… Чытаў твае кніжкі, маю іх з сабою цяпер і магу смела сказаць, што ніякага нацыяналізму там няма. Ёсць пачуццё любові да роднага краю, да роднай культуры, традыцый, прыроды, пашаны да людзей нашага краю. Дык хіба ж гэта дрэнна? Добра ведаю, што краязнаўства цяпер развіваецца, падтрымліваецца Міністэрствам асветы, культуры і другімі органамі ўлады. Гэта ярка відаць у Літоўскай рэспубліцы. Любоў да роднага краю дапамагае вырашыць важную дзяржаўную праблему — замацаванне кадраў, рабочых рук у сельскай гаспадарцы. Не менш важныя і другія аспекты краязнаўчай работы… Не ведаю, праз якія акуляры тыя твае субяседнікі разглядалі твае кнігі. А можа яны і не чыталі, а хто-небудзь з зайздрасці даў ім адмоўную рэцэнзію. І гэта можа быць. Разумеецца, з гэтай закваскі, як кажуць, піва не зварыш, але нервы папсаваць можна. Спачуваю табе, ведаю, як цяжка ўсё гэта перажыць. Тут можна сказаць словамі Янкі Купалы: «Чаго вам хочацца, панове, які вас выклікаў прымус?..».

Сапраўды, пасля выхаду другой кнігі, Уладзіміру Урбановічу выдаць больш кніг да самай смерці так і не ўдалося. Хаця ён напісаў сотні артыкулаў, нарысаў, даследаванняў, рэцэнзій і апублікаваў у газетах і часопісах, навуковых і папулярных выданнях. Пісаў пра мясціны і лёсы пісьменнікаў, выкладанне беларускай літаратуры ў школе, арганізацыю ў ёй навучальнага працэсу, пра друк Беларусі,




беларускі фальклор, людзей культуры. З 1958 года Уладзімір Урбановіч чытаў лекцыі па методыцы літаратурнага краязнаўства на абласных і рэспубліканскіх курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Ён быў сябрам рэспубліканскага журы па ацэнцы школьных падручнікаў, рэцэнзаваў падручнікі па беларускай літаратуры, з'яўляўся дэлегатам Устаноўчага з'езда Таварыства беларускай мовы. У аўтара гэтых радкоў, а таксама ў роднай пляменніцы Уладзіміра Урбановіча, бо сваіх дзяцей ён не меў, захоўваецца шмат публікацый, артыкулаў, рукапісаў педагога і краязнаўцы з Навагрудчыны. А гэта даволі сур'ёзныя даследаванні, якія не састарэлі і сёння, а нават захоўваюць шмат гістарычных і літаратурных адкрыццяў. Гэта грунтоўныя даследаванні пра Адама Міцкевіча і Беларусь, у тым ліку і Навагрудчыну, пра старажытнае пісьменства і кнігадрукаванне на Навагрудчыне, пра Ігната Дамейку і сувязь Якуба Коласа і Янкі Купалы з Навагрудчынай і Лідчынай, пра Янку Нёманскага і Марылю Верашчаку, пра паўстанне 1863 года на Лідчыне і г. д. Назбіраецца дзесяткі артыкулаў-даследаванняў, якія сёння склалі б не адну дыхтоўную гісторыка-краязнаўчую і літаратуразнаўчую кнігу Уладзіміра Урбановіча, а таксама асобнае выданне пра Адама Міцкевіча, пра якога ён ведаў шмат.

Ёсць невялікая згадка пра Уладзіміра Урбановіча ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (Мінск, 1987. Т. 5. С. 364), дзе напісана, што ён з'яўляецца і аўтарам шэрагу артыкулаў па метадыцы выкладання беларускай літаратуры, арганізацыі навучальнага працэсу, спалучэння школьных і пазашкольных заняткаў. На тэму краязнаўства ў выкладанні беларускай літаратуры ў старэйшых класах, роля краязнаўчага матэрыялу ў патрыятычным выхаванні вучняў, краязнаўства на службе у настаўнікаў рускай і беларускай мовах, эстэтычнае выхаванне ў паходах па роднаму краю — і дзесяткі іншых распрацаваных настаўнікам-краязнаўцам Урбановічам таксама не састарэлі і сёння, бо іх смела можна прымяняць у школах, гімназіях і ліцэях. У 1965 годзе Міністэрства адукацыі БССР зацвердзіла праграму настаўніка з Валеўкі, якая называлася «Праграма літаратурна-краязнаўчых гурткоў для васьмігадовых і сярэдніх школ і пазашкольных дзіцячых устаноў». Праўда, гэта далёка не ўсё я пералічыў тое, што ім зроблена, напісана, апублікавана і знаходзіцца ў рукапісах. Чалавек, жывучы ў глыбінцы, дзеля беларускай справы працаваў даволі сур'ёзна і актыўна. Да яго звярталіся па дапамогу і параду навукоўцы, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, педагогі, архівісты і літаратуразнаўцы з усёй Беларусі, а таксама з Літвы, Польшчы, Украіны. Уладзімір Урбановіч вёў вялікую перапіску, тысячы пісем ад вялікіх людзей, на жаль, згубіліся, але і шмат захавалася ў беларускіх архівах і музеях, у прыватных сховішчах. Уладзімір Урбановіч сябраваў амаль з усімі дзеячамі беларускай культуры і пісьменнікамі. У яго доме і ў школе ў Валеўцы шмат разоў пабывалі Максім Танк, Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Генадзь Каханоўскі, Уладзімір Калеснік, Ігар Лучанок, Аляксей Карпюк, Барыс Сачанка, Анатоль Вярцінскі, Пятрусь Макаль, Фёдар Янкоўскі, Ян Скрыган, сваякі Якуба Коласа і Адама Міцкевіча і сотні іншых вядомых нам асобаў. Ён заўсёды знаёміў гасцей з Валеўкай, школьным музеем і вядома ж адвозіў іх на Свіцязь, дзе частаваў, дзе вяліся шчырыя гутаркі пра Беларусь, родную мову і культуру…

Сам Уладзімір Урбановіч нарадзіўся 2 жніўня 1921 года ў вёсцы Пудзіна на Лідчыне ў сялянскай сям'і. У 1932 годзе скончыў пяць класаў і працаваў на гаспадарцы, займаўся самаадукацыяй. У 1938 годзе экстэрнам здаў экзамен за сямігодку і ў 1939 годзе паступіў у Жыровіцкую польскую сельскагаспадарчую гімназію Слонімскага павета. Пры «саветах» зноў здаваў экзамены за 7 класаў і паступіў у Мінскі палітэхнікум. Падчас акупацыі скончыў настаўніцкія курсы ў Навагрудку, пасля якіх працаваў настаўнікам у пачатковых класах у Лідзе і ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. Пасля вайны завочна скончыў Лідскую педагагічную вучэльню і літаратурны факультэт Гродзенскага педінстытута. А калі скончыў педінстытут, то ўладкаваўся настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў Райцаўскую сярэднюю школу

Карэліцкага раёна, а з 1959 года — працаваў у Валеўскай сярэдняй школе Навагрудскага раёна.

За сваю педагагічную і краязнаўчую дзейнасць Уладзімір Урбановіч быў узнагароджаны рознымі граматамі і дыпломамі, а таксама значком «Выдатнік народнай асветы». Ён так пры жыцці і не атрымаў звання заслужаны работнік культуры ці заслужаны настаўнік Беларусі. І толькі пасля смерці (памёр 2 лютага 1999 года ў Валеўцы, дзе і пахаваны), яго пасмяротна занеслі ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна.

Некалькі лістоў да Уладзіміра Урбановіча вырашыў уключыць у сваю кнігу.

## Лісты да Уладзіміра Урбановіча

* * *

*16 лістапада 1955 года, Мінск*

Паважаны Уладзімір Аляксандравіч!

Я многа атрымаў тэлеграм і пісем з усяго Саюза з віншаваннямі ў сувязі з прысваеннем ганаровага звання народны артыст СССР, але такіх, як Ваша, на роднай мне мове, было нямнога. Паслаў Вам складзеную мною кнігу «Беларускія песні». Там ёсць адна балада («Што то за хлопец, што за дзяўчына»), якая вельмі пераклікаецца са «Свіцязянкай» Адама Міцкевіча*. Прасачыце, ці не знойдзеце гэтага тэксту і ў Вас. Песня паходзіць з Карэліцкага раёна. Хацелася мне вельмі завітаць да Вас, пагледзець на Свіцязь і ваколіцы, але без Вашай згоды не адважыўся, і дарогі не ведаю добра…

Будзеце ў Мінску — не мінайце.

З праўдзіваю пашанаю і любоўю —

*Ваш Рыгор Шырма**.*

* Адам Міцкевіч (1798–1855) — польскі паэт беларускага паходжання.

** Рыгор Шырма (1892–1978) — беларускі харавы дырыжор, фалькларыст, грамадскі і музычны дзеяч, публіцыст, літаратуразнавец.



* * *

*24 красавіка 1961 года, Мінск*

Паважаны Уладзімір Аляксандравіч!

Дарагія мае юныя сябры!

Пісьмо ваша атрымаў і рад бы вам дапамагчы, але непасрэднага апісання вёскі Нізок* і яе навакольнай прыроды ў маіх творах няма. Сёе-тое вы можаце знайсці ў рамане «Мядзведзічы». У гэтым творы пейзаж мае шмат агульнага з нізаўскімі мясцінамі, некаторыя ўрочышчы, палі, лясныя дзялянкі захавалі свае сапраўдныя назвы, а некаторыя з жыхароў вёскі паслужылі прататыпамі для вобразаў рамана.

Аднак раман пісаўся амаль трыццаць гадоў таму назад, і з таго часу шмат што змянілася. Балота, за якое мядзведзіцкія сяляне змагаліся з князем Радзівілам**, асушана, стары лес навакол Нізка высечаны і на яго месцы вырас малады і ўжо таксама вялікі. Большасць тых людзей, што ў той ці іншай меры паслужылі мне для стварэння вобразаў рамана, ужо няма на свеце. І сама вёска, жыхары якой цяпер складаюць адну з брыгад калгаса «Чырвоны кастрычнік», так змянілася, што я сам яе ледзь пазнаў, калі наведаў пасля доўгага перапынку.

Хаты, у якой я нарадзіўся, таксама няма. На другім баку вуліцы на гэтай сядзібе пабудавана другая хата, у якой жыве мая сястра-калгасніца.

Вось караценька некаторыя звесткі аб маёй роднай вёсцы.

Жадаю вам поспеху ў вучобе, працы і ў вашым краязнаўчым падарожжы.

*Кандрат Крапіва***.*

* Нізок — вёскі ў Уздзенскім раёне.

** Радзівілы — найбуйнейшы магнацкі род у Вялікім княстве Літоўскім.

*** Кандрат Крапіва (1896–1991) — народны пісьменнік Беларусі.

* * *

*29 снежня 1967 года, Мінск*

Паважаны Уладзімір Аляксандравіч!

Ваш артыкул пра падарожжа па коласаўскіх мясцінах уяўляе цікавасць. Хоць факты адносна прататыпаў трылогіі ўжо называліся ў друку, у нарысе яны дарэчы… Я лічу, што «Полымя»* зробіць добрую справу, надрукаваўшы Ваш артыкул.

*Рыгор Шкраба**.*

* * *

*1 студзеня 1971 года, Мінск*

Дарагога Уладзіміра Аляксандравіча сардэчна віншую з Новым годам. Жадаю ўсяго найлепшага ў жыцці.

З павагаю,

*Рыгор Шырма.*

* * *

*24 лістапада 1971 года, Вільнюс*

Паважаны і дарагі Калега!

Прашу прабачэння, што не адразу выканаў Вашу просьбу. Акрамя таго выканаў вельмі пасрэдна.

Прашу Вас пры перакладзе артыкула надаць тлумачэнні. Можна і папраўляць — усё на Ваш погляд.

Пра генеалогію паэта мала ведаю. Чытаў аб Рымвідах***, якія паходзілі недалёка з-пад Ліды. Болей нічога канкрэтнага не сустракаў.

---

* «Полымя» — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца з снежня 1922 года ў Мінску штомесяц на беларускай мове.

** Рыгор Шкраба (1919–1997) — беларускі крытык, літаратуразнавец.

*** Рымвіды — гаворка ідзе аб трох пакаленнях Міцкевічаў, прадзедам паэта быў Крыштоф-Рымвід Міцкевіч.



Рады, што Вы цвёрда стаіце на дабрачыннай пазіцыі краязнаўца. Жадаю поспехаў і здароўя.

Хачу толькі запытаць: можа што цікавае маеце ў сваёй бібліятэцы з гісторыі Вільнюскага ўніверсітэта. Хутка юбілей і я гэтым займаюся.

З павай,

*Ваш Ч. Кудаба*.*

*P. S.* Артыкул выслаў у рэдакцыю.

* * *

*16 лютага 1972 года, Мінск*

Дарагі Уладзімір Аляксандравіч!

У 1928 годзе ў Мінску я пазнаёміўся з Алесем Салагубам**. Было гэта ў Доме пісьменніка на Савецкай вуліцы. У знак нашай дружбы мы абмяняліся шалікамі. Я даў Алесю Феафілавічу шоўкавы фабрычны шалік, а ён мне даў просты шарсцяны, звязаны рукамі яго маці. У дзень нашага знаёмства мы разам сфатаграфаваліся. Нашы сустрэчы былі частымі. Алесь цікавіўся беларускай савецкай літаратурай, а я — літаратурай Заходняй Беларусі. У дзень нашага знаёмства я пазнаёміў Алеся з Петрусём Броўкам***. Усе мы тады былі маладымі, любілі жартаваць. Алесь пачынаў забывацца пра цяжкія часы зняволення ў польскіх турмах. Не раз давялося мне з Алесем Салагубам выступаць у рабочых клубах Мінска, чытаць свае вершы. Алесь быў сарамлівым хлопцам, варта было каму-небудзь з незнаёмых людзей загаварыць з ім, і ён адразу чырванеў і аглядаўся.

У Мінску, пасля таго, як Алесь Салагуб скончыў універсітэт, ён стаў дамаседам. Рэдка калі бываў за горадам. Гэта тлумачылася і тым, што ён не меў тут сваякоў, мала меў знаёмых. Са мною яму давялося некалькі разоў пабыць у маіх бацькоў. Нават у вясёлай кампаніі, калі хлопцы-літаратары крышку хмялелі, Алесь быў маўклівым. Яго хіліла на сон, пацеў і адпрашваўся пайсці адпачыць, паспаць. Відаць, у яго

---

* Чэслаў Кудаба (1932–1993) — беларускі і літоўскі географ-краязнавец і эколаг.

** Алесь Салагуб (1906–1934) — беларускі паэт, публіцыст.

*** Пятрусь Броўка (1905–1980) — народны паэт Беларусі.

ўжо было падношанае сэрца, здавалася, што іншы раз яму нехапала паветра. Такім застаўся ў маёй памяці Алесь Салагуб.

У 1936 годзе, у часы культу асобы, мы былі пазбаўлены волі. Алесь загінуў у 1937 годзе, а я прасядзеў звыш года ў турмах, а пасля аж да 14 лістапада 1944 года быў у лагеры. У 1946 годзе вярнуўся на Міншчыну, а з 1949 года зноў быў арыштаваны і ў 1950 годзе высланы ў Сібір. Вярнуўся адтуль я толькі ў 1956 годзе.

Я хачу напісаць нарыс пра Алеся Салагуба. Калі ў Вас знойдзуцца новыя матэрыялы пра яго, дык буду Вам удзячны за іх.

З павагай і добразычлівасцю,

*Станіслаў Шушкевіч*.*

* * *

*5 жніўня 1973 года, Гародня*

Дарагі Уладзімір Аляксандравіч!

Шчыра дзякую Вам і ўсім Вашым за аказаную мне сардэчную, цёплую, бацькоўскую гасціннасць, за ўсе клопаты, праяўлення да маёй асобы членамі Вашай сям'і ў час прыбывання ў Вашым доме.

Выконваю Вашу просьбу. Высылаю Вам кніжку «Pani Eliza», прыблізную схему населеных пунктаў, звязаных з жыццём і творчай дзейнасцю пісьменніцы Э.Ажэшкі**, і крыху матэрыялаў для абсталявання стэнда акадэміка Яф.Карскага*** для Ятрынскай пачатковай школы.

Уладзімір Аляксандравіч, калі будзеце ў Гродна, не забывайце наведаць старога сябру…

Шчырае прывітанне Вам ад землякоў, блізкіх і знаёмых. Жадаю творчых поспехаў у вашай пачэснай справе на ніве роднай культуры.

---

* Станіслаў Шушкевіч (1908–1991) — беларускі паэт, публіцыст.

** Эліза Ажэшка (1841–1910) — беларуская польскамоўная пісьменніца і грамадскі дзеяч.

*** Яфім Карскі (1860–1931) — беларускі літаратуразнавец, педагог і грамадскі дзеяч.



З сардэчным прывітаннем,

*Апанас Цыхун*.*

* * *

*16 студзеня 1976 года, Мінск*

Паважаны Уладзімір Аляксандравіч!

Дасылаем Вам планавую работу в.а. дацэнта кафедры беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта імя У.І.Леніна тав. Царанкова Л.А.** «Асновы методыкі выкладання беларускай літаратуры ў сярэдняй школе» і просім Вас даць аб ёй водзыў. Работа гэта — дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў універсітэтаў і педагагічных інстытутаў БССР.

Кафедры вельмі важна мець Ваш водзыў, як перадавога педагога-славесніка з вялікім стажам, чалавека, які мае друкаваныя працы, у тым ліку і кнігі па методыцы выкладання роднай літаратуры ў школе. У рэцэнзіі хацелася б атрымаць Вашы заўвагі і суджэнні аб рукапісу тав. Царанкова Л.А., як станоўчага, так і адмоўнага планаў.

Рэцэнзію просім напісаць у двух экзэмплярах, заверыць свой подпіс у дырэктара школы з пячаццю школы і разам з рукапісам выслаць у адрас Л. А. Царанкова.

Зараней удзячны Вам.

*Загадчыца кафедры дацэнт Вольга Казлова***.*

---

* Апанас Цыхун (1910–2005) — беларускі педагог, краязнавец, літаратар, заслужаны настаўнік Беларусі.

** Леанід Царанкоў (1912–1994) — беларускі фалькларыст, філолаг.

*** Вольга Казлова (1925–2009) — беларускі педагог, кандыдат філалагічных навук.

* * *

*1 жніўня 1979 года, Мінск*

Шаноўны Уладзімір Аляксандравіч!

Даруйце, што жадаю вам клопату, але хачу і Вас не абысці, каб пасля не охкаць і шкадаваць. Рэч вось у чым. На лета спаўняецца 100-годдзе Гальяша Леўчыка*. Ці часамі ў Вас, ці ў Вашым музеі няма якіх-небудзь матэрыялаў (вершы друкаваныя і рукапісныя і іншыя творы, успаміны каго-небудзь, фота і г. д.), што тычацца Леўчыкавай асобы.

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» павінен выйсці зборнічак твораў паэта, дык пакуль яшчэ туды можна было б што-нішто новае «уманціраваць». Буду вельмі ўдзячны, калі напішаце мне, і назавеце хоць бібліяграфічна, што Вы маеце або не маеце.

З пашанаю,

*Янка Саламевіч**.*

* * *

*20 студзеня 1985 года, Маладзечна*

Дарагі Уладзімір Аляксандравіч!

Рэдакцыя нашай энцыклапедыі даручыла мне напісаць пра Вас артыкул для новага выдання ЭліМБеЛ. Вядома, без Вашай дапамогі мне ніяк не абысціся.

Дык, калі ласка, выручайце. Структуру такога артыкула Вы ўяўляеце. Дзе нарадзіліся, што закончылі, калі пачалі друкавацца, што выдалі, калі пачалі ствараць музей, у якіх школах настаўнічалі, што ёсць напісанага па педагогіцы?.. Словам, чым больш, тым лепш. Вось тэрмін мне абмежавалі да 2 лютага 1985 года. Спадзяюся, што

* Гальяш Леўчык (1880–1944) — беларускі паэт, публіцыст, калекцыянер, мастак, музыкант.

** Янка Саламевіч (1938–2012) — беларускі літаратуразнавец, архівіст, энцыклапедыст, фальклярыст, кандыдат філалагічных навук.



не пакрыўдзяцца на мяне, калі я артыкул пра Вас дастаўлю на дзень-другі пазней. Але ж Вам позніцца не выпадае.

Вось такая прыемная навіна. Зрэшты, у свой час я настойваў, каб Вас уключылі ў энцыклапедыю. Дык мне і даручылі напісаць.

*P. S.* Не забудзьце, калі ўдзельнічалі ў вайне, то абавязкова адзначце.

Усяго Вам найлепшага, чакаю хуткага адказу.

*Ваш Генадзь Каханоўскі.**

* * *

*27 красавіка 1987 года, Вільня*

Дарагія Валодзя і Ганна**!

Пачну з «кошкі». Не прыпамінаю нават, каб я не адклікаўся на пісьмы, прывітанні. Праўда, бывае так, што даю адказ са спазненнем. Вось і цяпер прайшло больш месяца пакуль сабраўся даць адказ на тваё вялікае і вельмі змястоўнае пісьмо. Асноўная прычына не лянота, а клопаты і турботы, звязаныя з пярэбарамі на новую кватэру. Так што ніякая котка не прабягала і не можа прабегчы. Няўжо вы не ведаеце, што Цябе і Ганну я заўсёды цаніў і шанаваў, як добрых, сумленных педагогаў, людзей з пачуццём адказнасці за сваю работу. Гэта тыя якасці, за якія цяпер у нас ідзе барацьба.

Тваё пісьмо выклікала розныя пачуцці: радасць, задавальненне тым, што я атрымаў даволі падробную інфармацыю пра Валеўскія навіны***, асабліва школьныя, а таксама смутак, горыч ад таго, што ў цябе склаліся такія абставіны, аб якіх ты пішаш. Цяжка паверыць у гэта. І я не паверыў бы, каб не было фактаў. Я думаю, што гэта адрыжка, нейкія астанкі культаўскага перыяду.

Чытаў твае кніжкі, маю іх з сабою цяпер і магу смела сказаць, што ніякага нацыяналізму там няма. Ёсць пачуццё любові да роднага краю, да роднай культуры, традыцый, прыроды, пашаны да людзей

* Генадзь Каханоўскі (1936–1994) — беларускі гісторык, археолаг, краязнавец.

** Ганна Урбановіч — жонка Уладзіміра Урбановіча.

*** Маецца на ўвазе вёска Валеўка Навагрудскага раёна.

нашага краю. Дык хіба ж гэта дрэнна? Добра ведаю, што краязнаўства цяпер развіваецца, падтрымліваецца Міністэрствам асветы, культуры і другімі органамі ўлады. Гэта ярка відаць у Літоўскай рэспубліцы. Любоў да роднага краю дапамагае вырашыць важную дзяржаўную праблему — замацаванне кадраў, рабочых рук у сельскай гаспадарцы. Не менш важныя і другія аспекты краязнаўчай работы. Прыпамінаецца наш першы турыстычны паход па Навагрgaldчыне ў 1954 годзе, у якім ты быў са мной разам. Гэта было навінкай не толькі ў Карэліцкім, але і ў Навагрдскім раёнах. Гэта быў пачатак школьнага турызму. Прайшло больш за трыццаць гадоў, але і цяпер успамінаецца з прыемнасцю.

Не ведаю, праз якія акуляры тыя твае субяседнікі разглядалі твае кнігі. А можа яны і не чыталі, а хто-небудзь з зайздрасці даў ім адмоўную рэцэнзію. І гэта можа быць. Разумеецца, з гэтай закваскі, як кажуць, піва не зварыш, але нервы папсаваць можна. Спачуваю табе, ведаю, як цяжка ўсё гэта перажыць. Тут можна сказаць словамі Янкі Купалы*: «Чаго вам хочацца, панове, які вас выклікаў прымус?..». Згодзен поўнасцю з тваёй ацэнкай Ускова**, амаль 16 гадоў працаваў разам. Толькі правільна ў прыказцы сказана: каб добра пазнаць чалавека — пуд солі трэба разам з'есці. Здзіўляюся, што Бязмен стаў настаўнікам-метадыстам. Вось якая ўраджайная глеба ў Валеўцы — палавіна настаўнікаў — метадысты. Што ж, «бываюць чудеса».

Толькі чаму гэтыя метадысты пазбавілі школу яе лепшых традыцый, разгубілі тое, што збіралася гадамі?.. Разумееш, хвалююся, пачаў пісаць хутка і неразборліва.

А наконт дэндрарыя, пастарайся пагаварыць, калі не паможа — напісаць у «Настаўніцкую газету» ці ў другую якую. Падтрымліваю тваю думку даслаць рукапіс пра Адама Міцкевіча Янку Брылю***. Шкада, што няма Бондара****. Ён не дапусціў бы такога развалу. З ім можна

* Янка Купала (1880–1942) — народны паэт Беларусі, класік беларускай літаратуры.

** Ускоў Васіль (1930–2004) — былы настаўнік гісторыі Валеўскай СШ Навагрдскага раёна.

*** Янка Брыль (1917–2006) — народны пісьменнік Беларусі.

**** Васіль Бондар — дырэктар Валеўскай СШ Навагрдскага раёна ў 1959–1981 гадах.



было працаваць (значна лепш, чым са Скарабагацькам*), школу ён любіў, дбаў пра яе аўтарытэт, падтрымліваў заўсёды любую добрую справу (па турызму, па дэндрарыю, па музею і г. д.).

Цяпер пару слоў пра сябе. Ключы ад кватэры атрымаў, ужо тыдняў два начую там, а есці прыходжу да дачкі Светы. Барысаўна** пакуль на старым месцы. Здабылі і паставілі мэблю ў пакоях, але яшчэ не ўсю. Няма яшчэ абстаноўкі на кухні. Кватэра светлая, вокны на поўдзень, другі паверх (надакучыла сядзець на канапе, як у шпакоўні), усё ж бліжэй да зямлі. Канчай работу ў садзе-агародзе і прыязджайце з Ганнай на наваселле. Будзем рады сустрэць. Паведаміце, калі будзеце ехаць — прыеду на аўтобусную і сустрэну. Разам пагасцім і ў Светы. Яна жыве блізка ад нас — метраў 500 не больш. Бо мы сёлета, відаць, не зможам нідзе далёка паехаць. Пабудзем толькі пару дзён у Дзятлаве, на Свіцязі і ў Любчы. Такія ў нас планы.

Канчаю і магу сказаць — да хуткага пабачання, сустрэчы! Прывітанне ад усіх нашых — Барысаўны, Светы, Жэні і дзяцей, унукаў.

*Міхась Петрыкевіч****.*

* * *

*5 кастрычніка 1987 года, Вільня*

Дарагія мае Уладзімір і Ганна!

Чакаў, чакаў вашага прыезду, ды не дачакаўся. Думаў сам прыехаць на дзянёк у Валеўку, пабываць у Навагрдку, але таксама нічога не атрымалася. Аднак надзеі не трачу, калі будзе яшчэ нагода ды не падвядзе здароўе, думаю завітаць у Дзятлава, а сын Валера падкіне і ў Валеўку. Думаю таксама, што і вы зможаце прыехаць. Ганна ў школе, ёй цяжэй, а Валодзя — пенсіянер, свабодны чалавек.

* Васіль Скарабагацька — дырэктар Валеўскай СШ Навагрдскага раёна ў 1951–1959 гадах.

** Марыя Барысаўна Петрыкевіч (1923–2002) — жонка Міхася Петрыкевіча.

*** Міхась Петрыкевіч (1913–1999) — заслужаны настаўнік Беларусі, адзін з заснавальнікаў народнага музея Валеўскай СШ Навагрдскага раёна і заснавальнік Дзятлаўскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.

Не так даўно Янка Брыль прыслаў нумар газеты «Голас Радзімы» за 27 жніўня. У ёй надрукаваны артыкул «Пасадзіць дрэва, выхаваць чалавека». Пра Валеўскую школу і школьны дэндрарый, і музей. Брыль піша: « Пасылаю газету, якая, можа, іншым шляхам і не трапіць да цябе. Прыемна было пачытаць пра Валеўку, Валодзю і, перш за ўсё, пра цябе». Раблю выпіску з газеты: «Літаратурны раздзел музея стварыў Уладзімір Урбановіч. Як выкладчыку беларускай мовы і літаратуры, было яму гэта найбольш блізка…». Далей, пасля пералічэння некаторых звестак пра музей, аўтар піша: «Сам Уладзімір Урбановіч — краязнавец-даследчык. У вёсцы Пудзіна , адкуль ён родам, зрабіў больш за 400 фальклорных запісаў. Яго пяру належаць дзве кніжкі: «Шляхамі паэтаў і герояў» і «Па дарагіх мясцінах». У іх адлюстраваны тыя падарожжы, якія рабіў ён разам з вучнямі ў час летніх канікулаў… Настаўнік знаёміў дзяцей з іх Радзімай, з яе таямніцамі і багаццем, з яе славутымі мясцінамі і выдатнымі людзьмі, і тым самым выхоўваў вялікую любоў да яе».

Вось бачыш, як высока ацэньваюць тваю работу разумныя людзі, не тое, што тыя, з кім табе прыходзілася сутыкацца. Подпіс пад артыкулам: Дз.Чарапові́ч. Гэтае прозвішча мне нічога не гаворыць. Хто гэта можа быць? Табе больш вядома, таму што гэтая жанчына піша, што ты быў яе гідам у Валеўцы. А я думаю, што гэта можа быць Вольга Іпатава.* Трэцяга верасня яна была ў Вільні. На студыі Літоўскага тэлебачання запісала сваю гутарку са мною. Казала, што была ў Дзятлаве, што ў Валеўцы ты хацеў уцячы ад яе, але яна без просьбы зайшла ў тваю хату і прымусіла расказаць, і паказаць музей і парк. Сказала, што з Валеўскага і Дзятлаўскага матэрыялу і з нашай гутаркі тут у Вільні, павінна атрымацца тэлеперадача пад назвай «Пасадзіў чалавек дрэва». Так, што загаловак артыкула і перадачы амаль аднолькавыя. Я так падрабязна апісваю таму, што не ведаю, ці зможаш ты дастаць тую газету.

Шкада, што я забыўся запытаць, калі будзе перадача. Шкада, што я ў Вільні не змагу яе паглядзець. Некаторыя, праўда, глядзяць, але для гэтага патрэбна нейкая дэталь для антэны.

* Вольга Іпатава (1945) — беларуская пісьменніца.



Не ведаю, ці выпісваеш ты газету «Праўда». Там у нумары 263 за 20 верасня г. г. надрукаваны змест гутаркі карэспандэнта з Іванам Шамякіным*. Там ёсць цікавыя выказванні аб некаторых перакосах нацыянальнай палітыкі ў Беларусі. Раю пачытаць.

Пішы, што ў вас новага ў Валеўцы, Навагрудку. Як у школе ўводзіцца ў жыццё рэформа? Шчырае прывітанне перадаюць вам Марыя Барысаўна і Света. Будзьце здаровы! Усяго вам добрага.

*Міхась Петрыкевіч.*

* * *

*Дзень і месяц не пазначаны,1980 года, Вільнюс*

Паважаны Уладзімір Аляксандравіч!

Выпадкова даведалася, што Вы з’яўляецеся адным з прыхільнікаў творчасці Адама Міцкевіча. Таму звяртаюся да Вас з просьбай наконт папаўнення экспанатамі, нядаўна адкрытага музея-кватэры Адама Міцкевіча пры Вільнюскім універсітэце.

Экспанатаў у музеі пакуль няшмат: тры партрэты, два скульптурных партрэта і каля 30 кніг — ранніх выданняў паэта. Для нашага музея выдаткоўваюцца сродкі і мне б хацелася набыць у вас усё мажлівае: раннія выданні Міцкевіча, літаратуру пра яго, пераклады, партрэты, малюнкі — словам усё, што звязана з паэтам, яго сябрамі-філаматамі і яго каханай Марыляй Верашчака**.

З павагаю,

*загадчыца музея-кватэры Адама Міцкевіча*
*Вільнюскага ўніверсітэта Яніна Ліміновіч.*

* Іван Шамякін (1921–2004) — народны пісьменнік Беларусі.
** Марыля Верашчака (1799–1863) — шляхцянка, каханая Адама Міцкевіча.

* * *

*12 літага 1991 года, Гародня*

Вельмі паважаны спадар Урбановіч!

31 студзеня ў Гародні і раёне адбылося свята, прысвечанае 130-годдзю з дня нараджэння акадэміка Я.Ф.Карскага. На святце былі і яго нашчадкі. Даведаліся, што жыццё Карскага было таксама звязана з Вашымі мясцінамі, у тым ліку з вёскай Ятра недалёка ад Валеўкі.

Прашу Вас паведаміць, ці маеце Вы ў музеі матэрыялы, прысвечаныя жыццю і дзейнасці Карскага? Ці захаваліся ў Ятры царква і будынак народнага вучылішча? Ці маецца там ў мясцовай школе музей? І на каго можна там разлічваць ў справе ўвекавечвання імя Карскага на Наваградчыне? Чакаю Вашага адказу.

*Андрэй Майсяёнак*,*
*старшыня рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі,*
*сябра рады Беларускага краязнаўчага таварыства.*

*P. S.* Буду вельмі ўдзячны за інфармацыю пра маці.

* * *

*29 студзеня 1992 года, Любча*

Шаноўны Уладзімір Аляксандравіч!

Прачытаў Ваша пісьмо і падумаў, што мала яснасці магу ўнесці ў пытанне пра вызваленне з астрога Валянцціна Таўлая**. Але што ведаю, тое раскажу. Пра тое, што ён жыў і працаваў сакратаром Валковіцкай воласці ў часы нямецкай акупацыі, я сам даведаўся з успамінаў яго жонкі, а перад арыштам ён працаваў у Наваградскай БНС, якую ўзначальваў тады спадар Якуцэвіч. І, напэўна (гэта мая думка), калі Таўлай папаў у Лідзе ў лапы гестапа, Барыс Рагуля*** і Павел Якуцэвіч вырашылі яго ратаваць супольнымі сіламі. Як ніяк, але Таўлай быў нам знаёмы, як добры паэт, і шкада было, каб яго талент загінуў без пары.

* Андрэй Майсяёнак (1943) — доктар біялагічных навук, грамадскі дзеяч.

** Валянцін Таўлай (1914–1947) — беларускі паэт, літаратуразнавец.

*** Барыс Рагуля (1920–2005) — настаўнік, палітычны і вайсковы дзеяч, доктар медыцыны.



Вядома ж, ратаваць яго спадручней было Барысу, паколькі ў яго была большая магчымасць атрымаць транспарт у нямецкіх уладаў. Ён гэтую магчымасць выкарыстаў. Узяў у сваё распараджэнне некалькі машын, загадаў мне, Крамко Язэпу, Янку Прасняку і яшчэ некалькім хлопцам збірацца ў дарогу. Мэту паездкі не скрываў, а сказаў: «Паедзем ратаваць, вызваляць з рук Лідскага гестапа Валянціна Таўлая…». Гэтыя яго словы помню як сёння. Вядома ж, мы адчувалі сябе ў вялікай адказнасці за выкананне гэтай незвычайнай (на той час) місіі. Хаця мы разумелі, што з рук гестапа жывым мала хто выходзіў. Праўда, сваёй ролі ў выкананні гэтага задання мы не ўяўлялі. Перш за ўсё мы былі ўзброеныя аўтаматамі, аховай Барыса і яго нямецкіх спадарожнікаў, бо дарога да Ліды была небяспечнай, маглі наскочыць на міну, а то нарвацца на партызанскую засаду. Тым больш, што ў той час на Лідчыне швэндаліся яшчэ польскія АКоўцы.

У Ліду заехалі без прыгод, затрымаліся там перад будынкам Лідскага гестапа. Барыс са сваімі спадарожнымі немцамі зніклі ў тым змрочным будынку, а мы чакалі каля машын. Праз пэўны час Барыс вярнуўся і, праходзячы каля машын, сказаў: «Усё добра, заўтра яго выпусцяць».

На гэтым наша вызваленчая місія скончылася і мы паехалі дамоў у Наваградак. Вось і ўсё, што я магу Вам распавесці пра вызваленне Таўлая з рук Лідскага гестапа. Пра гэта я пісаць нікуды не збіраюся, а пра Барыса Рагулю, як добрага і гуманнага чалавека, я мог бы расказаць не мала, але перш чым сесці пісаць гэты ліст, я знайшоў у сябе два нумары наваградскай раённай газеты «Новае жыццё» за 1988 год. У нумары за 11 чэрвеня пад загалоўкам «Пярэварацень» нейкі журналіст Жалкоўскі* друкуе ўспаміны камандзіра атрада партызана В. Панчанкава, а за 6 жніўня — нейкі Кавалёў у матэрыяле «Успамінай «спадар» былое» столькі вылілі бруду на Барыса і, наогул, на рагуляўцаў, што недасведчаны чытач можа чорт ведае што пра іх падумаць. Але тады яны пісаць іначай не маглі. І цяпер я думаю, што мала знойдзецца адважных, каб правільна ацаніць падзеі таго часу.

* Аляксандр Жалкоўскі (1933–2011) — беларускі журналіст.

Ведаю Барыса з маленства, бо мы з адной вёскі Ачукевічы. Барыс вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. Бацька ягоны Зміцер таксама быў фельчарам і памёр у мястэчку Мір ад тыфусу пасля Першай сусветнай вайны. Рос Барыс сіратой. Служыў у Польскай арміі падхарунжым. У 1939 годзе ў польска-нямецкую вайну папаў да немцаў у палон. Пра гэты факт Вам больш змог бы расказаць Яцукевіч Лаўрэн (цесць Мазалеўскага Славы — дырэктара Свіцязянскага пансіяната), які доўга жыве ў сваіх зяця і дачкі. У 1940 годзе з палону ўцёк і працаваў настаўнікам фізкультуры ў Любчанскай сярэдняй школе. Тут яму і прычапілі ярлык нямецкага шпіёна. І пасля некалькіх месяцаў турмы ў Мінску, калі распачалася вайна, яму ўдалося ўцячы з эшалона падчас нямецкай бамбёжкі чыгуначнага палатна за Мінскам. Вярнуўся не чалавек, а шкілет, абцягнуты шкурай са слядамі жорсткіх катаванняў. Бачыў я гэта ўласнымі вачамі, калі ён набіраўся сіл на беразе роднага Нёмана. І нехта хацеў бы, каб ён ішоў служыць сваім катам. Каб не пачалася вайна —не мінуць бы яму Курапатаў. Праўда, смерць маці ад нямецкай бомбы лягла цяжкім цяжарам на яго сэрца, але гэта… непазбежныя ахвяры вайны ў якой загінула мноства нявінных цывільных людзей. У мяне часам паўстае такое пытанне. Чаму Наваградскі і Любчанскі раёны найменш пацярпелі ад нямецкіх карнікаў і партызанскіх рабаванняў? Ды таму, што ў абарону насельніцтва выступаў Барыс Рагуля са сваім швадронам, а пасля і батальёнам. Нікога яны не абрабавалі, нікога не спалілі, нікога не расстралялі. І ўсе гэтыя выдумкі несумленных журналістаў.

Аб высакароднасці Барыса могуць сведчыць часткова ўспаміны Яцука, які досыць станоўча апісаў паводзіны Барыса падчас яго наведвання на кватэры ў Навaградку з прапановай партызан перайсці са ўсёй камандай на іх бок. Яго мэтай была арганізацыя баяздольнай вайсковай адзінкі будучай беларускай арміі. І ён у душы вельмі шкадаваў, што дапамогу ў гэтай справе прыходзіцца прымаць ад фашысцкай Германіі. Ды толькі іншага шляху тады не было. Калі вакол арганізоўваліся ў вайсковыя злучэнні белыя палякі і чырвоныя бальшавікі, беларусам таксама трэба было прымаць у гэтым накірунку свае захады. Аднак, як заўсёды беларусы спазняліся са сваімі задумамі, хоць на гэты раз не па сваёй віне. Ведаў Барыс, што некаторыя яго



падначаленыя маюць сувязь з партызанамі, але па сваёй гуманнасці, ніякія меры супраць іх не прымаў. А гэта часам прыносіла вялікую шкоду яго дзейнасці.

Аб яго душэўнай дабраце яшчэ сведчыць такі факт. Калі наш батальён быў у Докшыцкім раёне ў 1944 годзе, у адной бязлюднай вёсцы аказаўся самотны хлопчык гадоў 12–13, адзінокі і беспрытульны. Барыс забраў яго да сябе, як належыць абмундзіраваў і сваімі бацькоўскімі адносінамі, так запаланіў хлопчыку душу, што той нікуды ад Барыса не адыходзіўся. Не ведаю, які далейшы лёс гэтага хлопчыка, нават не помню яго імя, бо я трапіў там у вайсковую Глыбоцкую бальніцу і потым мая сувязь з батальёнам і Барысам абарвалася. Пачалося хутка наступленне савецкіх войск, фронт пакаціўся на захад. Шпіталь эвакуіравалі, а я трапіў у Вільню, дзе знаходзіўся аж пакуль мяне ў 1945 годзе не арыштавалі і не пасадзілі ў мінскую «амерыканку». За мной зачыніліся дзверы на 10 гадоў ГУЛагу (Тайшэт і Магадан). Шмат пра што можна было б яшчэ напісаць, але для пачатку хопіць, бо, можа, Вам ужо і чытаць апрыкрала брэдні старога дзеда. Мне ўжо 76 гадоў.

Бывайце здаровы.

*Уладзімір Сіўко*.*

*P. S.* Праглядаючы часопіс «Беларусь» № 12 за 1991 год маю ўвагу прыцягнуў невялікі допіс пра нашых землякоў за мяжой пад загалоўкам «Балада пра заснавальніка «Полацка» у ЗША». Згадка пра Сяргея Карніловіча**, які 12–13-гадовым хлопчыкам з Докшыц, апынуўся ў ЗША. Яго гісторыя мне вельмі нагадала таго хлопчыка, што прытуліў Барыс Рагуля. Вельмі цікава, хацелася б даведацца пра яго лёс больш падрабязней. Раю пачытаць. Пашукайце той нумар.

---

* Сіўко Уладзімір (1916–2003) — беларускі вайсковы дзеяч, паэт, вязень ГУЛАГу.

** Сяргей Карніловіч (1929–1993) — дзеяч беларускай эміграцыі.

* * *

*1992 год, снежань, Маладзечна*

Даражэнькі Уладзімір Аляксандравіч!

Віншую Вас з Новым годам. Здароўя Вам і краязнаўчых поспехаў. Ці перадалі Вы ў выдавецтва «Полымя» Вашы краязнаўчыя нарысы пра Адама Міцкевіча і Вашы вандроўкі з дзецьмі па краю? Я гатоў Вас падтрымаць, што будзе ад мяне залежыць. Дайце гісторыю Валеўкі — раздзел. Я яшчэ раз быў на Свяцязі ў верасні , праязджаў міма Вашай хаты.

*Генадзь Каханоўскі.*

* * *

*15 красавіка 1993 года, Мінск*

Паважаны Уладзімір Аляксандравіч!

Паведамляю, што Ваш артыкул «Старажытнае пісьменства і кнігадрукаванне на Навагрудчыне», які быў некалі Вамі пасланы ў часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе» будзе надрукаваны сёлета ў «Беларускім гістарычным часопісе» № 2. Гэта новае навукова-метадычнае выданне, што пабачыла свет толькі ў 1993 годзе. Новы часопіс выходзіць штоквартальна.

Артыкул давялося паправіць і крыху скараціць. Удакладніў даты. Шкада, што Вы не напісалі, ці існуюць сёння вёскі Сенно, Гневічы і Струга.

З павагаю,

*рэдактар Сымон Барыс*.*

* Сымон Барыс (1937) — беларускі педагог, журналіст, фальклnetwork, гісторык.



* * *

*14 кастрычніка 1993 года, Гродна*

Шаноўны Уладзімір Аляксандравіч!

Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры з 1994 года пачынае выданне рэгіянальнага гістарычна-культурнага часопіса «Свіцязь». Часопіс мяркуецца выдаваць накладам да трох тысяч, чатыры разы ў год.

Часопіс «Свіцязь» будзе друкаваць на сваіх старонках матэрыялы па гісторыі і культуры Гродзеншчыны, а таксама этнаграфічна блізкіх беларускіх абшараў: Усходняй Беласточчыны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Калініградскай вобласці.

Мы ведаем Вас, шаноўны Уладзімір Аляксандравіч, як цікавага і глыбокага знаўцу гісторыі і культуры рэгёна і шчыра запрашаем супрацоўнічаць у часопісе. Будзем удзячны, калі Вы прышлеце пісьмова свае меркаванні адносна нашай прапановы, зместу і асноўных накірункаў дзейнасці часопіса.

З павагай,

*старшыня праўлення прафесар Сяргей Габрусевіч*.*

* * *

*21 лістапада 1993 года, Мінск*

Паважаны Уладзімір Аляксандравіч!

Атрымаў апісанне вяселля, зробленае Вамі. Будзе захоўвацца ў архіве нашага Інстытута. Паспрабую таксама апублікаваць у хрэстаматыі па фальклору для вышэйшых навучальных устаноў. На жаль, ганарар за публікацыю не выплачваюць.

Апісанне добрае, я раблю толькі нязначныя праўкі для публікавання і скарачаю частку тэкстаў, асабліва фрывольных.

Дзякую вам за каштоўны матэрыял. Спадзяюся, што ўбачыце сваё імя ў хрэстаматыі (там будзе адзначана «Запіс У. А. Урбановіча).

* Сяргей Габрусевіч (1936–2013) — беларускі грамадскі дзеяч, кандыдат філасофскіх навук, прафесар.

Жадаю Вам новых поспехаў у збіранні фальклору і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.

З павагай,

*Анатоль Фядосік**.

* * *

*26 сакавіка 1994 года, Мінск*

Дарагі Уладзімір Аляксандравіч!

Учора апоўдні атрымаў Ваша пісьмо, адразу патэлефанаваў Данілу Канстанцінавічу**, а ён пад вечар патэлефанаваў мне так: музей Якуба Коласа*** звяртаўся да старшыні рэспубліканскага камітэта па ахове прыроды Анатоля Максімавіча Дарафеева****, і той растлумачыў музею сутнасць справы. Дуб Даніла дайшоў да такога старэчага стану, што стаў пагрозай для людзей. Ужо было адно трагічнае здарэнне — забіты дзве дзяўчыны. Лёс дуба вырашала адпаведная камісія. А жалуды ягоныя пасаджаны — як нашчадкі…

Вось так. Пішу Вам і згадваецца таполя каля музея Янкі Купалы, якую паваліў вецер, дубы Міцкевіча ў Шчорсах і ў Варончы. Час робіць сваё…

Жадаю Вам усяго добрага!

*Янка Брыль.*

---

* Анатоль Фядосік (1926–2005) — доктар філалагічных навук, прафесар.

** Даніла Міцкевіч (1914–1996) — заслужаны дзеяч культуры Беларусі, старэйшы сын Якуба Коласа.

*** Якуб Колас (1882–1956) — народны пісьменнік Беларусі, класік беларускай літаратуры.

**** Анатоль Дарафееў (1941–2010) — беларускі вучоны арнітолаг, грамадскі дзеяч, кандыдат біялагічных навук, прафесар.



* * *

*20 снежня 1996 года, Мінск*

Дарагі Уладзімір Аляксандравіч!

І вас з Новым годам! І Вам найлепшыя пажаданні, перш за ўсё — добрага здароўя, дый дома, нікуды далёка не ездзячы.

Так і думалася, што Вы або не атрымалі майго вясковага пісьма, або дрэнна сябе адчуваеце. Што з Вамі? Буду рад, калі напішаце пару слоў, тым больш дасць Бог пра тое, што належна паздаравелі і адчуваеце сябе значна святлей, без таго песімізму, які ў Вашым пісьме засмучае мяне, бо я прывык і бачыць, і ўяўляць Вас заўсёды ўраўнаважаным, упэўненым, як бы цяжка ды сумна ў жыцці не бывала. Не хачу выглядаць перад Вамі «бодрячком», які другіх пацяшае, а сам паскавытвае ўпотай ад нашай вертыкальнай рэчаіснасці. Цяжка, вядома, бывае і мне, як усім нам, аднак жа неяк трэба трымацца і верыць, што ёсць жа Бог і над намі. Трохі працую, удзельнічаю ў грамадскім жыцці, па звычаю многа чытаю, перазвоньваюся з сябрамі, якіх усё менш і менш. Нічога не зробіш — старасць. Шкада толькі, што яна прыйшлася на такі шалёны час…

Пайшла ў набор мая новая кніга, можа, як-небудзь і выйдзе, хоць і цяжка сёння трымацца ў нейкай упэўненасці.

Міша Петрыкевіч пісаў мне ў самым пачатку года. Неяк бачыўся на кангрэсе 18.Х. з яго сынам, казаў, што «бацька трымаецца, нават актыўна».

З жонкай Калесніка* падрыхтавалі яго выбранае ў трох тамах, яно ляжыць у выдавецтве без руху, а мы бадзёра займаемся яго ўспамінамі, якіх сабралася старонак на 600, а то і больш машынапісу.

Яшчэ раз — усяго добрага!

*Янка Брыль.*

---

* Уладзімір Калеснік (1922–1994) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец.

## Як катавалі беларусаў…

Даследуючы творчасць заходнебеларускіх літаратараў, у прыватнасці малавядомага паэта Нікіфара Жальбы (Аляксандра Бяленкі, 1898–1991), знайшоў у яго хрэстаматыйныя радкі, якія былі напісаны паэтам і апублікаваны ў 1937 годзе ў віленскім часопісе «Шлях моладзі». Дзятлаўскі паэт тады пісаў:

Хай цвёрдую ў сэрцы надзею
Нясуць перамогі над злом.
Нас выбіць ніхто не здалее
Турмою, жалезам, агнём!..

Паэт найперш меў рацыю ў тым, што беларусаў у XX стагоддзі знішчалі і турмою, і жалезам, і агнём. Асабліва моцна, жорстка і страшна катавалі ў XX стагоддзі беларускіх палітыкаў, літаратараў, святароў, людзей культуры і навукі.

Актыўны дзеяч у Заходняй Беларусі, арганізатар гурткоў ТБШ у Слонімскім павеце, адказны рэдактар беларускай газеты «Наша праўда», удзельнік Другой сусветнай вайны, педагог, вязень польскіх і савецкіх лагераў Серафім Татарын (1903–1988) пры жыцці часта ўспамінаў, як у 1936 годзе, за тыдзень да вяселля, яго палякі арыштавалі трэці раз. Арыштавалі і пасадзілі ў Картуз-Бярозаўскі канцлагер, дзе рэжым быў надзвычай жорсткі. «Аднойчы, — часта ўспамінаў Серафім Лук’янавіч, — упрэглі мяне з двума палітзняволенымі замест коней у барану. Шляя, якую адзелі на нас, была з дроту, які балюча ўпіваўся ў цела. Пот, слёзы крыўды і нянавісці засцілалі вочы…». Але Серафім Татарын выжыў, хаця потым прайшоў і сталінскія лагеры.

У 1920-х гадах на Слонімшчыне жылі паэты і грамадскія актывісты Леанід Клён (Леанід Бялькевіч, 1910–1931) і Уладзімір Бялько (1911–1933). Хлопцы выдавалі розныя беларускія пракламацыі, патрабавалі беларускіх школаў, што не падабалася польскай уладзе, пісалі вершы. Спачатку арыштавалі Леаніда Клёна, яго прывезлі ў Міжэвіцкі пастарунак паліцыі, а потым у Слонімскую дэфензіву. Там юнака моцна катавалі. Паліцыянты стараліся біць Леаніда так, каб яму моцна балела і нідзе не было відаць знакаў катаванняў. Яму клалі на грудзі дошку і па дошцы білі цяжкай жалезнай гірай. Вязень



кашляў крывёю, а вонкавых прыкметаў пабояў не было бачна. А пасля выпусцілі дамоў, дзе ён хутка памёр.

Пазней дэфензіўшчыкі так зрабілі і з другім слонімскім юнаком-змагаром за беларускасць Уладзімірам Бялько (1911–1933). Ён выдаваў падпольную газету «Піянер», пісаў вершы. Юнака з вёскі Мялькавічы таксама катавалі падобным чынам у турме, а потым адправілі дамоў, дзе і ён хутка і памёр.

У 1920 годзе ў польскай турме сядзеў беларускі празаік і літаратуразнавец Адам Бабарэка (1899–1938). У 1920-х гадах у БССР ён быў адным з арганізатараў літаратурных аб’яднанняў «Маладняк» і «Узвышша». Аднойчы ў лазні яго сябра па пяру Максім Лужанін убачыў на спіне Адама выразаную зорку. «Гэта мяне так катавалі ў польскай турме», — сказаў Адам.

А вось са сталінскіх лагераў Адам Бабарэка вярнуцца не змог. Ён памёр у лагернай бальніцы ў кастрычніку 1938 года.

Вялікдзень 1946 года беларускі святар Серафім Жыровіцкі (Раман Шахмуць, 1901–1946) сустрэў у сталінскіх лагерах вітаннем сваіх братоў па лагеры: «Хрыстос Уваскрос!..» — «Сапраўды ўваскрос!» — адказвалі зэкі. Пачуўшы гэтыя святыя словы, лагернае начальства пачало лютаваць. Яно схапіла Рамана Шахмуця і кінула яго ў карцар, дзе знаходзілася па пояс ледзяная вада. А потым прывязалі рукі і ногі да двух грузавікоў, якія раз’ехаліся ў розныя бакі, разарваўшы цела святара папалам. Так загінуў архімандрыт Серафім Жыровіцкі ў сакавіка 1946 года.

Аднаго з ідэолагаў і заснавальнікаў беларускага хрысціянскага руху XX стагоддзя, тэарэтыка і практыка беларускага ўніяцтва Фабіяна Абрантовіча (1884–1946) супрацоўнікі НКУС катавалі вельмі страшна. Архімандрыта абвінавачвалі ў шпіянажы на карысць Японіі. Язэп Германовіч пісаў, што да Фабіяна Абрантовіча бальшавікі прымянялі найвышэйшыя «нумары сваёй інквізіцыі»: заганялі іголкі пад пазногці, улівалі ваду ў лёгкія. Другі сведка Я. Бяляўскі прыгадваў, што Фабіяна Абрантовіча пастаянна катавалі, ён быў у непрытомнасці. Яму не дазвалялі спаць і адпачываць днём — з 9 гадзін вечара да 5 гадзін вялі допыты. Святара ў камеру кідалі, як які мяшок. Білі гумовымі дубінамі, ставілі на яго табурэткі і скакалі. Твар святара быў непазнавальны, вопратка была парваная, а барада — уся ў крыві.

Звесткі пра нечалавечыя адносіны да беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, гісторыка і каталіцкага святара Адама Станкевіча (1892–1949) вынес на волю адзін з яго сулагернікаў. Адама Станкевіча проста задушылі, а каб на сто працэнтаў упэўніцца, што ён нежывы, і каб яго не пазналі іншыя, — твар разбілі кувалдай. Пахаваны айцец Адам у Тайшэцкім раёне Іркуцкай вобласці (Расія).

Яшчэ адзін беларускі каталіцкі святар, душпастыр і педагог Андрэй Цікота (1891–1852) беспадстаўна быў абвінавачаны за шпіянаж на карысць Японіі і Ватыкану. З чэрвеня 1951 года ён адбываў пакаранне ў Тайшэце. Увесь гэты час святар быў цяжка хворы, а перад смерцю, паводле ўспамінаў іншых зняволеных, яго поўнасцю пазбавілі медыцынскай дапамогі.

Праваслаўны святар, царкоўны дзеяч, мітрапаліт Мельхіседэк (Міхаіл Паеўскі, 1878–1931) таксама зведаў сібірскія маразы. Ён, хворы на сухоты, карміў свіней і выкідаў з хлявоў гной. І загадкава, раптоўна памёр падчас службы ў маскоўскім Дарагамілаўскім саборы.

Трагічна ў сталінскіх лагерах расправіліся з беларускім драматургам і паэтам Васілём Шашалевічам (1897–1941). У лагерах для аматарскага тэатра ён напісаў п'есу на тэму лагернага жыцця, пастаўленую зняволенымі ў сталовай. Змест п'есы не спадабаўся лагернаму кіраўніцтву і яе аўтара, хворага на сухоты, адправілі на лесапавал, дзе ён праз непрацаздольнасць быў улікоўцам. Там на Васіля Шашалевіча наўмысна спусцілі бярозу, якая прыціснула яго да вогнішча. Пасля распілу дрэва, моцна абгарэлага і пакалечанага, Васіля Шашалевіча перавезлі ў зону. Засталіся звесткі, што ў пісьменніка аж выцеклі вочы… Памёр ён у санітарнай часці.

Пасля некалькіх візітаў на допыты ў НКУС псіхічна захварэў таленавіты паэт Віктар Казлоўскі (1905–1975). Нават санітары ў псіхіятрычнай лякарні здаваліся яму чэкістамі. Манія праследу не пакідала яго да канца жыцця. Пасля 1936 года ён не напісаў ніводнага радка, хаця ў 1932 годзе выдаў два зборнікі цудоўных вершаў «Слова аб юнай краіне» і «Музыка працы», а таксама выдатную паэму «Рахіль».

Пра смерць грамадскага дзеяча і паэта, аўтара гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Макара Краўцова (1891–1939) , як піша гісторык Уладзімір Арлоў, даведаліся яго землякі з вёскі Баброўня Гарадзенскага раёна ад аднаго чалавека. Гэты чалавек неяк завітаў да землякоў Краўцова і расказаў, што разам з ім сядзеў у турме ў Беластоку. Ён распавёў вяскоўцам, што Макара страшна катавалі на допытах і гэтых катаванняў ён не вытрымаў.



Некалькі разоў арыштоўваўся беларускі прафесар кінамастацтва, паэт і крытык Паўлюк Шукайла (1904–1939) органамі НКУС. Яго моцна і здзекліва білі, а потым выпусцілі на волю ўжо інвалідам са зламаным хрыбетнікам. Трэці раз арыштавалі, як бамжа, і расстралялі.

Трагічна скончылася жыццё і паэта Уладзіміра Хадыкі (1905–1942). У адным з лагераў у каменяломні, дзе ён працаваў як катаржанін, яго прыдушыла каменная глыба…

Гэты спіс закатаваных беларусаў і тых, каго катавалі ў XX стагоддзі, можна працягваць бясконца. Прыйдзе час і мы даведаемся пра многіх катаў нашага народа. А сёння пакуль толькі прыгадваюцца радкі Уладзіміра Жылкі:

І туга мая — з ветрам у полі,
Мая смага — гаючай крыніцы:
Няхай будзе і праўда, і воля,
Твая воля на роднай зямліцы!

## Ён жыць не ўмеў без дарог

### *Алесь Пісьмянкоў на старонках «Магілёўскай праўды», 1970-я гады*

У савецкі час надрукавацца на старонках абласной ці рэспубліканскай газеты — гэта было для пачаткоўца-літаратара вялікай падзеяй. Бо не так шмат тады было выданняў, каб вынесці на суд чытачоў свае, напрыклад, юнацкія вершы. Найперш, вершы павінны былі напісаны на ўзроўні, каб іх заўважыў нехта з вопытных паэтаў, станоўча іх ацаніў і ўбачыў у юнаку ці дзяўчыне талент, які, сапраўды, неабходна падтрымаць. Не заўважыць талент Алеся Пісьмянкова ў тыя ўжо далёкія 1970-я гады было проста немагчыма. Ён пачаў пісаць і друкавацца са школы ў «Бярозцы», «Піянер Беларусі», у сваёй роднай касцюковіцкай раённай газеце «Сцяг камунізму» (раёнак з «камунізмамі» тады выдавалася шмат).



*Віктар Стрыжак, Уладзімір Марук і Алесь Пісьмянкоў, 1970-я гады*

Пасля школы Алеся Пісьмянкова ўзялі на працу ў раёнку. Ён пачаў асвойваць першыя азы раённай журналістыкі. Адначасова рыхтаваўся для паступлення на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Шмат пісаў вершаў. А 21 снежня 1974 года абласная газета «Магілёўская праўда» апублікавала першыя вершы юнага паэта з вёскі Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна. Гэта была шчырая, светлая падборка з 7 вершаў. Разам з вершамі абласная газета змясціла здымак Алеся і невялікую прадмоўка да іх — «Будзьце знаёмы: Алесь Пісьмянкоў». Прадмову пісаў паэт Аляксей Пысін, хаця яго прозвішча пад тэкстам не стаіць. Але, менавіта тады Аляксей Пысін кіраваў літаб'яднаннем пры «Магілёўскай праўдзе» і штомесяц рыхтаваў літаратурныя выпускі «Прыдняпроўе». У прадмове паведамлялася: «Вершы Алеся Пісьмянкова вызначаюцца шчырасцю і юнацкай непасрэднасцю. У паэтычных радках, якія з'яўляюцца першай спробай пяра, шмат святла і дабрыні, яны прасякнуты любоўю да людзей і роднага краю. Знаёмячыся з вершамі Алеся Пісьмянкова, жадаем маладому аўтару добрага шляху».

Сярод першых паэтычных радкоў на старонках абласной газеты, адразу запомнілася гэтае чатырохрадкоўе:

Ты кажаш добра шчасце знаеш,
Жывеш без ветраў, без дарог…
А я спакою не жадаю,
Я жыць не ўмею без дарог.



Найлепшай дарогай Алеся Пісьмянкова была дарога дадому ў родныя Касцюковічы, якой ён прысвяціў шмат сваіх паэтычных твораў, асабліва ў юнацкія гады. У 1975 годзе «Магілёўская праўда» вельмі часта друкуе вершы паэта з Касцюковіцкага раёна. У траўні з'яўляюцца яго вершы «Вясна аблашчыла бярозы…», «У мінулага зноў я ў палоне…», «Казала маці, што нярэдка…», «Вечар помніцца весні…». Публікуюцца яго творы ў жніўні, верасні, кастрычніку. Верш «У вагоне» з'яўляецца нібы пацвярджэннем таго, што паэт, сапраўды, жыць не ўмеў без дарог, скуль яго заўсёды цягнула ў родную вёску:

Хачу заснуць. Ніяк не спіцца.
Фантанам б'е у скроні кроў:
Агонь рубінавы — суніцы
Вязуць украінкі дамоў.
Прыўзняўся мой сусед заспаны,
І ўжо ні следу ад тугі.
Жанчына ахнула з раманам:
— Якія тонкія духі!
А мне здалося нечакана, —
Перахапіла нават дых, —
Што я ля сонечнай паляны
На нашых сцежках баравых.

Плённым для маладога паэта быў 1976 год. Ён ужо вучыўся ва ўніверсітэце, але прыязджаў дамоў, дасылаў свае вершы ў газету. 29 студзеня на старонцы «Магілёўскай праўды» з'яўляецца яго вядомы верш «Тупаціць па вёсцы ранак…», прысвечаны малодшаму брату Міколу. Гэты верш увайшоў і ў ягоны першы паэтычны зборнік «Белы камень» (Мінск, 1983).

Пяць вершаў друкуюцца ў траўні. Адзін з іх называецца «Раніца». Добры верш, але чамусьці аўтар яго не ўключыў у свае першыя паэтычныя зборнікі. А верш гучыць так:

Цішыня. Цішыня анямелая,
Нават снег пад нагой не рыпіць.
Як снягурка пад коўдраю белаю
Касцюкоўшчына родная спіць…
Спі. Твой сон не дазволю парушыць,

Даглядай свае светлыя сны.
Ціха-ціха сінічка варушыць
Заінелыя бровы сасны.

Вершы Алеся Пісьмянковы багатыя на белы колер. Наогул, гэта асобная тэма «Белы колер у паэзіі Пісьмянкова». І першы зборнік «Белы камень» «пафарбаваны» беллю, чысцінёй, святлом: «ты вынесла белыя косы і чысты пагляд», «пагодліва й марозна у роднай старане, заснежаныя сосны і музыка саней», «святлеюць пад сонцам сады…» і г. д. Гэта чысціня і святло прыгожа асвятлялі яго юнацкія вершы.

Чатырохрадкоўе «Эцюд» было апублікавана ў «Магілёўскай праўдзе» 30 чэрвеня 1976 года:

На ганкі выйду заінелыя,
Замру, як жаўручок малы:
Нібы маланак пасмы белыя,
Бяроз імклівыя ствалы.

У 1976 годзе абласная газета яшчэ апублікавала некалькі вершаў паэта. Многія з іх чамусьці так і не ўвайшлі ў ягоныя паэтычныя зборнікі, хаця вершы заслугоўваюць увагу, вельмі пяшчотныя, лірычныя, якія канцэнтруюць у сабе юнацкую глыбакадумнасць, разважлівасць, неардынарнасць у падыходзе да праяў жыцця, святасці асобы і вернасці караням сваёй Айчыны. Шмат вершаў пра каханне, якія спалучаюць вобразы каханай з вобразамі сваёй маленькай радзімы. 16 верасня 1976 года газета апублікавала яшчэ тры вершы свайго земляка. Сярод іх быў і гэты:

Як пад небам, небам сінім,
Па світальнаму слядку.
Ранкам крочыла дзяўчына
Па халодную ваду.
Я з акна глядзеў употай:
Прыгажосць майго сяла
Міма хаты, міма плота
Белым лебедзем плыла.



У 1977 годзе «Магілёўская праўда» надрукавала толькі два вершы Алеся Пісьмянкова. У іх, як і ў ранейшых творах, апяваецца вернасць Радзіме, хараство роднай прыроды, чысціня кахання. Для творчай манеры Алеся Пісьмянкова былі характэрныя прачулы лірызм, непасрэднасць і шчырасць паэтычнай інтанацыі. Тады ён ужо быў студэнтам БДУ, жыў у Мінску і яго творы актыўна друкаваліся на старонках іншых рэспубліканскіх газет і часопісаў.

Даўно пара сабраць усе раннія вершы гэтага таленавітага паэта, у тым ліку і з «Магілёўскай праўды», і выдаць асобнай кніжкай. Яны вартыя нашага часу, ды і губляць паэтычную спадчыну паэта нельга, а, наадварот, па крупінцы збіраць па старых выданнях і архівах.

## Мой зямляк Алег Лойка

Мне здаецца, што мой зямляк доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук пісьменнік Алег Лойка (1931–2008) меў вялікае шчасце, што нарадзіўся ў Слоніме на беразе ракі Шчара. Пра свой родны горад і пра Шчару ён напісаў тысячы радкоў:

І я рады, што зразумеў:
З гэтай радасцю — не таіцца,
Што я шчасце вялікае меў
Па-над Шчараю нарадзіцца!..

Упершыню са сваім знакамітым земляком я сустрэўся ў Мінску на філфаку Белдзяржуніверсітэта ў 1980 годзе. Я, як і многія мае аднакурснікі, запісаліся да яго ў літаратурнае аб’яднанне «Узлёт». Не часта адбываліся пасяджэнні літаб’яднання, але калі яны былі, то праходзілі даволі цікава, весела, актыўна. І Алег Антонавіч нас адразу запамінаў, ведаў і шанаваў.

Да мяне старастам літаб’яднання была паэтка-студэнтка Ала Канапелька. А потым, калі Ала скончыла філфак, Алег Лойка прызначыў мяне. Хлопцы нават жартавалі: «Слонімцы літаратуру хочуць узяць пад свой кантроль». Іншыя называлі мяне вядомым лойкіным радком «Юнак быў з-пад Слоніма родам…». Тым не менш, ніхто за гэта ў крыўдзе не быў. Літаб’яднанне актыўна працавала, а ў 1985 годзе



*Анатоль Кулагін, Уладзімір Караткевіч, Алег Лойка ў Слоніме, 1980-я гады*

«узлётаўцы» выдалі свой чарговы паэтычны зборнік «Вусны».

Быў 1984 год. На філфаку сустрэў мяне Алег Антонавіч і кажа: «На наступным тыдні будзе пасяджэнне «Узлёту», то напішы аб'яўку і вывесі на другім паверсе факультэта(мы тады вучыліся на Чырвонаармейскай вуліцы, 6). І я «выканаў» просьбу прафесара. Напісаў: «У такі дзень і час адбудзецца пасяджэння літаратурнага аб'яднання «Узлёт». Запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску».

Вечарам да мяне ў інтэрнацкі пакой прыбягае вахцёр і кажа, што прафесар Лойка тэлефануе і хоча тэрмінова са мной пагутарыць. Я бягу на першы паверх, падымаю трубку і чую ўсхваляваны голас Алега Антонавіча: «Сяргей, калі ты пісаў гэтую аб'яву, чым ты думаў — галавой ці іншым месцам?» — «Галавой!» — адказваю. «Не думаю, што галавой», — сказаў прафесар і паклаў трубку. Нічога не зразумеўшы, я пайшоў у свой пакой. Толькі потым я даведаўся, што Алега Антонавіча па змесце аб'явы выклікалі ў рэктарат і зрабілі заўвагу. А ён папярэдзіў мяне. Бо ў тыя 1980-я гады радок «запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску» «пах» нацыяналізмам. У апошнія гады жыцця, калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я яму прыгадаў гэты студэнцкі факт. Алег Антонавіч сказаў: «Далібог, Сяргей, не памятаю…».

У 1982 годзе прафесар Лойка выдаў у Маскве ў серыі «ЖЗЛ» кнігу «Янка Купала». Гэта была першая кніга напісаная беларусам пра беларуса і выдадзеная ў вядомай расійскай серыі, якую заснаваў Максім Горкі яшчэ ў 1933 годзе. Пасля выхаду кнігі, у актавай зале філфака БДУ адбылася яе прэзентацыя. Зала была запоўнена студэнтамі і выкладчыкамі. Прафесар Сцяпан Александровіч выступіў з вострай крытыкай кнігі, усе астатнія выступоўцы яе хвалілі і віншавалі Алега Антонавіча з творчай удачай. Пазней я запытаўся ў свайго земляка: а



чаму ваш сябра і калега так крытычна аднёсся да выдання кнігі? Алег Лойка адказаў: «Сцяпан Хусейнавіч Александровіч хацеў у Маскве выдаць адначасова кнігу і пра Якуба Коласа. Але Маскве тэкст той кнігі не спадабаўся. Вось ён і зазлаваў». Прадмову да кнігі Алега Лойкі напісаў Народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Прадмова была невялікая, але важкая. У ёй Іван Пятровіч адзначыў, што «кніга ёсць, — гістарычна дакладная, праўдзівая, шчырая».

Супраць выдання кнігі Алега Лойкі пра Янку Купалу ў Маскве была і пляменніца Янкі Купалы Ядвіга Юліянаўна Раманоўская. Па словах Алега Лойкі, у 1981 годзе яна паехала ў Маскву, завітала ў выдавецтва «Молодая гвардия» і прасіла, каб не выдавалі кнігу Алега Лойкі пра Янку Купалу. Але кніга выйшла. Наклад яе тады быў 150 тысяч экземпляраў. Тым не менш, купіць у Беларусі кнігу было немагчыма. Толькі праз 16 гадоў Алег Лойка мне яе падпісаў у Слоніме:



*Літаб'яднанне Узлёт Белдзяржуніверсітэта. На першым плане справа Алег Лойка, 1981 г.*

«Майму земляку і філфакаўцу Сяргею Чыгрыну, што Купалаўскімі сцежкамі крочыць. Поспехаў і шчасця! Алег Лойка, 1998 г.».

Калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я вельмі часта яго наведваў. З ім можна было гутарыць бясконца, гутарыць на ўсе тэмы. Мне здаецца, што побач з Алегам Антонавічам я скончыў два філалагічных факультэта. Неяк я спытаў у яго: а які ганарар вы атрымалі за маскоўскае выданне кнігі пра Янку Купалу? Алег Антонавіч сказаў: «Сорак тысяч савецкіх рублёў». О, гэта былі вялікія грошы на той час! Калі груба іх перавесці ў даляры, то атрымаецца — больш за сорак тысяч амерыканскіх даляраў. «Я быў тады самым багатым беларускім пісьменнікам. Грошай нікому не шкадаваў: даваў ці пазычаў пісьменнікам, сябрам…», — прызнаваўся Алег Антонавіч.

У Слоніме Алегу Лойку жылося цяжка, але пісалася лёгка. Хвароба яго даймала. Але, калі я да яго прыязджаў, — ён радаваўся, ажываў, усміхаўся. Алег Антонавіч адказваў на ўсе мае пытанні. Найбольш я ў яго пытаўся пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Гэта з яго вуснаў я даведаўся, што Янка Купала першы заўважыў і ацаніў талент Канстанцыі Буйло. Калі Купала быў рэдактарам «Нашай Нівы», да яго ў кабінет часта заходзіла Канстанцыя. Дарэчы, яна была тры разы замужам, па пашпарту — значна маладзейшая, бо мяняла гады. Купала быў у яе закаханы і нават паэтку цалаваў. У 1914 годзе ў друкарні Марціна Кухты выйшаў яе першы паэтычны зборнік «Курганная кветка», адрэдагаваны Янкам Купалам.

Алег Антонавіч пра Купалу і Коласа мог распавядаць гадзінамі. Ён казаў, што Янка Купала і Якуб Колас былі добрымі сябрамі. Хаця паміж імі здаралася рознае. Жонка Якуба Коласа — Марыя Дзмітрыеўна была даволі багатай жанчынай, ідэальнай, інтэлігентнай мяшчанкай, вельмі выхаванай, хатняй, адданай мужу. Яна кахала Якуба Коласа. І Якуб Колас яе кахаў. Але падчас вайны, калі песняр апынуўся ў Ташкенце, ён моцна закахаўся ў перакладчыцу Сомаву з Санкт-Пецярбурга. Колас прысвяціў ёй цэлы цыкл вершаў «Ташкенцкая торба». Гэты цыкл не апублікаваны да сённяшніх дзён. Толькі пару вершаў з гэтага цыкла трапілі ў друк…

Расказваў Алег Лойка і пра іншых беларускіх пісьменнікаў, прыгадваў вучоных, медыкаў, палітыкаў…



Апошнія гады жыцця мой зямляк правёў у родным Слоніме. Гэты горад ён называў сваім першым святлом, прасторам і любоўю. Ён так і пісаў: «Ды я не ведаю. Рос я ў горадзе ці ў вёсцы, бо з кожнай вуліцы і вулічкі гэтага лёгшага абапал Шчары гарадка відаць на ўзгоркавым небасхіле сінія лясы, відаць разлогія палі: вясною — у руні, летам — у спелых нівах, восенню — у срабрыстым павуцінні…».

Алег Лойка любіў родны Слонім, любіў людзей, якія жывуць і жылі ў ім, ці, як ён называў у «гэтай Шчаравай даліне». Ён заўсёды ўсёй душой быў з родным горадам. Любы Слонім — ён шчыра насіў у сэрцы. А Першамай (нарадзіўся 1 мая) у Слоніме для Алега Антонавіча быў найвялікшым днём, які збіраў усіх яго сяброў і сваякоў за адным сталом. Збіраў у бацькоўскай хаце на Зялёнай вуліцы, ці ў цешчынай хаце на Віленскай вуліцы.

Пасля Мінска ён вярнуўся ў Слонім назаўсёды. Жыў у цешчынай хаце, спачатку з жонкай Ліліяй, а потым, калі яе не стала, жыў адзін:

«Мілая!.. Мілая!..» —
Дык як я тое скажу
Па-над тваёй магілаю,
Поруч якой не ляжу…

У апошнія гады жыцця знакамітага слонімца, мне некалькі разоў прыйшлося з ім разам сустракаць Першамай — гэта значыць святкаваць дзень яго нараджэння. Сябра-зямляк Алега Антонавіча — энцыклапедыст і літаратуразнавец з вёскі Вялікая Кракотка Янка Саламевіч, таксама часта бываў у яго слонімскай хаце. А на дзень нараджэння свайго сябра, спадар Янка спяваў народныя песні. А яму дапамагаў Алег Антонавіч. Як яны разам землякі-слонімцы спявалі народныя песні!.. О, гэта трэба было бачыць і чуць! А колькі яны іх ведалі — дзесяткі, сотні… А ці мы сёння зможам за сталом праспяваць хоць адну беларускую народную песню?.. А?.. Праспяваць ад пачатку да канца… А яны спявалі бясконца — адна за адной, якія толькі прыходзілі на памяць. Я і сёння іх бачу разам, чую іх, слухаю іх, яны — перада мной, як жывыя, мае славутыя землякі…

Алег Лойка, бясспрэчна, — асоба вялікая не толькі ў маштабах Беларусі, але і Еўропы. Такімі людзьмі мы павінны ганарыцца, а таксама і ўслаўляць гэтае імя заўсёды. Але ў нас сёння такіх людзей не

ўшаноўваюць, не згадваюць, не цэніць ні пры жыцці, ні нават пасля смерці. А чаму б не адкрыць у Слоніме ў яго гонар мемарыяльную шыльду на будынку ліцэя, дзе ён вучыўся, надаць яго імя гэтаму ліцэю. Устанавіць у Слоніме стыпендыю імя Алега Лойкі лепшым вучням школ горада і навучэнцам вучылішчаў. Стварыць у Слоніме беларускі культурны цэнтр імя Алега Лойкі, дзе наладжваліся б і праводзіліся б літаратурна-музычныя вечары і сустрэчы. Устанавіць помнік нашаму вялікаму земляку і г. д.

Прайшло шмат Першамаеў без Алега Лойкі і мінула нямала гадоў бяспамяцтва. Цяпер я разумею, чаму ён свае апошнія кнігі так і назваў: «Плач зямлі», «Дрэва жыцця», «Галгофа», «Неўміручасць», «Ушанаванне». Алег Антонавіч быў не толькі таленавітым, але і мудрым, мужным чалавекам. Ён ўсё прадбачыў наперад, адчуваў час, і са шчырым спачуваннем хацеў нам дапамагчы:

Не дабягу, — дайду,
Не дайду, — дапаўзу
У кожную бяду,
У кожную слязу…

## Паэт, які збіраў сонца

У верасні 1996 года на летніку ў вёсцы Чамяры недалёка ад Слоніма мы адзначалі 60-годдзе слонімскага паэта і грамадскага актывіста Рудольфа Пастухова. На юбілей тады прыехалі яго самыя блізкія сябры. Быў сонечны і цёплы верасень, такі ціхі, як сёлета. Былі ўсмешкі сяброў, пажаданні і вершы, прысвечаныя юбіляру. Ну, напрыклад, як гэтыя радкі Алеся Чобата:

За вёскай Чамяры Палеткі і бары —
Прыгожа так, што не знаходзіш слова.
І хоць абрыдла жыць,
А добра тут пабыць
На сотках у Рудольфа Пастухова…

Рудольф шмат курыў, быў вельмі спакойны і шчаслівы.
—Усе чамарыкі прыедуць, — сказаў ён і ўсміхнуўся.




*Рудольф Пастухоў*

—Хто-хто? — перапытаў я.

— Чумарыкі. Такое ў нас сяброўскае таварыства ёсць. Мы яго самі прыдумалі і стварылі. Сюды ўваходзяць тыя, хто добра разумее гумар і жарты, хто фізічна здаровы і мае здольнасці ў літаратуры, журналістыцы, культуры, музыцы і г. д. — растлумачыў Рудольф Аляксеевіч. А пасля дадаў: «Сёння на маім юбілеі ў чумарыкі прымем і цябе. Ты ў нас будзеш самым маладым чумарыкам».

Калі сабраліся ўсе госці, пачалася працэдура прыняцця мяне ў чумарыкі. Смеху было на ўсю чамяроўскую дачу. Нават розныя гумарыстычныя перадачы не змаглі б канкурыраваць у той дзень з вясёлай кампаніяй слонімскіх чумарыкаў…

Такім запомніўся мне той апошні юбілей Рудольфа Пастухова — тутэйшага паэта, інтэлігента, шчырага, вясёлага чалавека і адданага сябра. Хто тады ў верасні 1996 года мог падумаць, што праз год яго не стане? Раптоўна і нечакана… А мы з ім яшчэ шмат думалі і выношвалі п’есу «Камера», якая засталася незакончанай. Хацелі разам напісаць пра сталінскія лагеры і паставіць на сцэне Слонімскага драматычнага тэатра. Гэта яго верш «Курапаты» у кастрычніку 1988 года быў надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» у перакладзе Івана Сяргейчыка і выклікаў шмат станоўчых водгукаў. Моцная дакладная рыфма гучала водгукамі стрэлаў, якія знішчалі тут усё жывое, нават тое, што забіць нельга:

Не Бухенвальд тут,
Не Хатынь,
А — Курапаты.
Замшэлы лес —
Куды ні кінь,
Ды скрып лапаты.
І сэрца стук

На кожны гук
Смяротна раніць,
Жалобна б'е
Паклон зямлі
Людская памяць…

Рудольф Пастухоў рыхтаваў да друку свой другі зборнік вершаў, актыўна займаўся перакладамі з беларускай мовы на рускую. А першы і адзіны ягоны зборнік вершаў выйшаў у Слонімскай друкарні ў 1994 годзе з кароткай назвай «Судьба». Прадмову да зборніка напісала Данута Бічэль, а пасляслоўе «Гісторыя аднаго з нас» — Алесь Чобат. Данута Бічэль сваю прадмову да кнігі назвала «Паэт з берагоў Шчары». Яна пачыналася такімі радкамі: «Звычайны, чалавечы, людскі лёс… Але ці звычайны? А калі незвычайны, дык ці не таму, што паэт Рудольф Пастухоў жыве ў гэтым Краі? Ён — рускі, але тутэйшы, свой. Ён — электрык, але інтэлігент. У яго ўсё проста — і адначасова ўсё заглыблена, перакручана, ускладнена. Ён — паэт, але ўжо ў сталым веку выдае сваю кнігу. Але добрую…».

Кніга, сапраўды, атрымалася добрая. А вось гэтыя радкі мне назаўсёды запалі ў душу:

Это просто ставни скрипят,
Как шаги на снегу…
…Я во сне на подушке распят —
Но к тебе распятым бегу.

Часта Рудольф Пастухоў прыносіў мне свае вершы. «Няхай будуць у тваім хатнім архіве. Можа, калі спатрэбяцца», — казаў ён. Наогул, калі мне рабілася сумна і адзінока, я тэлефанаваў Рудольфу Аляксеевічу. «Прыязджай да мяне», — казаў ён у тэлефонную трубку і чакаў майго візіту. Мы гутарылі пра жыццё, пра палітыку, пра літаратуру. Ён ніколі нікому не зайздросціў, заўсёды быў шчырым старэйшым сябрам, дарадцам, кансультантам. Такім ён і застаўся ў маёй памяці. А лёс Рудольфа Пастухова не песціў. Рана застаўся без бацькоў. Рос і выхоўваўся ў ГУЛАГу. Першы верш з'явіўся ў насценнай газеце Буйскай дзіцячай працоўнай калоніі Кастрамской вобласці (Расія) у 1951 годзе. Пра што ён пісаў, нават сам аўтар не памятаў.



Шляхі-дарогі паэта кідалі па ўсім былым Савецкім Саюзе. У 1970 годзе ён прыехаў у Слонім, каб застацца тут на ўсё жыццё. Праз год у Слонімскай райгазеце з'явілася ягоная першая паэтычная падборка. А аднойчы, напісаўшы добрую нізку вершаў, паехаў Рудольф Пастухоў у «Гродзенскую праўду» да Васіля Быкава, які працаваў тады ў газеце літкансультантам. Васіль Уладзіміравіч уважліва прачытаў творы, пагутарыў з паэтам са Слоніма, а праз пэўны час лепшыя з вершаў з'явіліся на старонках абласной газеты. Пасля былі новыя публікацыі.

Вершы паэта з берагоў Шчары друкаваліся ў іншых рэспубліканскіх і абласных газетах і часопісах, а таксама ў зборніках «Дзень паэзіі-98», «Золак над Шчарай», расійскіх выданнях. Быў час, калі Рудольф Пастухоў актыўна займаўся ў Слоніме грамадска-палітычнай дзейнасцю, выбіраўся дэпутатам Слонімскага гарсавета. Ён быў першым кіраўніком Слонімскай суполкі Беларускага Народнага фронту. Але заўсёды і ўсюды пісаў вершы. Пісаў іх за кратамі, у тайзе, на лесапавале, у каменным кар'еры, у доме культуры, на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы, дзе да пенсіі працаваў электраманцёрам. Але лепш за ўсё яму пісалася дома ў слонімскай кватэры і на летніку ў Чамярах:

Я солнце собираю по лучам,
В охапку, как большой букет сирени.
Несу тебе — пусть светит по ночам,
Убрав из жизни сумерки и тени…

Рудольфа Пастухова няма ўжо 19 гадоў. 28 верасня 2016 года яму споўнілася б 80. Шкада, што такія людзі нас рана пакінулі. Але ў памяці тых, хто ведаў яго і чытаў ягоныя творы, паэт застанецца надоўга. Ну, як у яго паэтычных радках:

Мне очень надо встретиться с тобой,
Что б от тебя до смерти не уйти…

*Верасень 2016 г.*

## Сцежка лёсу Васіля Гадулькі




У 2016 годзе ў Беластоку выйшла з друку ўнікальная кніга «Па-над сцежкай лёсу». Яна з’явілася ў бібліятэцы беларускага літаратурнага аб’яднання «Белавежа». Выданне было прымеркавана да 70-годдзя берасцейскага паэта з-пад Жабінкі Васіля Гадулькі (1946–1993).

Гэта літаратурная і жыццёвая спадчына паэта, які жыў у правінцыі і які меў вялікі талент да літаратурнай творчасці і перакладчыцкай дзейнасці. На вялікі жаль, мы часам не заўважаем творчых людзей з-за будзённасці дзён і розных клопатаў. А гэтыя людзі жывуць з намі побач, пішуць добрыя творы, мараць мець свае ўласныя кнігі, прэзентацыі, сустрэчы. Але многім сёння гэта адолець ў Беларусі не пад сілу.

Пішу гэты матэрыял, а з Мінска прыходзіць сумная вестка — загінуў малады 33-гадовы паэт Ігар Кананові́ч. Страшна ў гэта паверыць. А колькі мы за апошнія 20 гадоў страцілі маладых і таленавітых асобаў? Дзесяткі! Адны па ўласным жаданні пайшлі з жыцця ад розных дэпрэсій і праблемаў, іншыя — памерлі ад хваробаў.

Васіль Гадулька пражыў 47 гадоў. Пры жыцці ён так і не дачакаўся свайго зборніка вершаў. Ён быў сціплым чалавекам і сціпла жыў. У пачатку 1990-х гадоў паэт даслаў у мінскі часопіс кнігу сваіх вершаў і чакаў, што з’явіцца зборнічак у бібліятэчцы «Маладосці», якая тады існавала, але зборнік так і не пабачыў свет. Рукапіс ужо пасля смерці адшукалі ў «Маладосці» на самым пыльным дне рэдакцыйнай шафы — яго нават ніхто і не прачытаў. А калі б тады, пры жыцці, уважліва аднесліся б да рукапісаў паэта з Берасцейшчыны, і калі б зборнік быў выдадзены — магчыма лёс Васіля Гадулькі склаўся б інакш. Тым больш, што ён ведаў некалькі моў, а на нямецкай



і ангельскай нават спрабаваў пісаць вершы. І краіна пачула б голас паэта, які жыў у вёсцы Федзькавічы Жабінкаўскага раёна. Але такога шчасця не адбылося. І таленавіты вясковы беларус працаваў у калгасе, штодня хадзіў на палявыя работы. Ён выкідваў гной з кароўнікаў, буртаваў буракі, вазіў і скірдаваў салому — сумленна адпрацоўваў свае «выхады». Ён жыў адзін, ён жыў сярод вяскоўцаў, якім да лямпачкі былі замежныя мовы і паэзія. Ён жыў самотна і пісаў, як сказаў Леанід Галубовіч, «самотна-сонечныя вершы». Ён пісаў пра разумную кабылу, пра ранак у лесе, пра маці і могілкі, пра чаромху і пра навальніцу. Пісаў пра тое, што бачыў, чуў, ведаў, сустракаў, пра тое, што было побач. Пісаў і… піў віно:


*Васіль Гадулька*

Чырвоным вермутам зара
Пральецца на фіранкі…
Што ж, па апошняй, і — пара…
Няхай прасухнуць шклянкі.

Беластоцкае выданне Васіля Гадулькі «Па-над сцежкай лёсу» адкрываецца аўтабіяграфіяй паэта. Сумнай аўтабіяграфіяй. Яна завяршаецца радкамі: «Рыхтаваў зборнік вершаў і баек, але надрукаваць яго не паспеў: зімой 1992 года, у страшэннай галечы і без сродкаў для існавання, незразумелы, расчараваны і пакінуты ўсімі трагічна памёр і пахаваны на могілках в. Федзькавічы Жабінкаўскага раёна». Гэта біяграфія была напісана асабістай рукой Васіля. Памыліўся паэт усяго на паўгода. Насамрэч ён памёр 15 чэрвеня 1993 года. Усё астатняе сумленню не падлягае, як піша рэдактар выдання.

Толькі пасля смерці Васіля Гадулькі, у 2004 годзе паэт і публіцыст Леанід Галубовіч сабраў і выдаў яго першую кнігу «Голас», куды ўвайшлі ўспаміны сяброў, знаёмых і калег па пяры. А таксама выбранае з яго паэтычнай спадчыны. А потым была яшчэ падборка вершаў у калектыўным зборніку «Незабыўныя галасы» (Мінск, 2008).

І вось, дзякуючы «Белавежы», новае выданне Васіля Гадулькі. Выданне адметнае. Сюды ўвайшлі вершы, байкі, паэма і вянок санетаў, публіцыстыка аўтара. А яшчэ — ліставанне. Пісьмы Васіля Гадулькі да гарадзенскай паэткі Галіны Самойла. Гэта тактоўныя, шчырыя, чуллівыя і адкрытыя лісты, поўныя суму і надзеі, разважанняў і вершаў. Кожны ліст паэта Галіна Самойла каментуе. Васямнаццаты ліст да Галіны Васіль не адаслаў, ён быў знойдзены ў архіве паэта. Ён пісаў: «У мяне справы яшчэ больш пагоршыліся — на рабоце. За такую дробязь, якую плацяць, пражыць становіцца зусім немагчыма…». Галіна Самойла каментуе: «Васіль не адаслаў у Гародню свой апошні ліст. Я не напісала яму ў папярэднім, што мой першы сынок, Юрачка, нарадзіўся з парокам сэрца, што ў яго часта бываюць праступы, што рэаніматолаг настойліва раіць рабіць аперацыю, калі ён крыху падрасце. У жніўні 1991 года я паехала з ім у Кіеў, дзе ў клініцы Амосава яго прааперыравалі, пасляаперацыйны перыяд быў вельмі цяжкім. Не пісала я таксама аб тым, што мой брат і муж маюць вялікія праблемы з алкаголем. З гэтай прычыны мяне мала хто разумеў, але усё ж у студзені 1991 года я нарадзіла другога сына. У хуткім часе «згарэлі» усе мае і бацькоўскія зберажэнні, і мне было вельмі цяжка матэрыяльна. Але сёння менавіта малодшы сын — мая апора…».

Лёс творчых людзей на Беларусі сёння не дужа спакойны і добры. Ён няпростым быў заўсёды і ва ўсе стагоддзі, а цяпер, відаць, найцяжэйшы, найперш з матэрыяльнага і маральнага бакоў. І не ўсе гэта вытрымліваюць і не ўсім удаецца знайсці выйсце, выкарабкацца, выжыць, пераадолець час і сябе. Калі мужная і таленавітая паэтка Галіна Самойла змагла пераадолець жыццёвыя цяжкасці і праблемы, то Васіль Гадулька — не змог:

Пахіснуўся мой дух,
І абрыдла жыццё,
У якім нават двух
Родных сэрцаў зліццё
Не ратуе ад здрад,
Ад знаходак і страт,
Ад уласнай віны…



Безумоўна, Васіль Гадулька быў таленавітым ад Бога чалавекам. Вершы яго магутныя ва ўсіх адносінах. Яны не толькі «прыгожа ўспыхваюць і згараюць феерверкам асляпляльных промняў», а яны і сэрца саграваюць, і запамінаюцца.

У першым зборніку, укладзеным Леанідам Галубовічам, які называўся «Голас», мне спадабалася згадка пра Гадульку паэта Міколы Купрэева. Яна называецца «У хаце паэта». Невялікая згадка. Але — жывая, канкрэтная. Мікола Купрэеў прыгадвае, як першы раз зімой завітаў у хату Васіля. Пазнаёміліся. Выпілі бутэльку «чарніла», а потым… чатыры флаконы адэкалону. Былі яшчэ там цыбуліны, цёмна-жоўтае сала, прапахлае драўлянскай старажытнасцю, і хлеб. Купрэеў убачыў яго самотныя вочы, самотнай была і паэзія: «У ёй — душа ці не ўсяго гадулькаўскага пакалення — пакалення выстылага на халодных раздарожжах…» — сказаў Мікола Купрэеў. Але самым самотным у гэтай невялікай згадцы быў апошні абзац: «Мы развіталіся з ім на заснежаным падворку. Зноў трэба было пратоптваць сабе дарогу… І я паціху-памалу, намацваючы ў сумётах сцежку, пачаў выбірацца адтуль. А ён — застаўся…».

Так, Васіль Гадулька назаўсёды застаўся ў роднай вёсцы, побач з маці і з бацькам. І засталася нам яго паэзія, яго радкі:

Прахапіўся. Падумаў з палёгкай:
«Дзякуй Богу, прымроіўся крык…
Ты, жыццё, мяне ў снах не палохай —
Я ж ад явы яшчэ не адвык».

*2016*

## Рэдактар, які нас аб'ядноўваў вакол «Новага часу»

Не магу паверыць, што няма ўжо з намі побач Аляксея Сцяпанавіча Караля. Ён з Сінгапуру дасылаў мне СМС-паведамленні, што ў лістападзе сустрэнемся ў Мінску, што ўсё добра…

Калі ўдавалася вырвацца на адзін дзень у Мінск, загадзя яму тэлефанаваў, і мы спатыкаліся на нашым старым месцы каля станцыі



*Аляксей Кароль*

метро «Плошча Перамогі». А потым доўга гутарылі пра жыццё, гісторыю, СМІ. Доўга гэта — гадзінку-паўтары і я, развітаўшыся з Аляксеем Сцяпанавічам, потым бег па сваіх справах, каб за дзень усё паспець зрабіць і вярнуцца ў Слонім.

Кожны раз, калі мы сустракаліся, Аляксей Сцяпанавіч цікавіўся жыццём у правінцыі, прасіў пісаць, як жывуць людзі ў глыбінцы, раіў шукаць новых асобаў, пра якіх варта напісаць добрыя словы. Ён мне заўсёды тэлефанаваў, калі я на тыдзень-другі знікаў у сваёй правінцыі, пытаўся, дзе я і што я пішу для газеты «Новы час». Ён заўсёды натхняў на творчыя пошукі, часам рабіў заўвагі па апублікаваных раней артыкулах і вельмі шчыра хваліў, калі матэрыялы траплялі на старонкі «Новага часу» вартыя і чытэльныя. Мы з ім часта спрачаліся па праграме тэлебачання, я быў супраць, каб праграма займала месца ў газеце, а ён казаў, што трэба праграму друкаваць, бо ёсць шмат чытачоў, якія карыстаюцца гэтай праграмай. Ён вельмі хацеў і марыў, каб павялічыць некалькі старонак у газеце для гутарак з цікавымі людзьмі, для гістарычных і культуралагічных публікацый. Ён радаваўся, што пры газеце стварылася бібліятэчка выдання кніг…

Аляксей Сцяпанавіч вельмі шчыра, проста і лёгка стараўся аб’яднаць нас вакол газеты «Новы час». Ён прасіў мяне знаходзіць новых аўтараў для газеты, якія жывуць у іншых рэгіёнах Беларусі, але займаюцца вывучэннем свайго краю і ўмеюць пісаць. «Добрыя матэрыялы мы заўсёды апублікуем, няхай не адразу, але апублікуем!» — казаў Аляксей Сцяпанавіч…

Я вельмі чакаў яго з далёкай краіны і верыў, што наш любы рэдактар ачуняе, што мы зноў спаткаемся. Бо пасля бальніцы ён мяне запэўніў, калі мы сустрэліся ў Мінску, што «усё, Сярожа, будзе добра. Страху вялікага няма. Наша задача — рабіць цікавай газету і пашыраць яе межы распаўсюджвання…». Але, аказалася, наадварот…



І яшчэ. Пры кожнай сустрэчы, і гэта адчувалася, Аляксея Сцяпанавіча хваляваў лёс Беларусі, яе мову, яе незалежнасці. У палітыцы ён разбіраўся добра. Пра палітку ён мог гутарыць доўга, прыводзячы канкрэтныя прыклады з мінулых стагоддзяў і з сённяшніх дзён…

Дзякуй Вам за ўсё, Аляксей Сцяпанавіч! За Вашу падтрымку, за Вашы парады, за Вашу чалавечую шчырасць!

*Верасень 2015 г.*

## Ён мяне не мінаў, ён заўсёды клікаў



*Віктар Сырыца*

Раптоўны адыход Віктара Сырыцы ў вечнасць, як напамін нам усім: не шкадуйце добрых слоў, не адкладвайце сустрэч, не губляйце сувязі з сябрамі, часцей тэлефануйце, прыязджайце адзін да аднаго, таму што сябры могуць пакінуць гэты свет вельмі неспадзявана. Так, як пакінуў нас Віктар Сырыца — выдатны і выбітны грамадскі дзеяч, гісторык, выкладчык, чалавек, які сябраваў з намі, які нас ведаў і любіў, паважаў і цаніў, які актыўна пашыраў сярод нас веды пра гісторыю роднага краю, які рэкламаваў нашу творчасць і вучыў нас быць беларусамі. Такіх людзей нам трэба берагчы і хацелася б, каб яны жылі вельмі доўга-доўга. Але хаценні нашы не заўсёды спраўджваюцца… На вялікі жаль…

Нават і не памятаю, дзе я і калі пазнаёміўся з Віктарам Сырыцам з Баранавіч. Але пазнаёміўся даўно. Магчыма на нейкіх сустрэчах у Мінску, звязаных з Таварыствам беларускай мовы ці з грамадскапалітычнай дзейнасцю. Спадар Віктар стараўся пытанні вырашаць неяк прыватна, спакойна, канкрэтна, каб яму ніхто не перашкаджаў пагутарыць з чалавекам, сур’ёзна аб справах дамовіцца, нікуды не

спяшацца, не бегчы. І любіў тых людзей, якія яму адказвалі на яго просьбы і прапановы згодай. Ды і прапановы ад Віктара заўсёды былі цікавыя і сур'ёзныя.

Некалькі гадоў таму тэлефануе ён мне і кажа: «Што ты робіш у бліжэйшы выхадны дзень? І што будуць рабіць твае сябры? Ёсць прапанова паехаць з намі па мясцінах Адама Міцкевіча, можам да вас заехаць у Слонім на аўтобусе і вас забраць і прывесці назад». Прапанова спадабалася. Нас сабралася некалькі чалавек, прыехаў аўтобус і мы паехалі ў вандроўку па Міцкевічавых мясцінах. Пабывалі ў Навагрудку, Валеўцы, на возеры Свіцязь. Наведалі таксама у вёсцы Карчова Камень філарэтаў, прагуляліся па парку колішняга маёнтка Верашчакаў Туганавічы, куды прыязджалі філаматы-філарэты з Ігнатам Дамейкам, які быў сваяком уладальнікаў маёнтка, завіталі і ў Завоссе ў дом-музей Адама Міцкевіча. Цікавая і карысная была вандроўка. Тыя, хто са мной паехалі, да сённяшніх дзён прыгадваюць тую вандроўку і памятаюць яе арганізатара Віктара Сырыцу.

Потым былі іншыя сустрэчы, перапіскі, лісты. Праўда, я яго радзей бачыў асабіста, чым сябры і аднадумцы ў Баранавічах, але ён мяне стараўся не мінаць, ён заўсёды клікаў. Асабліва ў апошнія гады. Відаць, імкнуўся і мяне неяк актыўней выводзіць «у людзі», трохі адарваць ад працы, даць развеяцца, сустрэцца з людзьмі, пагутарыць, абмеркаваць справы. І проста па-сяброўску сустрэцца і пацiснуць адзін аднаму руку. Памятаю, як ён за некалькі месяцаў загадзя тэлефанаваў мне і прасіў прыняць удзел на сядзібе ТБМ у вёсцы Русіны каля Баранавічаў у канферэнцыі, прысвечанай 100-годдзю Першай сусветнай вайны. Потым Віктар тэлефанаваў яшчэ шмат разоў. Я яму казаў, што абавязкова буду, не хвалюйся. Ён зноў пісаў мне і тэлефанаваў, каб быць на сто адсоткаў упэўненым, што я прыеду. Я пагадзіўся і… не шкадую. Канферэнцыя вельмі спадабалася, былі цікавыя выступоўцы, даклады. Ды і сустрэўся са знаёмымі людзьмі, сябрамі. Пагутарыў і з Віктарам. А калі развітваўся з ім, ён мне сказаў: «Сяргей, я цябе мінаць не буду, хачу, каб ты і твае землякі, часцей бывалі ў нас на розных мерапрыемствах. Трэба нам быць разам».

Баранавіцкая арганізацыя ТБМ, якую ўзначальваў Віктар Сырыца, праводзіла не толькі розныя мерапрыемствы, сустрэчы, але і віктарыны. Памятаеце, прайшлі віктарыны, прысвечаныя Валянціну



Таўлаю, Яну Развадоўскаму, Мікалаю Радзівілу Чорнаму і іншым вялікім асобам нашай Бацькаўшчыны. Неяк прачытаў у СМІ пра віктарыну, прысвечаную 500-м угодкам Чорнага, і думаю: трэба сябе праверыць, як я экспромтам ведаю Чорнага. Адказаў на пытанні і выслаў на адрас Баранавіцкага ТБМ. Праз пэўны час тэлефануе Віктар і кажа: «Віншую цябе!» «З чым?», — пытаюся. «Як з чым? Ты ж заняў трэцяе месца ў віктарыне, прысвечанай Чорнаму. Таму прыязджай па падарунак. Бяры яшчэ слонімскіх хлопцаў і прыязджайце. Будзе Уладзімір Арлоў… Будзе цікава…». «Віктар, — кажу яму, — я ж гэта не для віктарыны, я проста экзаменаваў сам сябе і дзеля сябе. Аддайце той прыз маладым асобам, якія прымалі ўдзел у віктарыне». «Не-не, прыязджай ты і табе ўручым прыз. Паліва кампенсуем», — стаяў на сваім Віктар Антонавіч.

Прыйшлося ехаць у Баранавічы. Там на сядзібе ТБМ, сапраўды, было людна і святочна. Зноў сустрэчы, новыя знаёмствы і планы на будучае, якія прапаноўваў Віктар…

Але многім нашым планам і задумкам ажыццявіцца не ўдалося. Не стала Віктара Сырыцы — светлага, шчырага, надзейнага сябра і актывіста, які любіў родную мову, Беларусь, волю і ўсіх нас.

*Лістапад 2015 г.*

## Імянны паказнік

### А



### Б



### В



### Г







### Д



### Е



### Ж



### З



### І



### К

# Змест



**Чыгрын, С.**

**Ч-11** Час спагадлівым не бывае : гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 144 с.

ISBN 978-985-7089-98-7.??

Кніга Сяргея Чыгрына пра лёсы беларусаў ХХ — пачатку ХХІ стагоддзяў. У ёй чытачы прачытаюць пра малавядомыя раней факты з жыцця і дзейнасці Адольфа Зенюка, Уладзіміра і Яўгена Хлябцэвічаў, Уладыслава Казлоўшчыка, Георгія Пеха, Міхася Ліста, Пятра Першукевіча, Андрэя Чэмера, Уладзіміра Урбановіча, Алега Лойкі і іншым асобаў нашай Бацькаўшчыны.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

ЧАС СПАГАДЛІВЫМ НЕ БЫВАЕ

*Гісторыка-краязнаўчыя*
*і літаратуразнаўчыя артыкулы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Набор *С. Чыгрына*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 10.12.2016. Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 8,4. Ул.-выд. арк. 5,84.
Наклад 50 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.